# крыніца

ISSN 0234-1387

жнівень 1989



мінулае супраць будучыні







вернісаж

Ірына БЯЛЬЗАЦКАЯ

# зрухі

## НАТАТКІ АБ ТВОРЧАСЦІ МІХАЛА АНЕМПАДЗІСТАВА

Чым адрозніваецца Міхал Анемпадзістаў ад большасці мінскіх мастакоў? Вам здаецца, што гэта простае пытанне? Хто ведае...

Па-першае, ён не мае вышэйшае адукацыі. Здарылася так, што пасля заканчэння мастацкага вучылішча ён паступаў у інстытут — і праваліўся.

Далей, ягонае галоўнае захапленне — плакат. Апроч таго, Анемпадзістаў займаецца жывапісам, але амаль выключна для сябе. Амаль усе яго жывапісныя работы нечаканыя па каляровых спалучэннях, па нагрувашчванні ламаных пласкасцей і аб'ёмаў. Яму гэта падабаецца.

Перад намі жывапісец, рамантык, які працуе ў такім далёкім ад сантыментаў жанры, як плакат. Хіба гэта само па сабе не дзіўна? Але сказаўшы пра тое, што крыху адрознівае Міхала ад калег-мастакоў, звернемся да таго, што робіць яго адметнай постаццю на палітры сённяшняга мастацтва.

Для Анемпадзістава плакат — гэта не проста публіцыстыка, не проста прапаганда. Гэта — зліццё публіцыстычнага плаката і мастацтва. Бо для таго, каб глядач не прайшоў міма, каб яго ўспрыняцце актывізавалася, а свядомасць і воля да дзеі былі накіраваны ў патрэбным напрамку, плакатыст павінен выкарыстоўваць самыя разнастайныя мастацкія сродкі, пачынаючы ад выяўленчых метафар і суперапегорый і канчаючы агульнапрынятымі сімваламі. Хаця, калі Міхал Анемпадзістаў сядае працаваць, дык не надта займае сябе думкамі пра тое, каб быць правільна зразуметым. Ён проста самавыяўляецца. А яшчэ — думае пра тое, як успрымуць плакат ягоныя сябры і блізкія, і гэта, напэўна, правільна. Наўрад ці мастак, які арыентуецца ў сваёй працы на абстрактнага, сярэднестатыстычнага гледача, зможа паспяхова займацца творчасцю. Глядач, для якога творыць, павінен мець сваё аблічча, погляд, постаць, імя — тады і астатнімі твор будзе ўспрыняты правільна. Гэта Міхалава пазіцыя. А пра некан'юнктурнасць ягоных работ гаворыць хоць бы тое, што большасць яго плакатаў — аўтарскія. Гэта значыць, што яны існуюць у адзіным экземпляры, захоўваюцца ў майстэрні мастака і не тыражыруюцца, хоць плакат сам па сабе — паліграфічнае ўзнаўленне арыгінала.

А вось аб стане беларускага плаката гаворыць не дужа аптымістычна.

Заканчэнне на стар. 20

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

КРЫНІЦА

№ 8 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.06.89.
Падпісана да друку 28.07.89.
АТ 05307.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,3.
Тыраж 51 220 экз.
Зак. 265. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

На 1-й стар. вокладкі: плакат Яўгена СКУРАТОВІЧА



Фота Яўгена СКУРАТОВІЧА

люстраная зала

# «уратуйце нашу школу ад настаўніка...»

Пішу вам адзін з настаўнікаў, можна лічыць, пачаткоўцаў. Вось ужо 6 гадоў, як я працую ў школе. Колькі ж пра яе напісана, паказана — «а воз и ныне там». Не засталася ўбаку і «Крыніца». Я вельмі доўга чакаў, што ж скажа гэты часопіс пра школу. Мне здаецца, «Крыніца» б'е ў адзін бок — супраць настаўнікаў, і маладых, і старых. Так, таленавітых, сапраўдных наватараў, Педагогаў-выхавацеляў сярод нас мала цяпер і, здаецца, не стане больш і ў бліжэйшай будучыні. Школа ў глухім тупіку. Няма жыватворнае сілы, іскры ва ўсіх справах.

Добра вы напісалі: «Настаўнік, выхавай вучня». А як да яго прабіцца, стаць сябрам, таварышам, калі яны гэтага не разумеюць? Калі ім прыносяць задавальненне гультайства, спажывецтва, калі з боку бацькоў школа, настаўнік рэдка бачаць працягнутую руку, калі бацькоўскі камітэт ёсць толькі на паперы: дапамогі ад яго ніякае і г. д.

Сучасныя бацькі глядзяць на школу толькі як на перашкоду дзецям быць дарослымі: гэтага нельга, таго нельга... А пасля школы і гэта можна, і тое.

Але крыўдна і балюча, калі ты адзін: адзін са сваімі пачынаннямі і памкненнямі. Твае ідэі нікому не патрэбныя, іх прымаюць у штыкі. Вакол цішыня ды спакой, усё наладжана, цячэ сабе мерна, а тут такі спрытны з маладых...Калі я пачынаў вучыць, колькі ж было ў мяне ілюзій наконт нашай школы! Я думаў, калектыў вырашае, як і што, а выявілася — усё інакш. Ёсць дырэктар, завуч, набліжаныя — і яны вось чыняць свае справы. Усё пачынаецца з нагрузкі. Асобы, якія маюць уладу, сябе не пакрыўдзяць (дырэктар, завуч), а вось няўгоднаму, маладому — «кот у торбе». А часам бывае «ціхая вайна». Гэта калі пачынаюцца пасланні ў вышэйшыя інстанцыі, прыязджаюць праверкі, «факты не пацвярджаюцца» і ўсё становіцца на ранейшыя месцы. Бо перамагае мацнейшы. Было і ў нашай школе гэта не раз. А потым гэтыя ж «героі» вучаць маральнасці, любові, патрыятызму, вернасці. А яшчэ горш, калі ля стырна стаіць чалавек, зусім нядаўна пазбаўлены звання педагога. Звычайна ў такога чалавека ёсць нехта ў «высокіх крэслах». І твая кандыдатура пры назначэнні адводзіцца.

Не падумайце, што я пішу з-за «партфеля». Бог з ім, добра быць і настаўнікам. Толькі вось чамусьці правяраючыя ідуць на ўрок да цябе, а не да «вярхоўных». Хоць, здаецца, у іх, умудроных вопытам работы на ніве асветы, трэба вучыцца ўсім нам, у іх павінны правяраючыя ўбачыць усё новае і прагрэсіўнае.

А вось зарплату ты атрымаеш каля 130—150 рублёў (рэдка 180), тым часам як «бацькі» — каля 300. Вось і ўся сацыяльная справядлівасць. Вось і прынцып сацыялізму, вядомы ўсім нам.

Яшчэ ў дзевятым нумары «Крыніцы» я прачытаў тое, што бачыў у інстытуце, потым у вёсцы: артыкул «Сага пра сельскае настаўніцтва». І самае страшнае тое, што так было і так ёсць.

А як праходзіць атэстацыя — гэта проста смешна. Хочацца старшыні калгаса ці парторгу перашкодзіць, і ён гэта зробіць: «неактыўны», «не ўдзельнічае ў мастацкай самадзейнасці» — і няма граматы, якую ты заслужыў, падзякі, заахвочвання.

А «добрае ж слова і кату прыемнае»... Узняла школьная рэформа хвалі прагрэсу, ды разбіліся яны аб наладжаны побыт (стыль работы), і зноў цячэ ручаёк — ціхі, спакойны.

Толькі вось у газетах ды часопісах пішуць, што цікавейшае, разнастайнейшае стала жыццё. А на самай справе не па-газетнаму, не пачасопіснаму выходзіць.

І апошняе: вы, напэўна, і не надрукуеце гэты ліст. Што ж, як вам лепей: кіньце яго ў рэдакцыйны кош. Але хочацца, каб у часопісе тэма школы знаходзіла месца заўсёды.

**Яўген Францавіч САЙ**

* * *

Ратаваць я нікога не хачу. А хачу сказаць словы падзякі маім настаўнікам, якім я многім абавязаная. Вялікі дзякуй Тамары Міхайлаўне Сакаловай — настаўніцы рускай мовы і літаратуры. Яе ўрокі былі маімі любімымі ўрокамі. Таццяна Іванаўна Мірашнічэнка дала мне багаты запас вёдаў па эканамічнай геаграфіі. Дзякуй Ягоравай Галіне Фёдараўне. На яе ўроках гісторыі і грамадазнаўства я адчувала сябе вольнаю, не баялася дрэнных адзнак. І цяпер, дзякуючы набытым ведам, па палітэканоміі ў мяне «выдатна».

Я з малодшых класаў не любіла матэматыку. Гэтыя ўрокі былі для мяне пакутаю. Але да тае пары, пакуль іх не пачала весці выдатная настаўніца — Яцкоўская Ала Барысаўна. На любым уроку па розных пытаннях у нас узнікалі бурныя спрэчкі, дыскусіі, свае варыянты рашэння таго ці іншага задання. Ніхто не баяўся няправільна адказаць. Цяпер я вельмі свабодна адчуваю сябе на занятках у вучылішчы, не баюся, што атрымаю дрэнную адзнаку ці мяне паправяць. Проста ў школе ў мяне выпрацавалася звычка — на ўсё мець свой погляд. І што самае галоўнае — гэта ўмець яго выказаць.

На ўроках хіміі заўсёды была поўная цішыня. Вяла яе ў нас любімая настаўніца — Аскоцкая Соф'я Міхайлаўна. Нягледзячы на ўсю строгасць і патрабавальнасць, гэта вельмі добры і чулы чалавек.

Асаблівыя словы падзякі і павагі я хачу сказаць класнаму кіраўніку 10-га «В» — Касёнак Ларысе Рыгораўне. Калі шчыра, то ўрокі біялогіі не былі маімі любімымі. Але шчырыню душы, павагу да нас, імкненне заўсёды дапамагчы, ва ўсім разабрацца, параіцца я буду памятаць заўсёды, дарагая Вы наша Ларыса Рыгораўна! Як жа Вам нялёгка было з намі, што так не слухаліся Вас.

Дзякуй Вам за ўсё тое светлае, чыстае, добрае, што мы ўзялі з Вашага выхавання. Дзякуй.

Вельмі прашу надрукаваць мой ліст. Хачу, каб пра такіх настаўнікаў ведала не толькі 25-ая школа.

З павагаю, выпускніца 10-га «В» класа СШ № 25

**Наталля БЯЛЯЕВА**

* * *

...Мне думаецца, што выйсце з гэтага становішча адно. Рэзка і грунтоўна змяніць старую схему «настаўнік — грамадства». Павышэнне зарплаты настаўніка — гэта добра, але ўпэўнены — нават не паўмера. Неабходна мець усесаюзнае «веча» настаўнікаў-наватараў з заканадаўчым правам і як мага больш поўную дэмакратызацыю ў рашэнні ўсіх пытанняў. Не школу трэба прымацоўваць да эканомікі, а эканоміку да школы. Іерархізм, які з'явіўся здаўна ў грамадстве, непрымальны ў новай школе, дзе галоўная асоба, як мы прывыклі чуць,— настаўнік, другая галоўная асоба — вучань. Дык вось, не адчувае і не ўсведамляе сябе наш настаўнік галоўнай асобаю ў цяперашняй школе. Не толькі ад сябе гавару. Не аднаму мне тое вядома. Галоўная асоба ў школе — «старая схема» з дзейным функцыянерам, і *добрая* школа там, дзе з ім пашанцуе вучням, настаўнікам і бацькам. А калі не пашанцуе?..

Няцяжка заўважыць шаблон у адносінах да попыту і патрэб маладых настаўнікаў. Дырэктары і іншыя прадстаўнікі ўлады ў вёсцы, скажам, чакаюць цяпер гэткую «залатую рыбку», пакорліва і цярпліва пераносяць усе складанасці ускладзенай на яе місіі ў рэальных умовах вёскі, што памірае. А вось знайсці магчымасць, дапамагчы, зрабіўшы пераход на «другую арбіту жыцця» пачаткоўцам як мага менш хваравіта,— не ва ўсіх начальнікаў ёсць жаданне. Лягчэй згадаць былыя часы, панаракаць на выраз твару ў маладога спецыяліста. (Адзіна магчымы від пратэсту, які нічога не варты.)

Больш як чатыры месяцы чакаю моманту, калі пасля маіх шматразовых просьбаў і зваротаў да старшыні сельсавета аб прадастаўленні мне як настаўніку жыллёвай плошчы, будзе зроблены першы практычны крок. А ў вёсцы маюцца пустыя кватэры...

**Мікалай СМЯЯН,**
**настаўнік, 28 гадоў,**
**пяты год працую ў сельскай школе**

люстраная зала




**Анатоль БУТЭНКА**
**доктар філасофскіх навук, прафесар**

# пра бюракратызм

## 3. СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ БАРАЦЬБЫ З БЮРАКРАТЫЗМАМ

З таго часу, калі былі напісаны гэтыя ленінскія словы, прайшло больш як шэсцьдзесят пяць гадоў. Шмат вады сплыло з таго часу. І хоць бюракратызм не знік з жыцця краін сацыялізму, ён перажыў сваю гісторыю, даволі павучальную для тых, хто намерваецца пераадолець яго. Не выпадкова ж у выступленнях на XXVII з'ездзе партыі ставілася пытанне: чаму за столькі гадоў нам не ўдаецца вырваць з нашага жыцця карані бюракратызму, сацыяльнай несправядлівасці, злоўжыванняў? Чаму нават цяпер патрабаванне радыкальных перамен грузне ў інертным пласце прыстасаванцаў з партыйным білетам?

Мы былі б дрэннымі марксістамі, калі б сказалі, што сілкавання для гэтых каранёў няма. Пакуль ёсць падзел грамадства на кіраўнікоў і тых, кім яны кіруюць, ёсць магчымасць паразітаваць на гэтай супярэчнасці. А таму, якія б ні былі моцныя наша нецярплівасць і імкненне пазбавіцца ад бюракратызму, канчаткова ён можа быць пераможаны толькі тады, калі **кіраванне** грамадствам будзе заменена яго **самакіраваннем**. Але абмежаваўшыся гэтым адказам, мы былі б дрэннымі дыялектыкамі, бо названы падзел і супярэчнасць паміж кіраўнікамі і кіраванымі ствараюць толькі **магчымасць**, а не **сапраўднасць** існавання гэтай з'явы.

Каб гэта зразумець, трэба яшчэ раз звярнуцца да гісторыі «сацыялістычнага» бюракратызму. Асабліва важная тут такая акалічнасць. Пасля смерці У. І. Леніна не толькі не праводзілася лінія на адміранне дзяржавы і развіццё самакіравання народа, але, наадварот, абгрунтоўвалася і здзяйснялася на практыцы сталінская «тэорыя» абвастрэння класавай барацьбы і ўмацавання дзяржавы па меры набліжэння да камунізму, а самакіраванне народа з пэўнага рубяжа праклiналася як рэвізіянісцкая ідэя.

І. Сталін, ператвараючы ленінскую бальшавіцкую партыю ў «свайго роду ордэн **мечаносцаў** (падкрэслена І. Сталіным.— **А. Б.**) унутры дзяржавы Савецкай, які накіроўвае органы апошняй і адухаўляе іх дзейнасць», дэфармаваў і ўсё больш бюракратызаваў усю сістэму палітычнай улады. Адцясняючы рабочы клас, працоўных ад улады і ўзурпіруючы ўладу, І. Сталін узамен палітычнай улады рабочага класа і яго саюзнікаў насаджаў іншую — дэспатычную — уладу, уладу, якая абапіралася на партыйна-дзяржаўную бюракратыю, на падтрымку рэкрутаваных з сялянства і падкормленых дзяржавай некваліфікаваных пластоў рабочага класа. Абгрунтоўваючы такую бюракратычную змену сацыяльна-класавага характару Савецкай улады, І. Сталін у сваіх працах «Пра асновы ленінізму» (1924) і «Да пытанняў ленінізму (1926) характарызуе Саветы, прафсаюзы, камсамол і іншыя масавыя арганізацыі як «разгалінаванне партыі», называе іх «прываднымі рамянямі» ад партыі да рабочага класа, які сам аб'яўлены арміяй партыі. Сама ж дыктатура пралетарыяту была зведзена, насуперак сутнасці марксізму-ленінізму, у вернасці якой прысягаў І. Сталін, да сумы «кіруючых указанняў партыі, плюс правядзенне гэтых указанняў масавымі арганізацыямі пралетарыяту, плюс іх правядзенне ў жыццё насельніцтвам». Зусім відавочна, што воляй саміх працоўных, народаўладдзем тут і не пахне, іх замяняе воля і ўлада правадыра і яго акружэння, што пануюць над класам, над народам і партыяй.

Задумаемся над тым, ці мог сысці на нішто быракратызм у абставінах культу асобы І. Сталіна, калі ўся дэфармаваная палітычная сістэма таго часу была сталінскай сістэмай зневажання правоў асобы, масавых рэпрэсій і беззаконня, г. зн. была найбольшым увасабленнем той самай бюракратычнай «бяздушнасці дзяржавы», пра якую пісаў К. Маркс? Менавіта тады было выгадавана і выпеставана цэлае пакаленне дзеячаў «сталінскай гвардыі», г. зн. цэлы пласт партыйна-дзяржаўнай бюракратыі — пыхлівай і непісьменнай, фанабэрыстай і некампетэнтнай, якая не мела за душой амаль нічога, акрамя халуйскага дагодніцтва перад аўтарытэтам правадыра. У сваю чаргу сам І. Сталін быў ідэальны лідэр бюракратыі: ён амаль нічога не патрабаваў ад сваіх падначаленых, акрамя безумоўнага выканання сваіх загадаў і славаслоўя на свой адрас.

Выпеставаная тады бюракратыя не толькі выканала «волю правадыра», вынішчыла не згодную з ёю ленінскую гвардыю, але і выхаласціла народ: сваім прымхлівым пакланеннем перад «геніем», бяздушнасцю, фармалізмам і кручкатворствам яна забівала ў тоўшчы мас здольнасць да самастойнага мыслення, любую грамадскую ініцыятыву і любую палітычную актыўнасць, не запланаваную вялікім правадыром і яго акружэннем. Ці не тут вытокі нарастаючай пасіўнасці тых, хто быў здольны здзейсніць самы радыкальны рэвалюцыйны пераварот?

Менавіта ў такой абстаноўцы выхоўвалася новая змена: сталінская грамадска-палітычная сістэма стала свайго роду інкубатарам бяздушных бюракратаў, гатовых на любы падлог і любую подласць у імя ўласнай кар'еры, бюракратаў, якія не прывыклі да таго, каб прыслухоўвацца да «голасу народа», да спадзяванняў мас, але здольных толькі дагаджаць вышэйшым і камандаваць падначаленымі.

Менавіта тады, у гады культу І. Сталіна, з'явіўся і пашырыўся сярод кіруючага апарату чыста бюракратычны падыход да людзей як да рычагоў і «вінцікаў» у безаблічнай дзяржаўнай машыне. Бюракратызм тых гадоў, цягнучыся да казарменнага сацыялізму і насаджваючы яго, вытручваў усё жывое, неардынарнае, несанкцыяніраванае. «Выкарчоўвалі» вейсманізм-марганізм у біялогіі, абвяшчалі кібернетыку лжэнавукай, забаранялі Ясеніна і Ахматаву, Гумілёва і Мандэльштама, распякалі Зошчанку, Шастаковіча і Хачатурана. Воку бюракрата ад навукі, якое нівеліравала, падбівала ўсё пад адзін ранжыр, было невыносна ўсё, што хоць трошкі падымалася над шэрасцю, над любай ягонаму сэрцу аднастайнасцю. Складанасці культурнага жыцця, супярэчнасці духоўнага руху і няпэўнасці ў парываннях чалавечай волі выводзілі з раўнавагі чыноўнікаў ад культуры. Узамен такіх «інтэлігенцкіх перажыткаў» яны рашуча насаджвалі прастату, яснасць і дакладнасць, хоць гэта была прастата прымітыву, яснасць свавольства, дакладнасць бюракратычнай машыны.

Але не трэба думаць, быццам адна інтэлігенцыя, і асабліва інтэлігенцыя ленінскай гвардыі, апынулася пад катком пазбаўленай чалавечых пачуццяў і якасцей, звар'яцелай ад страху і адданасці свайму гаспадару сталінскай бюракратыі, якая абслугоўвала каманднa-адміністрацыйную сістэму кіравання грамадскім жыццём. Сваім фармалізмам, бяздушнасцю і кручкатворствам бюракратыя і ў гушчыні мас глушыла любую здольнасць да самастойнага мыслення, грамадскую ініцыятыву, не запланаваную і не санкцыяніраваную зверху. Менавіта тут вытокі той сацыяльнай пасіўнасці, якая пранізала масы працоўных, што здолелі ў свой час здзейсніць самую радыкальную сацыяльную рэвалюцыю.

Пласт бюракратаў, здольных толькі загадваць, праводзіць «лінію», у тыя гады мацаваўся і шырыўся. Нямеючы перад сваім правадыром і баючыся свайго куміра, сталінская бюракратыя яшчэ спекулявала на веры народа ў будаўніцтва сацыялізму, эксплуатавала энтузіязм мас, але сама яшчэ не была здольная на хцівасць, карупцыю і хабарніцтва. Страх пакарання быў надта вялікі!

Калі ў 1953 годзе памёр І. Сталін, яе ідэолаг і выказнік яе інтарэсаў, бюракратыя спрабавала захаваць свае пазіцыі. Сталінскіх чыноўнікаў смяротна напалохаў XX з'езд КПСС, выкрыццё культу асобы І. Сталіна, рэпрэсій і беззаконня. Суд народа пагражаў дабрацца да партыйна-дзяржаўнай бюракратыі, да ўсіх яе прадстаўнікоў, што пакрылі ганьбаю светлы сцяг камунізму. Ці магла бюракратыя аддаць народу ўладу без супраціўлення? Такія надзеі ілюзорныя! Уладу, узурпіраваную ў працоўных, бюракратыя ніколі не саступіць без самай зацятай барацьбы! Варта было М. Хрушчову зрабіць замах на складзеную сістэму ўлады, як бюракратыя, скарыстаўшы яго памылкі і валюнтарызм, адсунула М. Хрушчова ад кіраўніцтва краінай і паставіла каля стырна ўлады Л. Брэжнева. Пачалася рэанімацыя сталінскай мадэлі сацыялізму, такой дарагой сэрцу кожнага бюракрата. Яшчэ многія памятаюць тыя гады, калі разгорнутая XX з'ездам партыі крытыка памылак мінулага пачала згортвацца, бо, маўляў, трэба спыніць «ачарніцельства». Гэта быў свядомы манеўр бюракратыі, якая збірала сілы і добра разумела: дай толькі волю, дакапаюцца да яе самое.

У абставінах 70-х — пачатку 80-х гадоў бюракратыя ўсё яшчэ верыла ў свой «залаты век». Аднак, істотна злядашчаная, не здольная да творчасці, да вырашэння новых задач, яна неўзабаве здаволілася сваім становішчам усёдазволенасці і беспакаранасці, стала галоўным рычагом механізма тармажэння, носьбітам ідэалогіі і псіхалогіі застою ў савецкім грамадстве.

Ні механізм тармажэння, ні ідэалогія і псіхалогія застою — не ёсць нешта ананімнае, бязадраснае, што не мае жывых прыхільнікаў і носьбітаў. Гэта толькі ў пісаннях саміх бюракратаў пра бюракратызм усё выглядае безназоўна: усё навокал вытаптана бюракратамі, а самі бюракраты, быццам снежны чалавек, няўлоўныя. На самай справе і механізм тармажэння мае сваіх механікаў-бюракратаў, не ананімныя таксама і ідэалогія і псіхалогія застою, якія ёсць зусім пэўны духоўны прадукт. Але зусім не жыццядзейнасць мас працоўных, якія імкнуцца да дабратворных перамен, яе аснова! Вытокі гэтай псіхалогіі — сацыяльныя групы, задаволеныя становішчам, якое ўжо склалася, сваім матэрыяльным і сацыяльным статусам, яны не хочуць расставацца з тым, што атрымліваюць не па заслугах, а па пасадзе, у чым, зрэшты, яны выдатна разбіраюцца. Менавіта такая даволі спрыяльная для бюракратыі сітуацыя склалася ў савецкім грамадстве ў апошнія дзесяцігоддзі.

Эканамічны і сацыяльна-палітычны застой, абумоўлены неадэкватнасцю і застарэласцю пануючых вытворчых і многіх іншых грамадскіх адносін, пасіўнасцю цэнтральных і мясцовых звёнаў кіравання,

**Заканчэнне. Пачатак ў № 7.**

засіллем бюракратыі і бюракратызму, не мог не адбіцца не толькі на тэмпах эканамічнага развіцця, нарастанні крызісу ў эканоміцы і палітыцы, але таксама і на духоўным настроі грамадства, яго сацыяльным і культурным жыцці: непрыкметна падточваліся вышэйшыя маральныя каштоўнасці — ідэйная перакананасць, працоўны энтузіязм, савецкі патрыятызм, актыўная сацыяльная пазіцыя. Гэта суправаджалася падзеннем цікавасці да грамадскіх спраў, праяўленнем бездухоўнасці, скептыцызму і цынізму, паніжэннем ролі матэрыяльных стымулаў да працы. «Узрасла праслойка людзей, у тым ліку сярод моладзі,— гаварылася на Пленуме ЦК КПСС у студзені 1987 года,— для якіх мэта жыцця звялася да матэрыяльнага дабрабыту, да нажывы любымі спосабамі. Іх цынічная пазіцыя набывала ўсё больш ваяўнічыя формы, атручвала свядомасць, спарадзіла хвалю спажывецтва. Паказальнікам падзення сацыяльнай маралі сталі рост п'янства, пашырэнне наркаманіі, павелічэнне злачыннасці».

А што адбывалася ў сферы культуры? Як ідэалогія і псіхалогія застою, уся абстаноўка мінулых дзесяцігоддзяў адбілася на стане адукацыі і навукі, літаратуры і культуры?

Пытанне гэта няпростае. Колішняя абстаноўка выпрацавала не толькі свой спосаб палітычнага кіравання грамадскімі справамі, але і свой стыль кіраўніцтва развіццём культуры. Гэты стыль, калі творчага чалавека спрабавалі ператварыць у паслухмянага выканаўцу прадпісанняў, нанёс вялікую шкоду культурнаму развіццю. Зразумела, цалкам творчую думку ніколі нельга задушыць, але перашкаджаць ёй паспяхова развівацца, заціснуўшы яе ў бюракратычныя ціскі, можна. Бюракратыя, карыстаючыся выпрабаванымі сродкамі, старалася загнаць талент у вузкія рамкі прымальнага для бюракратаў. Колькі каштоўнага, цікавага і важнага ляжала на паліцах, пылілася ў выдавецкіх партфелях!

Бюракрат, які «курыраваў культуру», быў непахісны ў сваёй упэўненасці ў тым, што менавіта ён, «дазваляючы» і «забараняючы» кнігі, фільмы, выстаўкі, пастаноўкі, навуковыя ідэі, праводзіць партыйна-дзяржаўную лінію нават тады, калі з прычыны сваёй асабістай баязлівасці і эстэтычнага невуцтва забараняў прызнаныя пазней шэдэўры культуры, якія і складаюць славу савецкага мастацтва. Рэдактары і выдаўцы, заклікаючы аўтараў да смеласці ў пастаноўцы новых пытанняў і да навізны думак, самі ператварыліся ў добраахвотных цэнзараў, якія вышуквалі ў новых рукапісах свежыя думкі, каб скасаваць усё неапрабаванае.

Бюракратызм па прыродзе сваёй антыгуманны, бесчалавечны. Выганяючы з культуры ўсё арыгінальна-асабовае, індывідуальнае, ён заўсёды спасылаецца на вышэйшыя, агульныя інтарэсы, імкнецца даказаць, · што дзейнічае ў інтарэсах саміх людзей. Хоць што такое абстрактныя агульныя інтарэсы па-за інтарэсамі жывых людзей, па-за рэальнымі асобамі? Адхіляючы сапраўды таленавітае, а значыцца, заўсёды з пячаткай унікальнасці і непаўторнасці, бюракрат ставіць кляймо — «адсябяціна», «арыгінальнічанне» альбо проста заяўляе: «Нас не зразумеюць!»

Але хочуць таго бюракраты ці не, усё ж час іх не бясконцы. Прайшла беззваротна не толькі «сталінская эпоха», жорсткая і трагічная, мінула і безаблічная «брэжнеўская эпоха» з яе тармажэннем і застоем. Вядома, нельга недаацэньваць самаўпэўненасці і пазіцый бюракратыі, яе перакананасці ў сваёй незаменнасці!

Неабходнасць кіравання зусім не азначае неабходнасці бюракратыі. Прыгадаем, як У. І. Ленін ужо ў першыя гады Савецкай улады быў заклапочаны пытаннем: як стварыць такую сістэму кіравання, у якой была б зведзена да мінімуму небяспека бюракратызацыі?

Ужо XXVII з'езд КПСС, паказаўшы без усякай дыпламатыі на бюракратызм як на галоўную перашкоду ў змене існуючай сістэмы кіравання, як на галоўнага праціўніка рэвалюцыйнай перабудовы, нанёс адчувальны ўдар па самаадчуванні бюракратаў, якія прывыклі жыць і тварыць свае цёмныя справы без яркага святла публічнасці. Сёння, як і пры Леніне, мы гаворым пра бюракратызм у нашым жыцці адкрыта, не баючыся прызнаць зла. Наадварот, выкрыць яго, выставіць на агульны агляд — значыць выклікаць грамадскую энергію для барацьбы з гэтай сацыяльнай заганай.

І тут важна бачыць галоўны кірунак гэтай барацьбы. Вызначальнай рысай ранейшых формаў кіравання і эканомікай і іншымі бакамі грамадскага жыцця, якія склаліся на пачатковых фазах экстэнсіўнага развіцця эканомікі, была канцэнтрацыя ўсіх функцый кіравання ў цэнтры, абмежаванне самастойнасці калектываў, прадпрыемстваў, а таксама не падмацаванае эканамічнай адказнасцю дзяржаўна-дырэктыўнае, каманднa-загаднае кіраўніцтва. Вось гэта і стварыла выключна спрыяльныя ўмовы для развіцця адміністрацыйна-бюракратычных метадаў камандавання, для працвітання бюракратыі. Таму і пастаўлена задача змяніць меру спалучэння дэмакратыі і цэнтралізму ў савецкім грамадстве. Адмаўленне ад адміністравання з яго «рыфамі» бюракратызацыі, уключэнне таварна-грашовых механізмаў павінна прывесці да таго, што частка ўладных і распарадчых функцый, якія раней належалі цэнтральным дзяржаўным органам, будзе перададзена і перадаецца мясцовым органам улады, самім аб'яднанням і калектывам працоўных. Карацей кажучы, гаворка ідзе не толькі пра перабудову эканамічнай, але і палітычнай, адміністрацыйна-упраўленчай сістэмы.

XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя, якая адбылася летам 1988 года, якраз і была прысвечана гэтым пытанням. Яна прыняла спецыяльную рэзалюцыю «Пра барацьбу з бюракратызмам». У ёй гаворыцца пра наступленне на бюракратызм, «на такія выродлівыя яго праяўленні, як дыктат, адміністрацыйнае самавольства ў эканоміцы, сацыяльнай і духоўнай сферах, казённую раўнадушнасць да правоў і патрэб людзей, пагардлівае стаўленне да грамадскай думкі і сацыяльнага вопыту працоўных. У абстаноўцы застою, скаванасці дэмакратычных інстытутаў,— гаворыцца ў рэзалюцыі,— бюракратызм разросся да небяспечных межаў, стаў тормазам грамадскага развіцця. Бюракратычныя перакосы, асабліва ў палітычным кіраўніцтве, чужыя сацыялізму як жывой творчасці мас».

Пасля XIX партыйнай канферэнцыі, на аснове яе рашэнняў у савецкім грамадстве вядзецца рашучае наступленне на бюракратыю і бюракратызм, якія выбралі тактыку сабатавання прымаемых рашэнняў, задушэння перабудовы шляхам яе дыскрэдытацыі, ператварэння ўсяго ў гаварыльню. Вядома, нялёгка дабіцца хуткага пералому ў грамадстве, дзе 18 мільёнаў служачых, на ўтрыманне якіх трацяцца 40 млрд. рублёў у год. Савецкі вопыт барацьбы супроць бюракратызму сёння асабліва важны: бо па дарозе гэтакай самай барацьбы ідуць і іншыя сацыялістычныя краіны, напрыклад, Польшча. Вось што кажа з гэтай прычыны член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП Марыян Ажахоўскі: «Бюракратызм — самая страшная хвароба. Надта шмат мы з вамі бачым прыкладаў, калі ён «спадналуску» тармозіць і зводзіць на нішто многія пазітыўныя пачынанні нашага абнаўлення і вашай перабудовы, выклікае ў людзей незадаволенасць, расчараванне, сее няверʼе да перамен, абуджае страх вяртання горкіх, незабыўных часоў. Да таго ж на словах ён заўсёды «за» сацыялізм. Гаворка ідзе пра пэўную сістэму кіравання дзяржавай, гаспадаркай, палітычнай і сацыяльнай сферамі. Трэба мяняць гэтую сістэму. Любы апарат — партыйны, дзяржаўны, гаспадарчы — павінен іграць адзіную належную яму службовую дапаможную ролю — як можна тэхнічна больш дасканала выконваць волю народа, партыі і дзяржавы. Павінна быць выпрацавана дзейсная сістэма кантролю, гарантый супроць засілля бюракратызму. Абсалютна відавочна, што нам патрэбны цвёрдыя тэрміны зменнасці апарату, схемы перастаноўкі яго работнікаў з улікам не толькі прафесійнай падрыхтоўкі, узроўню кампетэнтнасці, але і маральна-этычных якасцей. Бюракратычная дэфармацыя сацыялізму — самая вялікая небяспека для сацыялізму. Пазбаўленне ад яе — у многім зарука таго, ці будзе развівацца сацыялізм і ці здолее раскрыць сваю сутнасць, выканаць сваё высокае прызначэнне. Але гэта лёгка казаць, а справа ідзе цяжка. Таму што мы самі стваралі гэтую сістэму дзесяцігоддзямі, «не шкадуючы сілы». І хочам таго ці не, у многім мы дзеці гэтай сістэмы. Нават перакананыя прыхільнікі абнаўлення і перабудовы, мы «генетычна» заражаныя калі не самім бюракратызмам, дык яго вытворнымі, перш за ўсё стэрэатыпнасцю мыслення і дзеянняў. Мы часам, нават не ўсведамляючы гэтага, спрабуем праводзіць абнаўленне і перабудову старымі, аджылымі метадамі».

Адным з галоўных сведчанняў гэтага з'яўляецца ранейшая — паводле метадаў — барацьба з самім бюракратызмам. Яна ў бясконцых агульных заклiках перaадолець бюракратызм, не называючы яго канкрэтных прадстаўнікоў. Кажуць, іх, бюракратаў, цяжка выявіць. Але гэта — містыка: усё навокал затаптана бюракратамі, а самі яны, як снежны чалавек, няўлоўныя! Аднак такія тлумачэнні — глыбокая памылка: у грамадстве нічога не робіцца без інтарэсаў і ўчынкаў канкрэтных людзей. І калі справа тармозіцца бюракратыяй, механікі тармажэння — бюракраты — павінны быць выяўлены, названы і адхілены ад справы.

Толькі ў тым разе, калі прыхільнікі перабудовы, адкінуўшы агульныя лозунгі і заклікі да барацьбы супроць бюракратыі і бюракратызму, пачнуць канкрэтна, пайменна называць бюракратаў, знішчаць створаныя імі «завалы» і «тармазы», бюракратызму будзе нанесена рашучае паражэнне, і толькі ў тым разе, калі пры ўсё большай актыўнасці мас пачнуць сцвярджацца публічнасць і сацыялістычнае самакіраванне народа, перамога над бюракратызмам будзе замацавана, а сама перабудова набудзе незваротны характар.



## Уладзімір МАРОЗ



### ШЛЯХ

Напроста шлях, а там і паваротка,
І нават паказальніка няма.
Крыжы на ростанях прапалі незваротна,—
Цяпер людзей няцяжка ўвесці ў зман.

Дарога ёсць, але такая справа:
Наперад пойдзеш — тлумнасці багно.
Ідзі налева, хоць сабе направа —
Адзіны скутак — бездараж адно.

Дарога ёсць, напэўна, быць не можа,
Існее шлях да праўды напраcткі.
Але знайсці яго хто дапаможа!—
Ніхто, як сам. Падумай.
Ды ідзі.

### МАЛАДЫЯ ЗМАГАРЫ

Крокі юныя чуюцца ў лад,
Цесна-цесна змыкаюцца плечы.
Авангард па дарозе назад —
Да сваіх каранёў спаконвечных.

Беларускае слова гучыць
Як заклад, што народ не загіне.
Маці-доля з надзеяй глядзіць,
Каб нарэшце хоць спраўдзіцца ў сыне.

Звонку нават не ўсё разгадаць —
Не ў народныя строі адзетыя.
Строй душы іх затое відаць
Ды імпэт даспяваць недапетае.

Авангард па дарозе ўпярод —
Хочуць вышукаць новага броду.
Не звядзецца ніколі наш род,
Покуль ёсць хоць адзін таго роду.

### НА АДЫХОДАК ДНЯ

Знясілеў дзень са спёкай ў барацьбе,
Глядзіць патрабавальнымі вачыма.
На ноч прытулак і табе, і мне —
Гумно-вястун з рыпучымі дзвярыма.

Гумно старое недалёч ракі,
Дзе велічна, павольна і разважна
Вада цячэ — як днём, як і ў вякі,—
Давай паслухаем, што нам яна падкажа.

Шапоча сена, рукі не стрымаць,
Вяртанне спёкі — узгараюць целы...
Тут не дадаць нічога, не адняць,
Усё як належыць, свет стаіць як белы.

Цячэ вада, спакою не ірве,
Напятасць ночы у дыханні тоне.
Пяшчоты хвілі — і няхай табе
Прысніцца, што купаешся у Нёмне...

### СТАМЛЁНЫ РОЗДУМ

Ненадзейная гэта замглёнасць —
Позняй восені смешкі ці здзек!
Расказаць бы каму пра стамлёнасць,
Што нясе у душы чалавек.

Невядома, і хто вінаваты:
Там дастань, там прабі, там знайдзі...
Мог не ведаць узнёслы араты,
Што ён сеяў на гэтай зямлі!

Неблагое насенне, магчыма,—
Глеба жорсткі дала ураджай.
Не спазнаеш дарэшты прычыны,
Хоць дасвету раздумвай-гадай...

Час другое пасеяць насенне.
Дзеці новае створаць святло,
Што з сабою нясе ачышчэнне.
Але ўсе ці чакаюць яго!

### ЦЁМНЫЯ СІЛЫ

Быццам вір — уваход. Уцягненне.
Дзверы моцныя крайняй мяжой.
Лабірынт сутарэння, скляпенні,—
Цёмна так, коле вочы ажно.

Толькі потым разгледзішся: людзі,
Мітульга, разгалосіца слоў.
Нейк адчайна, на поўныя грудзі
Раскідаюць каменне размоў.

Сам шпурляеш і ногі сціраеш,—
Сколкі гострыя пні, варушы.
Цемра смокча нутро, адбірае,
Вырывае часцінкі душы.

А сялянскага спрыту бракуе,
Каб, нарэшце, каменне сабраць.
У паўцемры змаганне вякуе,
Тоне вечнае, словы звіняць.

Павяртаю — і конча на волю,
Дзе святло, дзе любоў, а не бой.
Шлях назад...
Уздыхаеш з палёгкай,
Калі дзверы ужо за табой.

### КРОПЛЯ ПОТУ

Наплывае штуршкамі выява,
Узбуйняецца роспачна твар,
Дзе прыпухліны скуры і ямкі.
Так над зрокам ўсчыняецца гвалт.

Сітавіны набрыньваюць потам,
Крывянеюць атожылкі ўраз,
Скура плямамі б'ецца. І ротам
Праглынуты нясказаны сказ.

Драцяныя праклёвіны шчэці,
Зрэнкі, быццам з карціны Далі.
Лоб высокі. Зацятасці вецер
Рэзка-рэзка нагнаў маршчакі.

Цішыня і напружанасць. Дзіка.
На краі ужо воля твая.
Кропля поту — знямеўшага крыку —
Рэжа скуру лязом ручая.

Непрыемна, агідна, пякуча,
Унутры дзесьці крыўда і гнеў.
Неспадзеўкі маўчанне навучыць...
А хацеў жа сказаць.
Ці хацеў?

### ＊＊＊

Пераменяць лясы — паміраюць і зноў узрастаюць,
Адступаюць балоты, губляюць прынаднасць лугі.
Гарады мкнуць ушыркі, а вёскі старыя знікаюць,—
Толькі рэкі нязменна цякуць праз гады і вякі.

Гэта сведкі жывыя цярплівай гісторыі нашай,
Шмат чаго за стагоддзі пабачылі іх берагі.
Шмат што хвалі хаваюць, але і багата раскажуць,—
Толькі слухаць умей, калі край твой табе дарагі.

Я пра злучнасць з ракою, адчуць каб стагоддзі сівыя.
У паўдзённай смузе зараз выступіць ратнікаў строй —
За Радзіму ідуць несупынна, навекі жывыя,
І знікаюць навечна пад чыстай, як слёзы, вадой.

А вада нараджае з глыбінь і пяшчоты жанчыну.
З чысціні ды кахання дае тая свету дзіця,
Што становіцца родным, адданым зямлі сваёй сынам...
Рве на звівах рака, павуцінне ірве забыцця.



Мал. Мікалая НІЛАВА (г. Рыга)

# рэкет узбройваецца

Валерый МАКСІМАЎ

## I

Рэкет аб'явіўся так даўно, што нават стагоддзя яго нараджэння ніхто не памятае.

Рэкет ніколі не паміраў. Але ён мае пастаяннае жаданне распраўляць плечы там, дзе яму сытна. І ўцякаць з тых мясцін, дзе да сытасці далёка. Кліматычныя паясы і дзяржаўныя межы для яго — лухта. Калі льецца на добра угноены грунт ласкавы дождж з «лёгкіх» грошай, «компас» рэкету рэагуе беспамылкова: толькі туды.

Першыя «новыя» кааператары рэспублікі — даўно час прызнаць — плявацць хацелі на просьбы і мары спажыўца. Яны ўзбагачаліся хутка, як у казцы. І іх было чым і за што шантажыраваць. Вось і знайшліся маладыя служкі «права», якое адвечна пагарджаецца людзьмі —«права моцнага». Хто яны? Зазвычай гэта спартсмены-няўдачнікі, якія паступілі на ўтрыманне разумных рэцыдывістаў,— пачуў аўтар у МУС БССР.

## II

З рэкецірамі цяпер змагаюцца і кааператары і міліцыя. Пра бліскучыя перамогі над грознымі шантажыстамі прадстаўнікоў эфектыўнай разняволенай працы сказаць нічога не магу: яны ж не складаюць ніякіх «зводак» і ўвогуле не любяць гаварыць на гэтую тэму. А вось звесткі з «афіцыйных крыніц» могуць праілюстраваць адказ на актуальнае пытанне:

— Дык ёсць у нас рэкет ці няма яго зусім?! Ці толькі адзінкавыя і нетыповыя факты?

Словы «актуальнае пытанне» тут своечасовыя. Нават некаторыя мае калегі дагэтуль перакананыя:

— Ты жартуеш, які рэкет сярод усеагульнай галечы? Мы не Узбекістан!

У нас, вядома, халадней. І з вітамінамі — бядней. І чыстая баваўна з мандарынамі — экзотыка. А вось мільянеры і ў нас ёсць. Яшчэ больш тых, хто мае трохі меней за 1 000 000 руб. Іх могуць не ведаць фінінспектары, але вельмі добра ведаюць рэкеціры. І яшчэ шантажысты-прафесіяналы ведаюць, што біцэпсы, кулакі, набітыя аб цэглу і дошкі, нават класічная «фінка» часта ўжо не робяць на самавітых уладальнікаў кучы казначэйскіх білетаў патрэбнага ўражання. Таму рэкет будуе ў лесе за Мінскам шыбеніцу, здабывае (як?)[1] форму работнікаў міліцыі, радыёстанцыю (дзе?), аўтаматы і пісталеты (у каго?), узбройваецца газам нервова-паралітычнага ўздзеяння (проста — шок!) і толькі пасля ўсяго гэтага «запрашае» старшыняў кааператываў, барменаў ці маленькіх «каралёў» нашых «чорных» рынкаў купіць сабе жыццё і спакой. Ахвяры альбо плацяць, альбо рызыкуюць больш ні разу ў жыцці ні за што ўвогуле не плаціць...

## III

Да нядаўняга часу (літаральна месяцы назад) беларускаму рэкеціру «працаваць» было не надта небяспечна. Паняцці «вымагальнік» і «рэкецір» у нас заставаліся не толькі фармальна, але і «нефармальна» (г. зн. на погляд следчых, міліцыі, суда) амаль сінонімамі: пакаранне магло абысціся і штрафам...

«Класічны» вымагальнік здольны падысці на рынку да прадаўца, сказаць, кавуноў і прапанаваць «кампраміс»:

— Дай кавуна! Не дасі — плюну ў пысу і дустам тавар пасыплю.

Сфарміраваны рэкецір плюе толькі на тратуар і ў хрустальныя попельніцы.

Затое гэта яго — пачаткоўца — почырк:

— Пяцьдзесят рублёў. Хуценька! І пайду.

Таксама, між іншым, на рынку нядаўна сказана. На Камароўскім рынку сталіцы. Смела сказана? Смела. І, магчыма, таму, што перад гэтым у Мінску было ўзбуджана некалькі (дакладней, чатыры) крымінальныя справы па «рэкету», і ўсе яны былі хутка... спынены.

— Падазраваемыя засталіся на волі... Пацярпеўшыя дружна адмовіліся ад сваіх паказанняў.

Дарэчы, таго раней судзімага, што вымагаў 50 рублёў у прадаўца сталічнага рынка, на волі (думаю, ён здзівіўся) не пакінулі. Так што, адзначым тут рашучасць новага

[1] За ўсімі гэтымі пытаннямі — рэальныя падзеі.



пракурора Савецкага раёна Мінска Пятра Іванавіча Іваненкі.

## IV

А праз некалькі дзён пасля гэтага выпадку прыйшоў да работнікаў крымінальнага вышуку сталіцы рэспублікі «шчаслівы» ўладальнік новенькай «Волгі».

Ён выглядаў няшчасным:

— Невядомыя патрабуюць 50 чырвонцаў.

— За што?

— Іх «довады»: купіў прэстыжную «тачку»— знойдзеш манеты і для нас.

Рэкеціраў абясшкодзілі. Добра, што чалавек своечасова накіраваўся ў міліцыю. У пяцёх «новых знаёмых» аўтааматара група супрацоўнікаў крымінальнага вышуку пад камандаваннем старшага оперупаўнаважанага Мікалая Васільевіча Гурыновіча канфіскавала некалькі балончыкаў ядавітага газу, пісталеты, абрэз, баявую гранату.

## V

Рэкет узбройваецца і нападае не толькі на «шашлычных» кааператараў. Ён ужо актыўна дзеліць «сферы ўплыву». Прыладжвае сваіх «добрых хлопцаў» у самыя разнастайныя кааператывы: толькі плаціце «зарплату», вас не кранем. Выходзіць рэкет і на «вялікую дарогу».

Ужо больш за 10 кааператываў толькі ў сталіцы рэспублікі выконваюць платныя транспартныя паслугі. Афіцыйна «прыватнікаў»— тры тысячы. Па-за кааператывамі і без патэнтаў — яшчэ, прынамсі, больш за тысячу. Вось менавіта гэтыя «больш за тысячу» ахвотна падказваюць адрасы «дзяўчынак», прапануюць гарэлку, баяцца светлых праспектаў і лёгка згаджаюцца везці хоць у другую вобласць. Любога! П'янага, падазрона шчодрага... Толькі:

— Башляй... І будзе поўны сервіс.

Толькі за два месяцы гэтага года супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі ў «таксістаў» на 3450 рублёў «кантрабанднай» віна-гарэлачнай прадукцыі.

Але яшчэ больш цяжкая другая статыстыка: за гэтыя ж два месяцы (у Мінску, адным Мінску) абрабавалі чатырох «таксістаў» з прымяненнем зброі.

Зрэшты, цяпер — і не рэдка бывае — у «прыватнікаў» проста забіраюць гарэлку і грошы, іх атручваюць, душаць гітарнымі струнамі...

Рэкет не толькі ўзбройваецца, ён робіцца яшчэ больш жорсткі і цынічны.

## VI

Есць будучыня ў беларускага рэкета, няма будучыні ў яго — гэта ўсё роўна як раздумваць, ці ёсць жыццё на Марсе. Пакуль мы не ведаем, чаму менавіта губляюцца ў далёкім космасе нашы цуда-пасланцы. Затое ўжо дакладна ведома: рэкецір — не новая і не загадкавая з'ява. Дзіця часу. Учора ён — наш, гадуючыся, лупцаваў аднакласніка і «прасіў» хутка «падзяліцца» грашыма ці ведамі, маркамі, сувенірамі... Потым стаў прыстасоўвацца да «дарослага жыцця», пачаў пагарджаць працаю ўвогуле, але «за пот» у спартзале захацеў мець калі не ўсеагульную папулярнасць, то «хоць бы штосьці на «прыстойнае жыццё».

— Каб быў не горшы за рубшчыка мяса.

Сыты, дужы, дзёрзкі, дагледжаны. Яго хацелі назваць папрашайкаю. Але ён не просіць, а патрабуе.

Яго вырашылі зраўняць з вымагальнікам. Але ён не вымагае, а катуе і адбірае.

Яго «намалявалі» амаль што бяскрыўдным для «дужых гаспадароў», гэткім «маладым хлопцам з нахабным тварам і крутымі плячыма». Але ён усе радзей б'ецца, а дастае «Вальтэр» ці аўтамат.

І ён ідзе да тых, хто сам баіцца міліцыі. Калі яму цесна ад «канкурэнтаў», ён, як згаладалая моль, гатовы сесці і на «сінтэтыку». Гэта значыць «пайсці на ўдачу». Але ўсё ж пакуль што галоўны ягоны «корм»— у тых, хто — сам...

Кааператары баяцца адказваць і на ананімныя анкеты міліцыі і адначасна спрабуюць здабыць хоць бы драбавікі, старыя пісталеты-кулямёты для самаабароны.

Іх за гэта могуць арыштаваць. Словам, непрыемнасці тут гарантаваныя. Толькі смеласць і шчырасць (як у выпадку з гаспадаром новенькай «ГАЗ — 2410»), неадкладны зварот па дапамогу ў крымінальны вышук могуць стаць добрым ударам па рэкету, які імкнецца набраць бранябойную сілу.

# НЕ чапляйцеся за грыву «ружовага каня»

Леанід ЕКЕЛЬ

шчырая размова

Сялянская доля ўсё роўна як поле, спаласаванае ярамі. Ва ўсіх яно навідавоку, усім мазоліць вочы, ды вось толькі не абысці яго, не аб'ехаць. І пракладваюцца па жывым яшчэ і дарогі — пакручастыя, крывыя... Нямым болем крычыць зямля, ды хто яе чуе? Хіба чулі, калі гвалтам, з крывёю адрывалі ад зямлі сялянскую душу? Калі выкарчоўвалі, вытручвалі з яе, як паганае семя, пачуццё гаспадара? Калі кармільца ператваралі ў жывы дадатак да калгаснага інвентара, ўраўняўшы яго правы з правамі замардаванае худобы? Калі перакачвалі з вёскі ў горад па трубах самадурства і жабрацтва, як сыравіну з нетраў зямлі, маладыя сілы? І некаму наверсе мроілася, што крыніца гэтая невычарпальная. Што зямля і сялянскі люд усё сцерпяць — на тое, маўляў, і існуюць яны.

Дзе, у якой яшчэ сацыяльнай сферы за гады Савецкай улады чынілася столькі несправядлівасці, жорсткасці, злачынныя нядбайнасці і гвалтоўнае безадказнасці, праведзена столькі бессэнсоўных эксперыментаў і дапушчана хістанняў з аднае крайнасці у другую, як у вёсцы? Тупыя, руцінныя, адарваныя ад рэальнасці метады кіравання вясковым жыццём далі такія метастазы, што міжволі ўзнікла пытанне: быць ці не быць калгасам? А калі не быць, тады што ім узамен? Арэнда? Прыкра, што, гаворачы пра арэнду, як ледзь не панацэю ад усіх сялянскіх бед, як пра рэальную магчымасць вярнуць зямлі гаспадара, нібыта выпадкова пакідаюць у баку самога арэндатара. А гэта ж пытанне пытанняў. Што прымусіла яго асудзіць сябе на катаржную працу? Клопат пра людзей, інтарэсы дзяржавы ці прага ўзбагачэння? Лічыць чужыя грошы, зробленыя сумленным шляхам,— апошняя справа. Але гаворка не пра грошы — пра матывы ўчынку. А за гэтым — сапраўдная праграма, калі хочаце, свая філасофія.

Адна справа, калі арэндатарам становіцца механізатар ці палявод — чалавек з сялянскай жылкаю. Ён і тэхніку цудоўна ведае, і калгасную зямлю вывучыў, як уласны агарод, і чаго толькі ні нацярпеўся ад безгаспадарчасці, абыякавасці, бесталковасці мясцовых і прышлых кіраўнікоў. Ён тысячу разоў прыкідваў, як трэба было б зрабіць па-гаспадарчы, каб і зямля не пакутавала, і людзям было добра. Але з кім ён мог падзяліцца сваімі думкамі? Каго яны цікавілі? Хто да іх мог прыслухацца? За рэдкім выключэннем — ніхто. Забойственная «філасофія вінціка» не магла дапусціць, каб нейкі радавы механізатар даваў парады старшыні ці галоўнаму аграному. Пасадзілі цябе за руль трактара, дык ведай сваё месца, дарагі таварыш, не высоўвайся. І без тваіх парад як-небудзь абыдземся...

А зараз увявім, што гэтая сялянская душа, якая цудам ацалела ад вынішчэння і п'янства, становіцца тым, чым з'яўляецца на самай справе — гаспадаром. Паўнапраўным гаспадаром не свайго агарода, не асабістага падворка, а значнага ўчастка зямлі ці ажно фермы. З падзёншчыка, выканаўцы чужое волі селянін ператвараецца ў самастойную асобу. Няхай пакуль што на пэўным этапе і залежную ад калгаса, асобных людзей, аднак усё ж такі гаспадара, які атрымаў жаданую магчымасць працаваць, як загадвае сумленне, без аглядкі на іншых, прымаць тыя рашэнні, якія падказваюць уласны вопыт і розум, жыць на ўпэўненасці, што грошы ў яго хаце будуць. І дзяцей сваіх, у якіх матчына малако ледзь абсохла на вуснах, ён прывучыць да сялянскае справы. І гэта будзе не міфічнае працоўнае выхаванне падрастаючага пакалення, а натуральнае, нармальнае жыццё нармальнай сялянскай сям'і. Сямейная атмасфера, раскаваныя метады гаспадарання вызначаць лёс сялянскіх дзяцей. Прынамсі, тут не параяць сыну ці дачцэ бегчы на скрут галавы няважна куды, абы далей ад гною...

Ну, а калі арэндатар — чалавек гарадскі? Нешта пра вёску ён вычытаў, ад некага чуў, нешта бачыў сам. І вось ужо гатова свая філасофія, якая дае энергічнаму гараджаніну адказ літаральна на ўсе пытанні сельскага жыцця. Яна цудоўна замяняе яму найскладанейшы сплаў ведаў, традыцый, адчуванняў і многае іншае, што ўваходзіць у паняцце «чалавек ад зямлі». Маючы гаспадарчую хватку, прабіўную сілу, учэпістасць, настырнасць, прышлы арэндатар элементарна можа дасягнуць поспехаў. І вялікіх. Каб надаць сур'ёзнасць сваім намерам жыць у вёсцы, і хату пабудуе, і сям'ю перавязе. Але... ці не здарыцца так, што ледзь толькі ягоны рахунак у банку дасягне жаданай лічбы, як ён адразу ж з лёгкай душою назаўжды пакончыць са сваёй сельскай адысеяю. І што яму да таго, у якім стане будзе зямля, з якой ён, як каланізатар, выціснуў усе сокі. Што яму да лёсу канкрэтнай вёсачкі і ўвогуле ўсяго сяла — ягоная душа ніколі гэтым не хварэла. Дый не магла хварэць: харавую песню ён выконваў на свой матыў...

Лёгка сказаць, што арэндатарамі павінны быць патрыёты зямлі. Ці багата гэтых патрыётаў засталося? А сверб нецярпення не дае спакою кіраўнікам мясцовага звяна. Раптам вышэйшыя інстанцыі запросяць інфармацыю, як уводзіцца арэнда, а лічбы ж — кот наплакаў. Трэба гэтую справу фарсіраваць.

І фарсіруюць... Магчыма — немагчыма, ёсць неабходнасць ці няма — у разлік не прымаецца. Гэта эмоцыі, а факты — лічбы. Што там будзе з гэтай арэндаю — жыццё пакажа, а вось работу правесці трэба. І пайшлі самавітыя людзі па сялянскіх хатах, не абыходзячы і падворкі пенсіянераў. Вазьміце, маўляў, на прамілы бог, зямлю. Колькі душа пажадае... Адны развядуць рукамі, а другія з болем згадаюць, як у свой час ім гатовыя былі шкуру садраць за кожную лішнюю сотку прысядзібнага ўчастка, як высякалі пад вокнамі хат яблыні і вішні — інакш плаці падатак, як... Колькі такіх вось шнараў засталося ў душах у старых людзей! Цяпер зямля ім спатрэбіцца хіба што на вясковых могілках...

Багата прыліваў і адліваў бясконцае колькасці эксперыментаў, пачынанняў, ініцыятыў перажыла наша шматпакутная народная гаспадарка. І не раз бывала, што ў прынцыпе здаровая ідэя на месцах даводзілася да такога абсурду, уцісквалася ў рэальную рэчаіснасць гэтак груба і гвалтоўна, што загадзя была асуджаная на правал. Затое ненадуманая, не выпакутаваная ў кабінетнай цішыні, а ад самога жыцця ініцыятыва душылася бязлітасна, бо з'яўлялася парушэннем інструкцыі. А гэта, па сутнасці, замах на аўтарытэт апарату. Хто ж такое даруе?..

Так было дзесяткі гадоў. І, трэба думаць, будзе яшчэ працягвацца. Прынамсі да тае пары, пакуль не будзе ліквідавана вышэйшая несправядлівасць: гаспадар на зямлі — на жаль!— не той, хто яе ўрабляе, вырошчвае хлеб, дае малако і мяса, а той, хто сядзіць на карку ў калгасаў, саўгасаў ды яшчэ іх і паганяе.

Бюракратыя — замкнёнае кола, вырвацца з якога не проста. А можа, і немагчыма. Яна — у кожнай сітавіне дзяржаўнага арганізма. Усё вакол — яе, і ўсё — для яе. Яна і дзяржаву лічыць сваёй прыватнай маёмасцю.

Гаворка, ведама ж, пра чыноўнікаў, здольных сваёй уладаю і рэкі павярнуць супраць плыні, і сонца засціць чорнымі бурамі сцёртых у пыл балотаў, і армію з народа кінуць на народ, і ў любы момант указам аб дыскрэдытацыі асоб на адказных пасадах абясточыць галоснасць і магчымасць чалавека мець сваю думку, крытычны пункт погляду.

Але якая ні магутная бюракратыя, ёй не падпарадкаваць чалавека з абуджанай свядомасцю, які адчуў сябе асобаю, той ключавой фігураю, без якой лёс перабудовы будзе трагічны.

Што ж прымушае аднаго чалавека без ваганняў выклікаць агонь на сябе, а другога — адседжвацца ў акопе чужаніцы? Абодвум ёсць што губляць, у абодвух сем'і, але адзін — баец, а другі — спажывец ягоных байцоўскіх якасцей для свайго ж дабрабыту.

Уся прычына — у духоўнасці людзей. У стойкім, глыбока ўнутраным свеце, які не разбураць ні падласць, ні здрада, ні нават смерць. Бо сапраўдная духоўнасць знаходзіць такое ўвасабленне ў жыцці, над якім час не мае ўлады...

Неяк у Клецку пасля доўгае размовы ў гасцінічным нумары з вадзіцелем калгаса «Сцяг Савецтаў» Сашам Кішко, я нечакана злавіў сябе на думцы, што ў мяне раней, бадай, не ўзнікала жадання адказаць на пытанне, а што такое духоўнасць людзей, дужа далёкіх ад тонкіх матэрый. Людзей, якія дзень пры дні выконваюць простую, грубую работу, дзе творчасцю і не пахне. Выходзіла, нібыта духоўнасць не для іх і не пра іх. Не там шукаць яе трэба. Паэты, мастакі, артысты — гэта зусім іншая справа. А тут — праца з малаэстэтычным пахам поту. Выдае на тое, што такі абразлівы прымітыў многіх задавальняў...

З захапленнем апісваліся катэджы для сялян, комлексы і фермы, усё тое, што прыйшло ў вёску за апошнія гады. Гэта была шчырая радасць. Нарэшце вёсцы сталі вяртаць тое, што даўно трэба было б вярнуць — колькі б сёння знялася праблем, калі б гэта здарылася гадоў 10—15 назад! Вярталі ў спешцы, нібыта баючыся застацца ў неаплатным даўгу. Нібыта адкупляючыся перад тымі, хто сеяў хлеб і даваў мяса. Катэджы з усімі выгодамі, дарогі да вёсак, зусім яшчэ нядаўна адрэзаных ад свету, механізацыя і праца ў дзве змены — усё гэта выдатна. Настолькі, наколькі можа быць выдатным усё тое, што з'яўляецца натуральным, як паветра, але чаго сяляне чакалі з безнадзейным адчаем дзесяткі гадоў.

...У адным з калгасаў я быў сведкам эпізоду, які пакінуў у душы горыч. Старшыня з гордасцю паказваў мне новыя самавітыя хаты — па сутнасці, вуліцу маладажонаў. Ля аднае з іх сядзела на прыступках ганку маладая мама. Такая ж мажная, свежая, як і хата, у якой яна гаспадарыць. А вакол хаты зямля, нібыта спанамі ўтрамбаваная. Гурбы будаўнічага смецця, бруд...

— Марыя,— не папрасіў, а прастагнаў старшыня,— я ўжо трэці раз кажу адно і тое ж: навядзіце вы парадак на сваім двары! Глядзець моташна!

— Дык жа трактар абяцалі прыслаць.

— Які яшчэ трактар! Што ён на гэтым лапіку зробіць... Няўжо так цяжка ўзяць у рукі насілкі і вынесці смецце! Ускапаць гэты няшчасны кавалачак зямлі ды кветкі пасадзіць! Мы ж і агароджу паставілі, і сцежкі заасфальтавалі, э-э, ды што тут гаварыць...

— А нам усё роўна за гэта не заплацяць,— спакойна адказала маладая мама, але ад яе слоў стала неяк вельмі неспакойна.

Гэтая нямота духоўнасці, іждзівенства, даведзенае да мяжы,— факт не выключны. Хутчэй за ўсё — заканамерны. Растлумачыць яго няцяжка: калі чалавек авансам атрымлівае тое, у што не ўклаў і кроплі сваёй працы, атрыманае ім страчвае сапраўдную цану. Даваць жа таксама трэба абдумана і з аглядкаю... Тая прыгажуня ў лепшым выпадку прыбярэ ў сваёй хаце, а смецце і бруд на двары проста не заўважыць. Калі селянін спакойна глядзіць на запаскуджаную зямлю, дык ці можа ён быць яе сапраўдным гаспадаром!

Калі ў Клецкім райкоме камсамола у нас зайшла гаворка пра Сашу Кішко, я ўдакладніў у хлопцаў: а чым ён, уласна, прыйшоўся ім даспадобы! Што ў ім асаблівага! «Пазіцыя,— адказалі мне.— У Сашы на ўсё свой пункт погляду. Прымусіць яго ад нечага адступіцца таму, што, скажам, так нам больш зручна — марная справа. Ён не прызнае кампрамісаў».

Я ад душы парадаваўся і, бадай, не так за Сашу, як за райком камсамола. Калі ў райкоме прыслухоўваюцца да думкі радавога члена ВЛКСМ (Саша, праўда, не зусім радавы камсамолец — ён сакратар камітэта камсамола калгаса, член бюро райкома, але ўсё-такі...)— гэта добры знак. Калі чалавека паважаюць не за тое, што паслухмяны і пакорлівы, а за тое, што мае свой пункт погляду — гэта цудоўна.

«У вас у калгасе 63 камсамольцы. Ёсць, вядома, людзі з вышэйшай адукацыяй. Чаму ж у такім выпадку ўжо не адзін год сакратаром выбіраюць Сашу? Што ў ім людзям падабаецца?»— пытаюся ў старшыні калгаса «Сцяг Савецтаў» Мікалая Іосіфавіча Дылеўскага, пакуль мы ездзім ад мехмайстэрняў да фермаў, ад вёскі да вёскі. У мяне засталося адчуванне, што гаспадарка ўсё роўна як узнятая на дыбкі. Многія гады плялася яна ціхенечка і літаральна за пяць гадоў рыўком стала наганяць тое, што ўпускалася, часам бяссільна і безаглядна. Жыллё, новабудоўлі і рэканструкцыя, дарогі — усё гэта добрыя перамены нашага няпростага часу... «Што, пытаецеся, падабаецца людзям у Сашавым характары? Хутчэй за ўсё, прага праўды і справядлівасці. Ён не адмаўчыцца, седзячы ў кутку. Ён заўсёды гатовы змагацца за чалавека».— «Але ж з такімі вам, як кіраўніку, цяжэй працаваць?»—«Цяжэй. Але ў сто разоў цяжэй — з людзьмі бесхрыбетнымі. У вочы яны гавораць адно, за спіною — зусім іншае. Ніколі не ведаеш, што ад іх можна чакаць...»

Я не стану распісваць біяграфію майго героя. Вышукваць залатыя крупінкі характару, каб неяк прыўзняць яго над іншымі людзьмі. Чалавек — натура цэльная. І што ёсць у ім, тое і ёсць.

...Калі нашая гаворка ўжо заканчвалася, я згадаў словы Яўгена Носава пра каня з ружовай грываю — такім бачыцца сялянам, якія пакінулі вёску, шчаслівае гарадское жыццё. Але асядлаць гэтага «ружовага каня» дадзена не кожнаму. Каму пашанцавала больш — той у сядле. А нехта спрабуе сутаргава ўчапіцца за ружовую грыву. «Што б ты параіў школьнікам, якім не сёння — заўтра рабіць свой выбар у жыцці?»— пытаюся ў Сашы. «Я б ім сказаў: не чапляйцеся за грыву ружовага каня. Не шукайце шчасця ў наваколлі — яно ў вашых руках».

# забойства на вакзале



Павел
ЯКУБОВІЧ

Як заўсёды, яны прыйшлі ў сваю альтанку ў шэсць гадзін. Не хапала толькі Колькі, але ён звычайна затрымліваўся, і на гэта перасталі зважаць. Лічылася, што ён нібыта прысутнічае на «тусоўцы». Тым больш, што Колька такі пацан, што заўсёды падтрымае любую задуму. Як заўсёды, пагаварылі пра тое-сёе, потым Шэры пашчыпаў гітару, тым часам падышоў Колька.

— Ну што, кенты, хадзем?— Шэры адклаў гітару, пацягнуўся, а потым раптам вытрашчыў вочы, дзіка крыкнуў і абцасам улупіў з усяго размаху па сценцы. Пасыпаўся пыл.

— Канчай вытырквацца,— прабурчэў Кныш,— ты, я бачу, па дошках біць навучыўся. А ледзь што — спіну падстаўляеш.

Шэры хацеў пакрыўдзіцца, але Кныш так стрэльнуў на яго вачыма, што Шэры адно вінавата маргнуў. З Кнышом ніхто не хацеў звязвацца. У двары ён з'явіўся нядаўна, пасля калоніі. Пра гэты перыяд свайго жыцця ён расказваў не надта ахвотна, так, намёкамі, маўляў, «была справа», «чаліўся»... Гэтая таямнічасць адразу зрабіла Кныша галоўнай знакамітасцю сярод пацаноў, а калі ён неахвотна растлумачыў ім, што азначае наколка на кісці, усе адразу ж і безумоўна прызналі ягонае лідэрства. А «наколка» была просценькая, але са значэннем — чатыры кропачкі, накшталт квадрата, а пасярэдзіне яшчэ адна.

— Гэта значыць, што я цягнуў тэрмін і жыву па паняццях,— сказаў тады Кныш,— а што такое паняцці, вам рана ведаць.

З тае размовы, бадай, і пачаліся іх выхады на справу. Спачатку гэта выглядала працягам нявіннага дваровага жыцця, дзе здараліся і сутычкі, і бойкі, але ўсё гэта хутка забывалася. Потым «справы» сталі ўсё больш ускладняцца. Кныш, як выявілася, быў вялікі фантазёр. З ім пацаны адчувалі сябе ўпэўнена. Аднаго разу ён дастаў самаробны, у выглядзе чаравічка, нож з выкідным лязом.

— У выпадку чаго піка заўсёды са мною...

Дык вось, спачатку «справы» былі нескладаныя. Пераважна зрывалі шапачкі-«пеўнікі» ў такіх самых падлеткаў. Ну і, каб зрабіць разнастайным жыццё, «сшыбалі манету»— адымалі ўсё, што мелася на руках. Шапачкі потым, панасіўшы, перапрадавалі оптам адной старой, якая гандлявала імі на базары. Ішлі «пеўнікі» борзда.

Так прабавілі месяцы тры. Хутка пра кампанію ведалі ва ўсім мікрараёне і ніхто не хацеў з ёю звязвацца. А паспрабуй скажы што таму ж Шэраму — праз гадзіну з'явіцца Кныш і, трымаючы правую руку ў кішэні, скажа: «Хадзем, пакачаем правы». Тут нават калі ў секцыі дзю-до займаешся, дык і то каленькі задрыжаць. Карацей кажучы, пацаны сталі прызнанымі каралямі мікраараёна і неўзабаве навакольныя дзяўчынкі лічылі за гонар быць запрошанымі на іхнюю «тусоўку», дзе сарваныя «пеўнікі» ператвараліся ў віно, дзе Кныш, дзе ўсё было незнаёмае і таму так вабіла.

**АЎТАРСКАЕ АДСТУПЛЕННЕ:**

**Калі я гутарыў пра ўсё гэта з работнікам інспекцыі па справах непаўналетніх, прафесіяналам не толькі ў крыміналістыцы, але і ў той галіне педагогікі, якая ў нас зусім не вывучана (маецца на ўвазе вывучэнне матывацыі ўчынкаў і правапарушэнняў непаўналетніх, спантанная жорсткасць), то ён звярнуў увагу на адну вельмі істотную дэталь — ролю адмоўнага прыкладу.**

**— Разумееш,— гаварыў ён,— яшчэ дзесяць гадоў таму кумірам у падлеткаў былі спартсмены. Спытайся ў любога, і ён табе адразу ж раскажа, колькі рэкордаў устанавіў штангіст Аляксееў, колькі галоў забіў Пракапенка. Потым на шкале каштоўнасцей з'явіліся артысты. Пераважна зоркі року. Бывае, пацан з двоек па літаратуры не вылазіць, затое на памяць назаве ўсіх удзельнікаў фестывалю ў Вудстоку. Нават фірмы па выпуску гітар успомніць. Можа, гэта і не самае лепшае хобі, але тое, з чым я сутыкаюся апошнія тры гады, павер, нашмат горш. Цяпер дзяўчынкі спяць і бачаць сябе сяброўкамі іншаземцаў, а ў перспектыве іхнімі жонкамі. Вядома, не пра ўсіх гавару, але тэндэнцыя, як кажуць, навідавоку. Раней скажы ўголас «прастытутка»— не ўяўляю, якая крыўда была б, а цяпер яшчэ вышэй падыме спадніцку, закіне нагу за нагу і скажа: «Ну і што!»**

**Заканчэнне на стар. 18.**

Фота Ігара САЎЧАНКІ





**Ігар СЯРКОЎ**
**намеснік галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Неделя» (спецыяльна для «Крыніцы»)**

# супрацоўнік органаў

**Чаму мы так дзейнічалі!**

**Вось учора ў праграме «Час» рабочыя абураліся тым, што міністэрства паслала на адзін завод некалькі соцень тон акатышаў, якія завод не можа перапрацаваць... А калі перапрацуе, то ўбытку будзе некалькі мільёнаў... Выкананне гэтага загаду прыносіць шкоду краіне, а згадванне безразважных дзеянняў міністэрства ў праграме «Час» ні да чаго не прывядзе — там і за вухам не пачэшуць. Мы ведаем сотні такіх прыкладаў. Справе перабудовы наносяць велізарную шкоду, а ўсё застаецца беспакараным. А па сутнасці гэта ж шкодніцтва!**

**І ў гэтым шкодніцтве ніхто не прызнаецца. І бедныя журналісты пакутуюць у безвыходнай барацьбе з бюракратамі і форменнымі шкоднікамі.**

**А далі б мне гэтага міністра на дзянёк!..**

**Я б яго прапусціў праз канвеер, і ён не толькі сам прызнаў бы, што ён шкоднік, але і багата хто яшчэ падумаў бы!..**

**Японцы спачатку думаюць, думаюць, а потым робяць, і міністры ім толькі раяць, прадказваючы кан'юнктуру. А выканаўцы таксама, перш чым рабіць, зноў думаюць. А наш рускі народ і нашыя чыноўнікі спачатку зробяць, а потым пачынаюць думаць. Добра, калі хоць потым думаюць, а часцей настойваюць на выкананні сваіх дурных указанняў! Вось, відаць, так гістарычна склалася ў тыя часы, інакш бюракратыю было не перамагчы! У наш час такіх даўгабудаў не было, кожны вымушаны быў спачатку падумаць, а потым рабіць, інакш загрыміш у Магадан пасля майго канвеера. А цяпер міністры распераззаліся — абы прэмію атрымаць! Пачынаюць шмат будоўляў, пераўтвараючы іх у даўгабуд, і плююць на ўсе рашэнні і пастановы ўрада. І такое вырабляюць, што пры Сталіне іх даўно б пастралялі.**

**Цяпер у нас перабудова, новае мысленне. Дай бог! У нас гэтых перабудоў было багата. Цяперашняя, здаецца,— самая лепшая. Але палохаюць размовы, што перабудова пачалася з жаданняў Рэйгана... Злаcліўцы так і кажуць, што перабудова нашая — каб Захаду дагадзіць. І здаецца, мы здаём пазіцыі перш за ўсё ў культуры і ідэалогіі...**

Які асцярожны, ненавязлівы, але — стук. Можа, нават і міжвольны, ды ўсё роўна натура супрацоўніка органаў аказваецца. Ён, вядома, за перабудову, але... Гэта ж адтуль нам падсунулі, гэта адтуль нам усё гадзяць! І пазіцыі мы здаём, і, вядома, перш за ўсё ў ідэалогіі — тут яны ўсе самыя вялікія спецыялісты. Але раз перабудова ідзе зверху, дык прама пярэчыць ён не можа і таму тых, хто гаворыць аб інтрыгах Захаду, на ўсякі выпадак назаве злаcліўцамі. Просценькая, звычайная камбінацыя. Тут першая справа — свайго погляду не выявіць, на ўсе выпадкі пакінуць шляхі для адступлення, у любой сітуацыі быць з тымі, хто наверсе, у любым выпадку «падзяляць лінію», куды б яна ні збочыла.

А вось і лагічная выснова.

**Не трэба ахайваць мінулае, яго трэба зразумець. Можна зразумець і сталінскі рэжым — відаць, не было іншага шляху. І сёе-тое са сталінскай методыкі не шкодзіць выкарыстоўваць і цяпер.**

**Раз рэвалюцыя, дык яна патрабуе і рэвалюцыйных метадаў. Усякая рэвалюцыя толькі тады чаго-небудзь вартая, калі яна ўмее абараняцца. А нашая перабудова пастаянна сутыкаецца з упартым супраціўленнем, а абараняцца, пераадольваць супраціўленне спрабуе «Пражэктарам перабудовы». Гэтага «светлавога ціску» відавочна, да смешнага мала.**

**Патрэбныя больш дзейсныя метады абароны перабудовы ад напору бюракратыі, безгаспадарчасці і расхлябанасці. Можна быць упэўненым: так справа не пойдзе. Трэба ўдарыць па бюракратыі сталінскімі метадамі. Толькі імі можна нечага дамагчыся ў барацьбе з супраціўленнем перабудове. Другі шлях — самападман.**

Вось так. Тут варта перавесці дыханне.

Наўрад ці ёсць сэнс аспрэчваць гістарычныя і палітычныя доследы былога супрацоўніка карных органаў. Пераканаць яго ў чым-небудзь усё роўна не ўдасца — чуе той, хто жадае чуць, бачыць — хто жадае бачыць. Тут іншае спакою не дае. Што за чалавек за ўсім гэтым стаіць? Што за светапогляд за гэтай логікай доказаў, сістэмай пачуццяў? Адкуль яны? Як ставіцца гэты чалавек да іншых людзей, да сваіх суайчыннікаў? Што яму чалавечы боль, слёзы дзіцяці, гора маці? З палітыкай, з гісторыяй мы сяк-так пачынаем разбірацца, а вось з людзьмі такімі як быць? Супакойваць сябе, што засталіся яны ў мінуўшчыне і ўжо ніколі адтуль не вернуцца? Ці так гэта?

Чым гэты ліст бянтэжыць? Шырма сарваная, звыклыя апраўданні адкінуты. Мы прызвычаіліся ўжо да напружанага дыялога з тымі, хто апраўдваў усе ахвяры вялікай мэтаю, якая сама па сабе сумненню не падлягае. Тут без гэтага, тут страшней. Тут мэта першая і найважнейшая — самому ў мясарэзку не трапіць. А дзеля гэтага трэба самому круціць яе ўсё мацней. Галоўнае — быць каля ручкі. І запіхваць, заштурхоўваць замест сябе любога іншага. Пытання — вінаваты ці не?— не існуе. Яно ніякага дачынення да працэсу, што адбываецца, не мае.

Як мы сёння б'ёмся, спрабуючы сумясціць гераічны энтузіязм першых пяцігодак з разгулам рэпрэсій. Як дзіўна і цяжка бачыць іх злітымі. Гэтая найскладанейшая, яшчэ не разгаданая сёння з'ява гісторыі — духоўнае жыццё савецкіх людзей тых гадоў» маральная атмасфера таго часу — для аўтара ліста ніякае загадкі сабою не ўяўляе. У яго ўсё прымітыўна проста. Не верыць ён ні ў які энтузіязм, ні ў якія высокія чалавечыя парывы. Ні думаць, ні прымаць іх у разлік ён не жадае. Тут пагарда да людзей, стаўленне да іх, як да інструменту, як да худобы, якую можна толькі прымусіць, выціснуць з яе ўсё, а пасля выкінуць, не тое што не прыхаваная, а выяўленая надзвычай адкрыта. Так адкрыта, што разумееш: ён і не бачыць, што тут прыхаваць можна было б. Для яго гэта адзіна магчымае стаўленне да чалавека.

Ён гэтага стаўлення і не саромеецца. Ён упэўнены, што ўсе такія. Дык чаго саромецца? Але з другога боку, як ён быў патрэбны ім — сумленны і чысты энтузіязм народа, якой зручнай шырмаю быў для іх, як лёгка і проста навучыліся яны маніпуляваць ім, накіроўваць паводле свайго жадання, тыцкаць ім у вочы сваім ахвярам.

Які страшны і безнадзейны можа быць чалавек.

Ён можа лічыць працаю катаванні і расстрэлы і зусім не адчуваць цяжару такой працы. Ён можа з гонарам называць сябе ланцуговым псом і рваць на шматкі кожнага па ўказанню свайго гаспадара, ведаючы, што гаспадар яго — «ашалелы нягоднік». Ён можа смяяцца са сваіх ахвяр і праз шмат гадоў здзекліва, глумліва заяўляць, што не мае на іх злосці.

Ён можа ўсё памятаць і ні на секунду не раскайвацца.

Больш таго, ён гатовы падзяліцца сваім жудасным вопытам, навучыць крываваму рамяству. Ён упэўнены, што інакш нельга. Што з людзьмі толькі так і трэба. Яны не заслугоўваюць іншага.

Гэтыя пагарда да чалавека, абыякавасць да ягоных пакут аглушаюць. Гэтаксама, як і абсалютная адсутнасць якіх-небудзь намёкаў на раскаянне.

Тут увогуле нельга гаварыць пра чалавечую прыстойнасць, пра чалавечую годнасць. Гэта — з іншага свету. Усё, што пакутліва выпрацоўвалі пакаленні людзей, усе маральныя законы, здольныя ўтаймаваць звярыны пачатак у чалавеку, адкінутыя, затаптаныя ў крывавы бруд ботамі, забітыя гумовымі палкамі. Поўны распад, пасля якога немагчыма ачомацца.

Але ж быў пачатак. Быў шлях, які прывёў да гэтага стану, шлях ад курсанта спецвучылішча НКУС з камсамольскай пуцёўкаю да прафесійнага ката, які не ведае ў жыцці іншага закону, апроч загаду і жадання «ашалелага нягодніка».

Ці даўно мы ўспомнілі пра чалавека? Пра яго біялагічную і сацыяльную прыроду, пра тое, што чалавек супярэчлівы, што па натуры ён больш эгаіст, чым калектывіст, што адсутнасць адказнасці як перад сабою, так і перад грамадствам, упэўненасць у сваёй беспакаранасці здольныя давесці яго да катастрафічнае жорсткасці і расперазанасці? Колькі было высакамерных, сляпых апяванняў паняцця

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 7.**



«савецкі чалавек», які таму лепшы за ўсіх у свеце, што ён «наш, савецкі» і менавіта таму няздольны на нізкасць і жорсткасць. Такая была афіцыйная версія, якую ўбівалі ў галовы пакаленняў. Сам «вялікі правадыр і настаўнік» наўрад ці яе падзяляў. Ён умела карыстаўся чалавечымі заганамі і слабасцямі, культываваў іх у сваіх памагатых. А самае страшнае, што не толькі ў іх, але і ва ўсім народзе. Карнікі НКУС і ГУЛАГа — самае поўнае ўвасабленне ягонай выхаваўчай працы і бацькоўскага клопату.

Праўда, сеяў і вырошчваў ён не на пустым месцы. Жорсткасць грамадзянскай вайны, калі сын ішоў у смяротным двубоі на бацьку, брат на брата, калі прызвычаіліся вырашаць супярэчнасці «пускаючы ў расход», «у распыл», калі ў «сваіх» было важна толькі адно — што яны «свае», а ўсе іншыя іхнія якасці не прымаліся ў разлік, калі жыццё чалавечае абясцэньвалася і не ішло ні ў якое параўнанне з прымітыўна зразуметай ідэяю, калі энтузіязм зліўся ў адно са сляпой і безразважнай вераю ў «праваdыроў», з неабходнасцю «прыносіць у ахвяру», калі адны людзі атрымлівалі бязмежную ўладу над іншымі людзьмі,— усё гэта ён захоўваў і культываваў і ў мірны час. Сумленне падмянялася аддаnасцю, уласная годнасць — далучанасцю да клана. Даносы, «стукацтва», здрада сябрам, адмова ад дзяцей, ад бацькоў прызнаваліся праявамі «высокай свядомасці», прапагандаваліся як учынкі, што здзяйсняюцца на карысць дзяржаве, народу, сусветнаму пралетарыяту... Улада над людзьмі не стрымлівалася ніякімі законамі.

Так, на шчасце, разбурыць маральныя прынцыпы народа не змог і злачынца ягоных маштабаў. Але, на няшчасце, вынікі сталіншчыны жудасныя — і па колькасці пралітае крыві, і па ўздзеянні на галовы і душы.

Разбуджана, выцягнута, выстаўлена на ўсеагляд горшае, адменены сорам, прышчаплялася і дало парасткі тыповае светаўспрыманне члена злачыннай хеўры, калі вышэйшыя годнасці — паслухмянасць і спраўнасць у выкананні даручанага, бязмежная жорсткасць (з «іншымі» ўсё можна, за непадпарадкаванне — неміласэрнае пакаранне, за невыкананне законаў хеўры — знішчэнне), паказальныя расправы і судзілішчы дзеля падтрымання атмасферы жаху, дзеля перманентнага запалохвання. Можна, вядома, замяніць хеўру на больш эфектыўны «ордэн мечаносцаў», ды сутнасць ад гэтага не зменіцца.

Існуе (і даўно надакучыла) «мэта апраўдвае сродкі». Тым больш што мэтаю заўсёды абвяшчалася шчасце народа. Нібыта яму прыносіліся ўсе жудасныя ахвяры. Так, ва ўсведамленні многіх яны ненатуральным чынам перапляліся. Але шчасцем якога народа можна растлумачыць знішчэнне самога народа? Прачытайце яшчэ раз ліст супрацоўніка органаў знішчэння — пра якую мэту, звязаную са шчасцем народа, можна тут гаварыць? Якая мэта можа быць у абсалютна спакойнага ката і гвалтаўніка? Чыё шчасце можа яго цікавіць? Напэўна, у яго яшчэ былі нейкія сумненні, калі ён толькі пачынаў, калі ён толькі прызвычайваўся бачыць схопленых, загадзя асуджаных і ні ў чым не вінаватых людзей, калі яго падпускалі ў кабінеты яшчэ не следчым, а «будзільнікам», што ў адсутнасць следчага не дае спаць ахвяры, якую катуюць бяссонніцай... Але потым ён усё роўна ўсё разумее. Ды спыніць яго ўжо нішто не можа, бо ўсё горшае, што ёсць у чалавеку, усплыло ў ім, запатрабавана справаю, якою ён займаецца, і ягоным ахвярам больш бяспечна лічыць, што перад імі нейкі вылюдак, якога нішто ўсярэдзіне не спыніць...

І ўсплываюць у памяці падмаскоўная Лобня, лютаўскі мароз, ружова-сіні снег, бесклапотная студэнцкая кампанія, змораная бессэнсоўнай маладой весялосцю, няўтульная кватэра з супольнымі пакоямі, сумешчаным санвузлом, недарэчна нізкаю для студэнтаў-акселератаў столлю на апошнім паверсе брудна-белай «хрушчобы». Мы весяліліся ў адным пакоі, а ў другім важдаўся з двума велізарнымі, як куфры, дапатопнымі магнітафонамі бацька нашай сакурсніцы — высокі, худы чалавек у валёнках, футраной душагрэйцы, з уцягнутай у плечы галавою і няўлоўным позіркам. Нас ён зусім не бянтэжыў, са свайго боку ніякае цікавасці да нас не выяўляў. Раз-пораз ён «урубаў» свае «куфры», і да нас даносіліся адны і тыя ж словы: «Облака, плывут облака...»

А праз два месяцы нас папрасілі прыехаць у гэты дом, дапамагчы пахаваць гэтага чалавека. З неверагоднымі намаганнямі мы спусцілі труну па непрыдатнай на гэта лесвіцы. Пахаванне было нешматлюднае, надрывала душу сваёй беднасцю. А потым на такіх самых бедных памінках я даведаўся, што чалавек скончыў самагубствам — выкінуўся з акна.

— Ад страху,— сказала дачка,— здалося, што па яго прыйшлі, і...

Яго ўзялі першы раз перад вайною, студэнтам, жорстка, так, што ён ледзь не звар'яцеў, катавалі, потым адправілі ў лагер. Самае дзіўнае — ён не загінуў там, не памёр ад голаду, яго не прырэзалі блатныя, не застрэліла ахова. Пасля вайны яго нават выпусцілі на пасяленне. Да яго прыехала жонка. Яны ўжо чакалі дзіцёнка, калі ён спатрэбіўся для чарговага спіса нейкаму супрацоўніку органаў, і яго зноў узялі. Другога пякельнага кола катаванняў ён не вытрымаў, у ім пасяліўся неадольны жах, непадуладны высілкам розуму страх, ад якога яго не пазбавіла і рэабілітацыя. З тае пары ён жыў з гэтым страхам увесь час. Атрымліваў немагчымую для жыцця пенсію па інваліднасці, амаль не выходзіў з дому, некалькі разоў спрабаваў пакончыць жыццё самагубствам, не цярпеў анекдотаў пра Хрушчова — ён жа вызваліў яго і даў дах над галавою. У гэтай клетцы на апошнім паверсе «хрушчоўскага» пяціпавярховіка была ўся радасць ягонага раслiннага жыцця. Амаль праз дваццаць гадоў пасля вызвалення яму зноў здалося, што па яго прыйшлі, і ён кінуўся да цёмнага акна, ведаючы, што новых катаванняў ён не перанясе... У ягонай галаве зноў грукаталі боты тых, каго не пакаралі, хто дажывае свой век на пенсіі без злосці на людзей — памятаеце пачатак ліста супрацоўніка органаў?.. Як бачыце, іхняя работа не абарвалася ні ў пяцьдзесят трэцім, ні ў пяцьдзесят шостым. Яшчэ доўгія гады прыходзілі яны ўночы па свае ахвяры, яшчэ доўгія гады сціскаліся і будуць раздзірацца страхам сэрцы ад стуку іхніх ботаў, гогату іхніх галасоў...

Ёсць дзве сілы, якія ўтрымліваюць чалавека ад нізасці і жорсткасці — сумленне і кантроль грамадства. Двайная адказнасць — перад сабою і іншымі людзьмі. Некаму дастаткова аднае, але гарантаваць могуць толькі абедзве, іхняя сукупнасць.

Час ужо нам перастаць падманваць сябе казкамі, падобнымі на самаўнушэнне, пра незвычайныя вартасці міфічнага «савецкага чалавека», які засланіў нам жывых, рэальных людзей, далёкіх ад дасканаласці. Сталінскія часы — трагічны напамінак пра тое, у што можна ператварыць чалавека, калі вызваліць яго ад патрэбы ўнутранага гонару і годнасці, вызваліць яго ад адказнасці перад іншымі людзьмі за ягоныя дзеянні, зрабіўшы іх тайнаю для ўсіх, схаваўшы іх за непрагляднай заслонаю «дзяржаўнай неабходнасці». А што чынілася ў міліцэйскіх кабінетах, калі сябры і радня Брэжнева абладжвалі свае справы і былі ўпэўненыя, што пра іх ніхто і слова не асмеліцца сказаць!.. Колькі яшчэ трэба ўрокаў і доказаў? Што яшчэ павінна здарыцца, каб мы змаглі зірнуць на сябе сумленна і прама?

Сённяшнія намаганні па ачышчэнні нашага грамадства, адкрыццё змрочных тайн і трагедый нашай гісторыі безумоўна неабходныя і дзеля таго, каб дзяцей нашых не мог спасцігнуць лёс ахвяр сталінскіх беззаконняў і брэжнеўскага разгулу, і дзеля таго, каб ім не пагражаў лёс карнікаў і памагатых рэпрэсій, што па-свойму, ды не менш, страшна. Адно звязана з другім. Калі прызначаны ахвяры, шукаюць выканаўцаў бруднай работы, разбэшчваючы іхнюю свядомасць, вызваляючы іх ад асабістае адказнасці, выцягваючы ўсё горшае, што ёсць у прыродзе ў чалавека, узбуджаючы зайздрасць, нянавісць, жорсткасць. Патрэбны вольныя сумленне і розум, каб не дапусціць сябе на гэты гібельны шлях. Патрэбны веданне мінулага і атмасфера ўсенароднага непрыняцця гвалту і жорсткасці. Ці ёсць яны ў нас?

Акадэмік Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў, праглядаючы матэрыялы фільма пра Салавецкі лагер, дзе ён адбываў свой тэрмін, пазнаў аднаго са сваіх катаў на стужцы, але прозвішча яго назваць не захацеў — у яго ж могуць быць дзеці і ўнукі. Пад прыведзеным вышэй лістом стаяла прозвішча, але па адрасу, указаным на канверце, чалавек з такім прозвішчам не пражывае.

Пра каго ён клапаціўся? Пра сябе? Ці пра дзяцей і ўнукаў? Можа, хоць сёння пра дзяцей і ўнукаў? Пра тых, каму жыць.

**Віктар**
**ЧАРОПКА**



# сны аб радзіме

## ДАЎМОНТ

**Князю снілася Бацькаўшчына. У снах ён вяртаўся да яе. Раніцай князь сумна пaглядаў з вокнаў палат у бок літвінскай мяжы, туды, дзе ляжала зямля бацькоў — Нальшчанская[1]. Зямля бурштынавых лясоў і крынічнай сінявы азёраў і рэк, старажытных міфаў і паданняў. Зямля, дзе свята верылі ў адухоўленасць нябёсаў, зямлі і водаў, дзе гарэў нязгасны агонь Зніча. Край, дзе князь нарадзіўся. Пад зорамі якога спазнаў ён каханне жанчыны. З крыніц якога наталяў смагу. Там засталося ягонае дзяцінства, там адгаралі дні ягонага юнацтва.**

У мігаценні агменя бачылася князю палыханне Зніча. У завыванні зімовага ветру, вясновым шапаценні зялёных вяршалін, у тужлівым мармытанні восеньскіх дажджоў чуўся князю спеў нальшчанскіх пушчаў. І нат у шматгалоссі знаменных распеваў чулася песня роднага краю, яго хвалюючы кліч. І бачылася князю вечаровае сонца, што стомлена пакідала залітае рабінавай чырванню неба і кацілася за спічастую сцяну лесу. Апошнія промні бліскавіцамі зіхацелі на рачных хвалях. А на беразе бачылася адзінокая постаць хлопчыка, на пачцівай адлегласці — узброеныя слугі, што суправаджалі яго. Хто гэта? Гэта ён — Даўмонт. Яшчэ не дарос ён да сядла. Яшчэ далёка яму да баявых паходаў, і птах славы яшчэ не пралятаў над ім. Бацька ўпершыню ўзяў яго ў аб'езд па Нальшчанскай зямлі. Вось бацька падыходзіць да яго, кладзе на плячо руку. А за ракой зямля крывічоў. Памяць зберагла ў віхуры падзей і пранесла праз не адно кола часу гэтую яву далёкага дзяцінства. Бацькаўшчына — яна сонцам, заходзячым за лес, рэчкай, на хвалях якой мігацелі сонечныя промні — апошняй мяжой перад Чужыншчынай, крыніцамі, у якіх спаталяў смагу, і бурштынавымі стваламі хваін — гэтымі вобразамі жыла ў ягоным сэрцы. І водар скошаных траў... І крыкі драчоў на лугах... І бацькоўская рука на плячы... Як гэта было даўно!

Нікому князь не казаў пра свае сны.

Даўно ў князя была другая Айчына — Плескаў. Даўно ён насіў другое імя — Цімафей. Даўно забыта бацькоўская вера, і не матчына мова гучыць у ягоных вуснах.

Каму-каму, а яму грэх наракаць на лёс. Не напаткала князя смерць, як многіх, з кім сутыкнуўся на шляхах зямных. Няма ўжо Міндоўга, Таўцівіла, Траняты, Войшалка. Не тулеецца ён ізгоем пры дварах літоўскіх рыцараў, як той Суксе. Ужо каторае дзесяцігоддзе ён улюбёнец і абраннік пскоўскі. Любяць яго псковічы за харобрасць і ўмельства ў ратным баі, багалюбства і дабрачыннасць да люду хрысціянскага, спагаду да сірот і ўдавіц, за дух разумнасці святой, за дзеянні дзеля прыбытку і славы Плескава. І слаўна імя ягонае не толькі ў Плескаве, але і ў іншых краях і землях. І шматмудрыя мніхі-летапісцы заносяць ягоныя дзеянні на старонкі летапісаў нашчадкам для навучання і памяці. І параўноўваюць яго з вялікім Аляксандрам Неўскім — князем князёў, ваяводам ваявод. Грэх наракаць на лёс.

Малады быў тады князь нальшчанскі Даўмонт, калі на Літве прагным звычаем брат пайшоў на брата. Другалюбства і іншыя добрыя норавы забыў Міндоўг, зірнуць смерці ў вочы многіх літвінаў прымусіў, правам і вольнасцям баярскім гвалт ад яго стаў. Улады, славы, пажытку, новых зямель Міндоўгу хацелася. Але болей, чым князю, хацелася гэтага ягоным воям і прыяцелям — навагардцам. Ім патрэбна была Літва, ужо даўно абжытая і аселеная крывічамі ды дрыгавічамі. Навагардак прагнуў уладарыць Літвою, і Міндоўг быў мячом, якім навагардскае баярства ваявала яе. Паклікалі яго ў Навагардак. Сказалі: «Прымі веру нашу — і будзеш князем». Прыняў хрост. І стаў князем. А што ён — князь Нальшчанскі? Ён укленчыў перад навагардскім князем. З Міндоўгам звязвала сваяцтва — іхнія жонкі былі сёстры. Часта гасцяваў ён у Міндоўгавым доме і не раз прымаў будучага літвінскага караля ў сваім.

Да Міндоўга тоіў ён нелюбоў. Неміласцівы на кроў, вуздою хцівасці абрытаны, хіжы і злахітры. Сэрца сваё для сяброў і паплечнікаў зачыніў і лічыў іх сваімі галдоўнікамі. Ад боязі за карону і кволасці ўлады было гэта.

І здзіўляла Міндоўгава любоў да жонкі. Была яна тым чалавекам, ля якога забываўся Міндоўг пра цяжар улады. Калі памерла яна, тугою і смуткам пакутаваў кароль. Ці не ейныя незабыўныя рысы ўбачыліся Міндоўгу ў твары Даўмонтавай жонкі, ці ейны голас нагадваў яму голас каханай? І гвалтам узяў за сябе чужую жонку, Даўмонтаву.

Стрываць, змірыцца з абразай, праглынуць крыўду? А дзе гонар? Можна дараваць учарашняму ворагу, які просіць у цябе літасці, зла не памятаць, пусціць у сваё жытло, пасадзіць побач за сталом, падняць кубак за любоў і яднанне, але як дараваць таму, каму служыў без хітрасці, а ўзнагародай табе — здзек? Аднак — хто ён, Даўмонт, а хто — Міндоўг? Вялікая сіла ў князя — моцная ў бранях навагардская дружына. І малая — у яго, у Даўмонта. Не паспееш і меч падняць на вялікага князя, як сам без галавы ляжаш ля ягоных ног.

А тут Транята. Той ведаў, што яму трэба ад іншых. Прагнуў жамойцкі князь улады. І таму, хто мог дапамагчы яму, гатоў дапамагчы і ён. Так змовіліся яны. І надышла ноч, калі іхнія воі акружылі Міндоўгаў дом. Без шуму, нібы прывіды, выраслі яны з начной цемры перад вартай і пасеклі яе. Сам Транята і Даўмонт кінуліся ў вялікакняскія пакоі. Кароль спаў. Соннага яго ў ложку і забілі. І сыноў ягоных — Руклю і Рапенуса — забілі. Хіба яны прычынілі яму зло? Навошта было гэтае забойства? Каб ніхто не змог узяць меч помсты, каб ніхто не адпомсціў за Міндоўга.

Было каму помсціць за Міндоўга — Войшалку. Манах, ён скінуў схіму і з-пад Пінска прыйшоў на Літву, у Верхняе Панямонне. Навагрудскія дружыннікі і баяры, пінчукі — сіла вялікая. Літасці нальшчанцы не чакалі. Уцёкамі выратаваўся Даўмонт. Тады не ведаў, што назаўсёды пакідае Бацькаўшчыну. Не мог князь прадбачыць, што рыхтуе яму лёс. Ды і думаць пра гэта не думаў. Смерць была побач — ратаваўся ад яе. І толькі вось цяпер, пасля столькіх гадоў, смуткам адзывалася ў душы памяць аб Бацькаўшчыне. А была магчымасць вярнуцца. Была. Загінуў Войшалак. У Навагарадку сеў Войшалкаў швагер Шварн Раманавіч: можна было вяртацца. Не вярнуўся, застаўся ў Плескаве.

Плескаў — малодшы брат «господина великого Новгорода». Малодшы прагнуў роўнасці са старэйшым. Малодшаму надакучыла несці цяжар залежнасці ад старэйшага. Малодшы марыў пра вольны дух вечавы. Ноўгарад, асляплены велічнасцю, па-ранейшаму прызнаваў Пскоў сваім прыгарадам. І не болей. Па-ранейшаму ноўгарадскае веча вырашала лёс псковічаў. Толькі вось у бедах, калі імклівым набегам ваявала Пскоўшчыну Літва або прыпаўзаў да яе межаў жалезны цмок крыжацкай навалы, не спяшаў старэйшы брат дапамагчы малодшаму, і ўсё часцей псковічы адбіваліся ад ворага сваімі сіламі. Пскоў шукаў выйсце і часта не лепшае знаходзіў. Мір з крыжакамі, які заключылі яны,— здрада агульнарускім інтарэсам, не прынёс ён чаканага. Давялося пакласці за Ордэн многіх лепшых мужоў сваіх у бітве са жмойтамі пры Шаўляі ў памятным 1236 годзе. А праз чатыры гады Ордэн, сабраўшыся сіламі, рушыў свае закутыя ў браню «свінні» на пскоўскую зямлю. Ізборск і Пскоў расплаціліся за залішнюю даверлівасць незалежнасцю. Праз два гады Аляксандр Неўскі разбіў крыжакоў і вызваліў Пскоў, але на гэтым вайна з імі не закончылася.

Пскову патрэбны быў баявы князь, які адвагу і ўмельства яўляў у рацях, які мог адстаяць інтарэсы пскоўскія перад Ноўгарадам, які разбіраўся б ва ўсіх хітраспляценнях адносін літоўска-рускіх, ноўгарадска-рускіх і ў супярэчнасцях іхніх шукаў выгаду для Пскова. Надзеі ўскладалі на Даўмонта. Плескавічы добра разлічылі. У ізгоя выбару мала, нават зусім няма — значыць, волі вечавой падначаліцца. Падтрымку ў іншых землях яму цяжка знайсці — значыць, стане даражыць месцам баявога князя. А вопыту баявога Даўмонт паднабраўся нямала. Чаму б не ўзяць яго? Узялі ж палачане Таўцівіла, і верай і праўдай служыў ім, атрымаўшы ад іх імя Добры.

«І крещен был бысть у соборной церкви святой Троицы и наречено было имя ему в святом крещении Тимофей»,— пакіне летапісец паведамленне пра Даўмонтава хрышчэнне. А пасля адразу выпрабаванне. Вядзі, княжа, дружыну ў паход. І павёў Даўмонт псковічаў на сваю былую Бацькаўшчыну. Не гонару сабе шукаці ішлі псковічы, не імя слаўнага, нат не здабытку. Хай пральле Даўмонт кроў былых суайчыннікаў, хай гора і слёзы прынясе Літве, каб не вабіла яго дарога назад. Разумеў гэта Даўмонт, а вёў патаемнымі сцежкамі ў Нальшчаны пскоўскую дружыну. Праз адрачэнне ад Радзімы мог ён застацца ў Пскове, і адрокся. За ўсё прыходзіцца плаціць ў гэтым свеце. За вячыстае шчасце на нябёсах — адрачэннем ад зямных радасцей. За каханне ад жанчыны — неспакоем душэўным. За славу ваярскую — крывёй. І ён таксама плаціў.

Браталюбна жыў раней з Гердзенем, а цяпер — вораг яму. На ягоныя землі напаў і аб браталюбстве забыў, аб сваяцтве. Хацелі гэтага ад яго псковічы — і ён падняў на Гердзеня меч, і не па-ваярску ў адкрытым баі, а, як варапай, патаемна. Гвалту і ніцавання не спыняў. Закон войнаў святы. Узятае зброяй у ворага — тваё. Нямала здабыткаў плескавічы захапілі, нямала палону павялі з сабою. Паланянкай стала і жонка Гердзеня з двума сынамі. Праўда, не ўзяў грэх на душу, не пакараў іх смерцю. Гердзень з дружынай у сем сот ваяроў дагнаў яго за Дзвіной. І хаця толькі сотню вояў і меў Даўмонт, але бой прыняў. Уцякаць? Толькі пераможцам мог ён вярнуцца назад у Плескаў. Абняславіць сябе баязлівасцю — пазбавіцца пасада пскоўскага. «Братие, потягнем за святую Троицу и за святыя церкви за свое отечество»,— заклікаў ён псковічаў за сабою і першы рушыў у сечу. І кожны раз, апускаючы цяжкі меч на галовы нальшчанцаў, ён нібыта зноў і зноў рассякаў тыя путы, што яшчэ звязвалі яго з Бацькаўшчынай. Той бой ён выйграў. У Літве яго імя клялі — у Пскове славілі. І ў Ноўгарадзе з пачцівасцю аднесліся да новага пскоўскага князя. Таму і не падтрымалі ноўгарадцы вялікага князя ўладзімірскага Яраслава, калі той з нізавымі палкамі прыйшоў у Ноўгарад, каб выгнаць Даўмонта.

У наступным 1267 годзе Даўмонт зноў павёў на Літву плескавічаў разам з ноўгарадцамі. І зноў прынёс Бацькаўшчыне кроў і слёзы. Новай Радзіме служыў верай і праўдай. Хто ў дакор слова скажа? Усякае было: смяротная пагроза ад вялікага князя Яраслава, выгнанне з Пскова і зноў вяртанне ў горад, сечы з крыжакамі, паходы ў Лівонію, адраджэнне спаленых пскоўскіх пасадаў, узвядзенне Даўмонтавага крамля.

Перамогамі над крыжакамі і праславіў імя сваё. Кергольская бітва. У 1268 годзе разам з ноўгарадцамі, князем Дзмітрыем Аляксандравічам і дружынамі Яраслава пасля жорсткай сечы ля Кергольма разбілі ордэнскае войска. У баі гэтым загадваў ён правым крылом, стрымліваючы націск жалезнай свінні. Пасля перамогі агнём і мячом прайшоўся князь з псковічамі па Эсцейскай зямлі да самага мора. Магістр Отан, помсцячы псковічам, праз год прывёў пад сцены Пскова васемнаццаць тысяч ваяроў Хрыстовых. Тыя падзеі ўжо сталі легендай, дзе прыдуманае і праўдзівае пераплялося, як карані дрэў... Адзнаку пераможнага мяча пскоўскага князя атрымаў на твары сам магістр. І крыжакі адступілі. Як адступалі яны і пазней — у 1271 і 1272 гадах,— так і не перамогшы Даўмонта.

На многія гады адбіў ён ахвоту ў крыжакоў хадзіць на Русь, на многія гады вырваў для Пскова мір. Цэлае пакаленне псковічаў вырасла не пад звон мячоў, а пад спевы жнеяў і благавест саборных званоў. Ягоным клопатам апаясаўся Пскоў каменнай сцяной, самай моцнай на Русі. Ягоным імем называецца сцяна і цяпер — Даўмонтаў град. Пскоў рос, багацеў, набіраўся моцы перад новымі выпрабаваннямі. Славілі псковічы імя свайго князя. Шчаслівы, зайздросны лёс.

Усё часцей снілася князю Бацькаўшчына, на крылах памяці лятаў ён туды. Там і сонца не такое, там і месяц не такі, там і зоркі не такія, там і дрэвы не такія, там усё да болю роднае, мілае, апетае моваю матчынаю, там усё сваё. Там засталося маленства, там ягонае юнацтва. Там спяць вечным сном яго бацькі. І ў завыванні ветру, і ў шэпце лістоты, і ў мармытанні дажджоў, і нат у шматгалоссі распеваў знаменных... Апавядаюць, што легендарны Усяслаў Чарадзей у Кіеве звон сваёй Сафіі Полацкай чуў. І да яго, Даўмонта, людзі трызнілі аб страчанай Бацькаўшчыне. А можа, ад старасці гэта? Жыццё, як знічка, дагарае. І цягне азірнуцца назад. А там бачыцца постаць хлопчыка на рачным беразе, і побач постаць яго бацькі. І сонца ўжо зайшло за лес. Напіцца б вады з той ракі...

Стары князь зноў возьме ў рукі пераможны меч і разаб'е крыжакоў, што заявяцца пад Псковам. «Бысть сеча зла яко николи яше тока не бывала у Пскове». Гэта адбудзецца ў сакавіку 1299 года. А праз месяц князь памёр.

**«Сей же князь бе не единемъ храборьствомь показань бысть оть Бога, но и боголюбець показался, в мире приветливь и церкви украшая и попы и нищая любя и вся праздники честно проводя и попы и черенца кормля и милостыню дая сиротам и вдовицам...»**

**«Бысть же тогда жалость велика во Плескове, мужем, женам и малым детям, по добром господине благоверном князе Тимофеи».**

Так запісалі летапісцы.

...У адзін з летніх дзён 1299 года літоўска-пскоўскую мяжу пераехаў атрад вершнікаў. Суправаджалі яны Даўмонтавага сына князя Давыда. Сын выканаў перадсмяротную волю бацькі — вярнуўся на зямлю сваіх продкаў. Што чакала яго на ёй? Але гэта ўжо новы аповяд — аповяд пра славутага ваяводу беларускіх і літоўскіх дружын Давыда Гарадзенскага.

[1] Нальшчанская зямля — паўночны захад Беларусі, раён Крэва, Гальшанаў, Ашмянаў.

# забойства на вакзале

Заканчэнне.
Пачатак на стар. 12

**Спецыяліст па крымінальнай педагогіцы ўздыхнуў.**

**— А ў хлопцаў яшчэ горш. У модзе крымінальная рамантыка. «Зэкі», «злодзеі ў законе», «паняцці» і ўсялякая лухта, якая можа ўсур'ёз перавярнуць мазгі. Бо злодзейская рамантыка з яе міфамі пра «брацтва» прыводзіць у пастку. Асабліва сёння, калі такія словы, як «мафія», набылі зусім рэальны сэнс. Вопытныя злодзеі-рэцыдывісты ў арэоле аўтарытэту спакваля разбэшчваюць хлопцаў расказамі пра «справы», пра поўнае рамантыкі жыццё «ў зоне», бяруць на якую-небудзь «справу» — п'янага абабраць, напрыклад, шчодра аплачваюць «паслугі», а потым шантажыруюць малалетак, даводзяць іх да саўдзельніцтва ў сур'ёзных злачынствах. Вось і ў гэтым выпадку. Кныш сам птушка дробнага палёту, але ягоны «аўтарытэт» ужо стаў фактарам, які мы называем «крыміналагенным». Паводле маіх назіранняў, з'яўленне ў стыхійна сфарміраваным калектыве, дваравым, напрыклад, нават аднаго крымінальніка часцей за ўсё прыводзіць да стварэння ўстойлівай злачыннай групоўкі.**

...У той вечар у альтанцы Кныш сказаў:

— Што мы, кенты, драбязою займаемся? Учора бачыў аднаго фраера у шыкоўнай скуранцы. Хачу застопіць, але, на яго шчасце, аднекуль мянты з'явіліся. Пашэнціла яму.

Колька адразу ж падхапіў:

— Хачу скуранку!

— Скоры ты, Нікаля, — трохі капрызліва, як гэта ўмела толькі яна, сказала Нінка, — мог бы быць галантным юнаком і прапанаваць штонебудзь дзяўчыне. А то ўсё сабе.

Хлопцы засмяяліся, і напруга, якая ўзнікла пасля Кнышавых слоў, знікла. Спачатку ўсім стала трохі не па сабе: адна справа — сарваць «пеўнік», другая — тое, што прапанаваў Кныш. А так усім раптам стала весела і зусім нястрашна. Шэры атрэс штаны і, пераймаючы Кныша, аддаў загад:

— Значыцца, так: гёрлы чакаюць на тусоўцы, а мы пайшлі.

Нехта з дзяўчынак махнуў рукою: ладна, маўляў, займайцеся сваёй справаю, мы пачакаем.

Калі яны прыйшлі на вакзал, ужо цямнела. У скверы на адной з лавак яны ўбачылі хлопца, які, напэўна, чакаў цягнік, бо на кожны хрып з вакзальнага дынаміка ён ускокваў і напружана прыслухоўваўся да аб'яўлення.

— Гэта наш кліент, — каротка кінуў Кныш, — прыкінуты нічога. Курцец фірмовы і, здаецца, мой сайс.

Яны падышлі да хлопца і Кныш сказаў:

— Па-мойму, гэтая шмотка табе цісне. Дай разнашу.

Хлопец устаў, і яны ўбачылі, што ён зусім яшчэ хлопчык, маладзейшы за іх усіх, мабыць, толькі пераходзіць у восьмы ці дзевяты. На вуснах у яго была разгубленая ўсмешка, і, трохі заікаючыся, прыціскаючы да сябе яркі поліэтыленавы пакет, ён сказаў:

— Хлопцы, навошта вы так? Мяне мама чакае. Я пайду.

— Пачакае, — Кныш раскошным жэстам (і Шэры, і Колька, і Жан, і Барыс адзначалі, што гэта ў Кныша атрымалася шыкоўна, амаль як у «відзіку», які яны глядзелі нядаўна) дастаў цыгарэту, шчоўкнуў запальнічкаю і працадзіў: — Раздзявайся, фраер, а то ў цябе пікану.

Ён дастаў нож, шчоўкнула кнопачка і бліснула джала ляза.

— Хлопцы, я вас вельмі прашу, я ўсё аддам, — пралепятаў хлопчык і пачаў расшпільваць маланку на куртцы.

— Танна хочаш адкруціцца, — прарычэў раптам Кныш, і ўсе яны, Шэры і іншыя, успомнілі, як гадзіну назад у альтанцы Кныш праглынуў ажно жменю нейкіх таблетак. Ён называў іх «калёсамі» і запэўніваў, што мае «шалёны кайф». І праўда, вочы ў яго раптам сталі шалёныя. — Мы цябе забіваць будзем.

Кныш ударыў хлопчыка ў жывот, потым, калі ён упаў, нахіліўся над ім і яшчэ тройчы ўсадзіў нож. Потым павярнуўся да сваіх. Усе аслупянела глядзелі на хлопчыка, які ўпаў, на нож, з якога цякла кроў.

— Што глядзіце? На, Шэры, піку, ты ж у нас смелы, дакажы.

Дрыготкай рукою Шэры ўзяў нож і кальнуў. Нож увайшоў хутка і лёгка.

— Малаток, — сказаў Кныш, — зараз ты, Колька.

Раптам хлопчык узняў галаву і нечакана звонка сказаў:

— Хлопцы, што ж вы робіце, у мяне заўтра імяніны. Шаснаццаць. Прыходзьце да мяне. Толькі не біце больш.

— Абавязкова. Скажы маме, каб пірог пякла, — штурхнуў яго нагою Кныш, і хлопчык, скалануўшыся ўсім целам, распластаўся на асфальце. Кныш прасачыў, каб Колька ўдарыў два разы, потым перадаў нож Жану і Барысу.

**АЎТАРСКАЕ АДСТУПЛЕННЕ:**

**І на следстве, і ў час суда мяне ўвесь час не адпускала думка: адкуль гэтая нематываваная жорсткасць! Бо зусім відавочна, што нічым асаблівым забойцы пажывіцца не маглі. Што ж гэта! Пэўную яснасць унесла суддзя, пажылая ўжо жанчына, якая шмат пабачыла і зрабіла ўсё, каб гэты працэс не захліснулі эмоцыі, каб жорсткія і скупыя фармуліроўкі маглі ўмясціць усю бязмернасць трагедыі. Яна сказала, што, як на яе думку, дык адным з галоўных матываў забойства стала агрэсіўная непавага да асобы, абсалютнае абясцэньванне чалавечага жыцця. А мне згадаліся радкі з характарыстык, якія атрымалі ў суд з прафтэхвучылішча на Барыса, Сяргея, Яўгена і Мікалая. Там гаварылася пра бязвольнасць адных і гультайства другіх, пра тое, што Яўген жыве ў бабулі, пакуль яго ўдалыя бацька і маці па некалькі разоў спрабуюць знайсці свой лёс. Я даведаўся таксама, што ў Мікалая бацька алкаголік, што Сяргей яшчэ ў пачатковых класах вылучаўся жорсткасцю, але нікога, у тым ліку і школьных дактароў, гэта не занепакоіла. Словам, у гэтай крывавай гісторыі раптам выявіўся досыць банальны вынік для развага — бязбацькаўшчына, цяжкая спадчыннасць, педагагічная запушчанасць, адсутнасць якой-небудзь скаардынаванай работы з падлеткамі па месцы жыхарства. Вось бачыце, нават на паперы гэта здаецца нудным і абрыдлым. Дый на судзе, у пракурорскіх рэпліках, адвакацкіх выступленнях, уся гэтая гісторыя страціла свой першапачатковы сэнс, стаўшы толькі чарговым каментарыем да тэзы пра тое, што злачыннасць у маладзёжным асяроддзі набывае ўсё больш жорсткія і нематываваныя формы.**

...Яны пайшлі з прыстанцыённага сквера трохі расчараваныя тым, што здарылася. Усё ж было так проста... Хіба што цёмная пляма на асфальце, дзе толькі што ляжаў хлопчык. Яго яны аднеслі бліжэй да насыпу, а потым кінулі пад колы таварняка, які пралятаў тут гэтым часам. Кныш дастаў з кішэні «калёсаў», шырокім жэстам адсыпаў кожнаму, і неўзабаве ўсім стала весела. А дзяўчынкі чакалі іх у альтанцы, праўда, ім нічога не прынеслі — куртка была расшматаная. Але ўсё роўна астатні час яны прабавілі весела.

Арыштавалі іх праз тры дні. А Алегавай маці паведамілі пра тое, што маюцца звесткі аб яе сыне, толькі праз месяц. Вучнёўскі білет, які быў з ім, калі спаласавалі да непазнавальнасці, і мама пазнала сына толькі па рэштках тае самае курткі. Яна купіла яе да шаснаццацігоддзя Алега.



*рок-архіў*



# Пітэр Габрыэль, Філ Колінз і другія

У шэрагу помнікаў англійскага арт-року гурт «Джэнісіс» займае, бадай, адно з самых ганаровых месцаў.

Спачатку іх было пяцёра — пяцёра студэнтаў закрытай прывілеяванай школы Чартэрхаўз. Яны мелі шырокія веды ў галіне гісторыі мастацтваў і неардынарную фантазію. У 1968 годзе яны, паіграўшы ва універсітэцкіх групах «Энон» і «Садовая агароджа», аб'ядналіся. Так з'явіўся «Джэнісіс».

Першы альбом, запісаны ў тым самым годзе, меў відавочна перайманьны характар і асаблівага энтузіязму ў аўдыторыі не выклікаў. Фірма гуказапісу «Дэка», палічыўшы групу малацікавай, дала зразумець музыкантам, што не мае больш патрэбы ў іх высокакваліфікаваных паслугах. Аднак гурт не распаўся. Рэкруціраваўшы ў свае рады ўдарніка Філа Колінза і гітарыста Стыва Хакета, «Джэнісіс» запісаў у сямідзесятым і семдзесят першым гадах альбомы «Парушэнне мяжы» і «Злачынства ў дзіцячым пакоі». Праз некалькі гадоў Энтані Бэнкс, арганіст групы, назаве гэтыя альбомы «самым вялікім крокам ва ўсёй нашай кар'еры». Наступныя альбомы — «Фокстрот» (1972) і «Продаж Англіі па фунту» (1973) — вывелі «Джэнісіс» у лік лідэраў брытанскага арт-року.

Пераасэнсаванне задач і ролі рок-музыкі ў жыцці грамадства прывяло да прынцыпова новага падыходу да музычнае мовы. Гэта абумовіла зварот да нават традыцыйна «нярокавых» музычных інструментаў — флейты, мелатрону, фартэпіяна і тамбурыну. Тэксты «Джэнісіс» узору пачатку — сярэдзіны сямідзесятых пытыхаюць вобразамі класічнай англійскай літаратуры. Гэта Англія Дзікенса і Кэрала. Шырокі зварот і да кельцкага фальклору, і да агульнакласічных музычных традыцый зрабіў гурт і вельмі брытанскім, і вельмі інтэрнацыянальным. Пра «Джэнісіс» тае эпохі можна сказаць словамі А. Купрына пра Р. Кіплінга: «Краіна, якая робіць лепшую ў свеце сталь, варыць лепшы ва ўсім свеце эль..., якая праклямавала святую непахіснасць сямейнага агменю..., толькі такая краіна, мудрага і бессардэчнага эгаізму, жалезнай англасаксонскай энергіі, пагардлівай дзяржаўнай адасобленасці, краіна, якая ганарліва піша займеннік «Я» з вялікае літары, але раўніва ахоўвае кожную драбніцу старадаўняе спадчыны, пачынаючы з афіцыйнага цалавання рукі ў караля і канчаючы галіною востралістніка на калядным стале — толькі такая краіна магла спарадзіць сваю цяперашнюю славу».

Вернемся, аднак, у 1972 год. Пачынаючы з гэтага часу «Джэнісіс» трохі адыходзіць ад умоўна-фантастычных сюжэтаў і звяртаецца да рэалій сучаснае музыкантам Брытаніі. Лепшыя кампазіцыі «Фокстроту» і «Продажу...» разумна і з'едліва ўзнаўляюць атмасферу грамадства «істэблішмэнту» — «Расплюшчы вочы і ўсё ўбачыш сам».

Семдзесят чацвёрты год стаў годам з'яўлення бясспрэчнага шэдэўра — альбома-двайніка «Закланне ягняці на Брадвеі». Літаратурны сюжэт, які расказвае пра нягоды пуэртарыканца Рауля ў нью-йоркскім «дне», нагадвае кафкіянскія хімеры роспачы і страху. Альбом стаў своеасаблівым вузлом, які звязаў у адно мноства агульначалавечых праблем — вайны і міру, расавай дыскрымінацыі, існавання чалавека ва ўмовах урбаністычнае культуры — і ўсё ў вельмі складанай і асацыятыўнай форме. Некалі Рыхард Вагнер так прарэцэнзаваў фартэпіянную санату Ліста, якая толькі што з'явілася, гэты агульнапрызнаны шэдэўр музычнае класікі: «Чым больш слухаеш гэтую музыку, тым больш яна падабаецца». Тое ж самае можна сказаць і пра «Закланне ягняці на Брадвеі».

Альбом меў нечуваны поспех — за шэсць месяцаў «Джэнісіс» паставіў ягоны сцэнічны варыянт больш за сто разоў па абодва бакі Атлантыкі. Поспеху ў немалой ступені спрыяў рэжысёрскі талент Пітэра Габрыэля, «які даваў тэатралізаваную пастаноўку да дасканаласці», як пісала музычная крытыка.

Якое ж было здзіўленне прыхільнікаў «Джэнісіс», калі ў маі наступнага года аб'явіў аб сваім рашэнні пакінуць групу пастаянны яе лідэр Габрыэль. Тым, хто не ведае падасновы таго, што здарылася, такі паварот мог здацца нечаканым. Аднак канфлікт наспяваў даўно. «Джэнісіс» узору пачатку — сярэдзіны сямідзесятых быў гуртам, аб'яднаным ідэяю раўнапраўнага супрацоўніцтва. А Габрыэль са сваім спецыфічным талентам мог быць толькі лідэрам і нікім іншым. У выніку сутыкнення «Джэнісіс» і Габрыэля апошні быў вымушаны ўступіць і пакінуць гурт, застаўшыся, аднак, з усімі музыкантамі ў цудоўных сяброўскіх адносінах.

Насуперак усеагульнай думцы супольнасці музыкантаў з выхадам з яе Габрыэля не распалася. Месца лідэр-вакаліста заняў ударнік Філ Колінз. Разумеючы, што Колінз-інструменталіст нашмат мацнейшы за Колінза-вакаліста, апошні, усё роўна як апраўдваючыся, заўважыў, што «голас, сапраўдны голас быў усяго толькі ў дваіх — Шаляпіна і Карузэ».

Два наступныя альбомы — «Трук з хвастом» («Чарга нягоднікаў») 1975 года і «Вецер і завяданне» 1976 года ў многім працягвалі лінію пачатку сямідзесятых. І хоць разам з Габрыэлем з арсеналу гурту знікла флейта, інструмент лірычных адступленняў «Джэнісіс», альбомы гэтыя яшчэ раз нагадалі, што англійскі арт-рок мае з класічнай музыкай агульную сістэму кровазвароту.

1978 год прынёс яшчэ адну непрыемнасць: з гурту пайшоў супергітарыст Стыў Хакет. «Джэнісіс» адзначыў гэтую падзею выпускам альбому «...і цяпер толькі ўтраіх».

Аднак з сярэдзіны сямідзесятых крывая мастацкае каштоўнасці павалі, ды няўхільна папаўзла ўніз. Не, знешне ўсё выглядала досыць прыстойна: той самы альбом «...цяпер толькі ўтраіх» быў прызнаны лепшай плацінкаю года, «Дзюк» (1980), «АВАСАВ» (1981) і «Джэнісіс» («Мама») 1983 года разышліся гіганцкімі тыражамі. Тым не менш, музыка, страціўшы свае лепшыя якасці, ператварылася ў звычайнае эстраднае шоу. Альбом «Нябачныя дотыкі» (1986) проста расчараваў. Музыка практычна не адрозніваецца ад калінзаўскіх «сольнікаў». Безумоўна, і найвышэйшы прафесіяналізм, і «тавары від», і пэўная вынаходлівасць — усё гэта навідавоку. Аднак, са знікненнем уласцівай раней баладнасці, дэкламацыйнасці і выразнай мелодыкі кампазіцый часам прыгнячаюць сваёй аднастайнасцю.

Такая кароткая гісторыя групы, якая ўнесла вялікі ўклад у гісторыю сусветнае рок-культуры.

**Уладзіслаў АХРОМЕНКА**

# Зрухі

**Заканчэнне.**
**Пачатак на 2-й стар. вокладкі**

Фраза, якая стала ўжо звыклаю апошнім часам, сказаная не адным спецыялістам, што «ёсць зрухі ў лепшы бок», адразу ж страціла сваё аптымістычнае адценне. Безумоўна, ёсць мастакі. Ёсць таленавітыя плакатысты. Але ім не пад сілу стварыць тое, што называецца школаю. І не таму, што яны працуюць кожны паасобку і не дзеляцца адзін з адным сваімі плакатамі. Гэта якраз не абавязкова. Міхал, напрыклад, лічыць, што ідэі носяцца ў паветры і нейкія тэндэнцыі, якія аб'ектыўна наспяваюць недзе «ў паветры», адначасова рэалізуюцца рознымі людзьмі, магчыма, нават незнаёмымі. Колькасць людзей значэння не мае. Напрыклад, шэсць. Як на яго погляд, дык шэсць чалавек могуць стварыць нацыянальную школу. Але гэтыя шасцёра павінны адпавядаць аднаму-адзінюткаму патрабаванню: яны павінны бліскуча ведаць нацыянальную культуру, гісторыю, псіхалогію народа. А нашы таленавітыя адзінкі, на ягоную думку, як след гэтага не ведаюць. Значыцца, калі мастак не памыляецца, не варта спадзявацца ў бліжэйшыя гады пачуць словаспалучэнне «беларуская школа плаката», і застаецца радавацца хоць бы таму, што ёсць усё-такі «таленавітыя адзінкі» і «зрухі ў лепшы бок».

Яшчэ адно захапленне Анемпадзістава — панк-культура. На ягоную думку, гэта вельмі моцная рэакцыя на шэрасць, манатоннасць, аднастайнасць побыту. Хіба панк-культура ўяўляе сёння сабою альтэрнатыву. Дарэчы, адзін з ягоных плакатаў так і называецца — «Альтэрнатыва шэрай сцяне». Апроч таго, Міхал сцвярджае, што калі прайсці па нашым горадзе і паглядзець на яго ўважліва, дык можна лёгка зразумець, што Мінск — найспрыяльнейшая глеба для зараджэння і развіцця панк-культуры. Міхал любіць панк-рок і ў некаторых сваіх работах спрабуе графічна перадаць тэксты песень панк-груп (Казікавы метамарфозы). А яшчэ ён любіць Босха і Брэйгеля. А яшчэ — раннеславянскі жывапіс. А яшчэ — сучасную эстонскую літаратуру. А яшчэ... Яшчэ — багата чаго.

Думка, укладзеная ў плакат Анемпадзістава, дакладная, спрэсаваная, з максімумам інфармацыі, з ясна пазначанай аўтарскай пазіцыяй. Усе ягоныя работы неадназначныя. Напрыклад, што азначае «свіння-скарбонка»? Першае ўражанне: соцыум, замкнёная прастора грамадства. А аўтар сцвярджае, што гэта — выява чалавечае псіхалогіі, значыцца, у адрозненне ад ягоных жывапісных работ, у плакатах прысутнічае той самы «трэці сэнс» (ці другі, ці чацвёрты), які не вызначаецца на падставе першага ўражання. А гэта, у сваю чаргу, азначае, што над ім трэба думаць.

Не бяруся аналізаваць плакаты Міхала Анемпадзістава. Няхай крытыкі ацэньваюць іх выяўленчыя вартасці і публіцыстычнасць. У нас, гледачоў, погляд трохі іншы.

Перад вамі ілюстрацыі. Глядзіце і думайце.












Вядомы беларускі бард Сяржук Сокалаў-Воюш, які настаўнічаў у Наваполацку, працуе цяпер загадчыкам літаратурнае часткі лялечнай трупы ў Віцебску. Магчыма, цяпер прыхільнікам яго таленту лягчэй будзе спаткацца з яго песнямі. Ва ўсякім разе мінчане пад час нядаўняга выступу Сержука не толькі аднавілі старыя ўражанні, але і пазнаёміліся з шэрагам новых твораў: «Памяць 30-х», «Фронт, фронт, фронт», «Калыханка на 30 кастрычніка».

Наступная навіна беларускай песні таксама звязаная — хоць і ўскосна — з імем С. Сокалава-Воюша. Яго вядомая песня «Аксамітны вечар» дала назву чарговаму (трэцяму па ліку) альбому Данчыка. Нашыя чытачы, бадай, ужо ведаюць, што пад такім псеўданімам выступае беларускі спявак з ЗША Багдан Андрусішын.

Прыхільнікі гурта «Бонда» былі здзіўленыя, не ўбачыўшы на адным з апошніх канцэртаў двух яго музыкаў: гітарыста Вячаслава Кораня і басіста Сержука Краўчанку. Так, склад ансамбля змяніўся, і цяпер ён такі: Іван Маркаў, Ігар Варашкевіч, Сяржук Кныш, Андрэй Хмяльніцкі і Мікола Логінаў. Што ж датычыць Кораня і Краўчанкі, дык аматарам беларускага року можна не засмучацца — у іх таксама ўсё у парадку, і хутка на нашым небасхіле заззяе новая зорка пад назвай «Уліс».

З рэчыцкім рок-гуртом «Магічны крышталь» мінчане ўпершыню пазнаёміліся летась, пад час фестывалю папулярнай музыкі «На Доўгім бродзе-88». Арыгінальная трактоўка хард-року — працяглы бас, сухі, акцэнтаваны гук з імклівымі пераходамі на доўгагалоссе, гітарнае сола — літаральна ашаломіла публіку, палярна падзяліла яе на праціўнікаў і прыхільнікаў калектыву. Бадай, апошніх стане болей, калі яны даведаюцца аб зменах у творчай канцэпцыі калектыву. Пра іх гаворыць гітарыст і вакаліст гурта Алег Грыб: «Не, стыль мы не мяняем. Акрамя таго, як і раней, застаёмся трыо: я, бас-гітарыст Юрась Паўленка і... Праўда, памянялі барабаншчыка: цяпер за «Амаці» сядзіць Сяржук Душкевіч. Але не пра гэтую змену я хачу сказаць. Той канцэрт у Мінску быў апошнім, калі мы не звярталі ўвагі на мову, на свае адносіны да роднае мовы. Але побач з намі выступаў «Рэй», мы слухалі на касетах «Мрою», «Бонду». А тут пад час фестывалю выйшаў часопіс «Крыніца» з вершамі Андрэя Зязюлі. Пасля таго мы ўсе захварэлі пытаннем: што мы губляем! Цяпер чакаем, калі зноў зможам прывезці ў сталіцу сваю праграму, гэтым разам цалкам беларускую».

Цікавае папаўненне беларускай дыскаграфіі зрабіла, нарэшце, фірма «Мелодыя». Яна выпусціла дыск-гігант вядомага фальклорнага ансамбля «Свята». Пласцінка была настолькі доўгачаканая, што першы тыраж яе хутка знік з паліц фанаграфічных магазінаў.

Добра ведаюць аматары музыкі імя саксафаніста «Зарціпо» Алеся Камоцкага. Праўда, перш за ўсё яго ведаюць як барда. Дык вось менавіта як бард і атрымаў Алесь ангажэмент Эксперыментальнага творчага аб'яднання, што базіруецца пры мінскім Доме кіно. Цяпер Алесевы сольныя канцэрты носяць больш рэгулярны характар, і ўсе мы хутка пачуем яго новыя песні: «Рэклама фенолфталеіну», «Заводзім гаспадарку», «Птушкі і гнёзды», «Здарэнне ў калгасе»...

Падрыхтаваў В. МАРТЫНЕНКА



## музычны тэлетайп




Прыхільнікі і асабліва прыхільніцы шведскага трыо «А-ха» дужа здзівіліся, калі газета «Ваарт Лэнд» паведаміла пра вяселле ўсеагульнага ўлюбёнца і лідэра групы Мортэна Харкета з 25-гадовай шведкаю Камілаю Мальмквіст. Свае планы Мортэн умудрыўся захаваць у абсалютнай тайне да самага дня вяселля нават ад таварышаў па групе. Цырымонія прайшла вельмі сціпла. Тым не менш усе трое музыкантаў дружна заявілі, што шчаслівая падзея ніякім чынам не паўплывае на працу над новым альбомам, які, сцвярджаюць яны, будзе нашмат цікавейшы за два папярэднія.

Лонданская газета «Тудэй» прыводзіць даныя пра тое, што ў Вялікабрытаніі значна вырасла папулярнасць кампакт-дыскаў. У 1988 годзе іх было прададзена 29 млн. штук на суму 266 млн. фунтаў, у параўнанні з папярэднім годам рост склаў 60 працэнтаў. У сувязі з ростам тыражоў лазерных пласцінак фірмы знізілі іх кошт на 2 фунты. Але, як сведчыць тыднёвік «М'юзік Уік», рост папулярнасці кампакт-дыскаў амаль не адбіваецца на продажы звычайных вінілавых пласцінак. Іх продаж у 1988 г. упаў усяго толькі на 4 працэнты ў параўнанні з 1987 г.

Прадзюсерскае трыо Сток, Эткін і Устэрман стала ўжо сімвалам камерцыйнага поспеху і ўмення знаходзіць новых зорак. Гэтым разам прадзюсеры звярнуліся да ўжо вельмі вядомай спявачкі. У выніку супрацоўніцтва з Донай Самэр выйшла пласцінка «Іншыя месца і час».

«Блэк Сабат», на які ўжо трохі забыліся, напамінае пра сябе пласцінкаю «Абезгалоўлены крыж».

«Дып Пёрпл» разарвалі шматгадовы кантракт з фірмаю «Палідор» і вырашылі звярнуцца да паслуг «А-Сі-Эй». Як аб'явіў прэс-агент групы, першая пласцінка ў новай фірме будзе выпушчана 1 студзеня 1990 года.

Рон Вуд, добра вядомы як музыкант і ўдзельнік «Ролінг Стоўнз», але не надта як мастак, зноў адкрыў выставу сваіх работ у лонданскай галерэі Хамільтан. За апошнія паўгода Вуд арганізаваў каля трыццаці такіх выстаў. У цэнтры залы выставы знаходзіцца велізарны партрэт «Ролінг Стоўнз», напісаны алеем, апроч таго выстаўлены яшчэ тры іншыя карціны са «Стоўнзамі», літаграфіі, партрэты Джона Ленана, Чака Бэры, Элвіса Прэслі... Выстава будзе паказана таксама ў шэрагу еўрапейскіх краін.

Кампазіцыі «Бітлз» загучалі ў паважаных сценах міланскай музычнай акадэміі. Італьянскі піяніст Алесандра Лучэці на спецыяльным канцэрце прадставіў сімфанічныя варыянты песень «Бітлз», а таксама іншых рок-музыкантаў, у прыватнасці «Дып Пёрпл». Як сцвярджаюць тыя, хто прысутнічаў у зале, гэтыя кампазіцыі могуць смела канкурыраваць з творамі майстроў акадэмічнай, «сур'ёзнай» музыкі.

Майкл Джэксан прыдумаў цікавы спосаб ратавацца ад залішне тэмпераментных прыхільнікаў. Пасля заканчэння канцэрта з артыстычнага выхаду з'яўляецца адмыслова загрыміраваны двайнік, які прыцягвае да сябе ўсю ўвагу, а сапраўдны артыст знікае тым часам у іншых дзвярах. Метад такі эфектыўны, што ім цяпер карыстаецца і Джон Бон Джоўі.

Падрыхтаваў Ю. БУДЗЬКО

«Карозія металу» (Масква)

Фота Сяргея БАРЫСАВА



Лявон **ВОЛЬСКІ**




Мал. аўтара

апавяданне

Я выйшаў з дому а шостай гадзіне. Халодны вецер апёк твар. Я падняў каўнер паліто. Тратуар быў заледзянелы. У лёд умерзлі папяровыя ўлёткі. Нехта ўдзень раскідаў іх па вуліцы. «Навошта раскідваць улёткі, усе ж ведаюць, што іх ніхто не чытае»,— падумаў я. Мае крокі адбіваліся рэхам ад сцен навакольных дамоў. «Халера! Лепей хадзіць у валёнках, будзе прынамсі ціха, меней прываблю ўвагі».

З-за рога дома выйшаў вайсковец. Ён павольна зняў аўтамат з пляча.

— Стой.

Я спыніўся.

— Рукі ўгору.

Падняў рукі.

— Куды ідзеш? — руля аўтамата матава свеціцца пад ліхтаром.

— Іду да брата, ён жыве на суседняй вуліцы. Метраў пяцьсот прайсці.

— Ты што, не ведаеш, што з надыходам цемры нельга выходзіць на вуліцу? Што, загадаў не чытаеш?!

— Прабачце, я ўсё ведаю, але толькі пяцьсот метраў... Брат хворы, хацеў наведаць.

— Што ў кішэнях?

Дастаў з кішэняў ключы ад кватэры, насоўку, аловак.

— Гэта ўсё?

— Яшчэ дакументы. Ва ўнутранай кішэні.

— Дык што стаіш, як баран?! Давай сюды!

Даю. Дастае ліхтарык, уключае. Чытае.

— Ва ўсіх, каго ні спыніш, хворыя сваякі,— гаворыць нарэшце.— Ці памёр хто-небудзь. Раней трэба было выходзіць з дому, зразумеў?

— Так... Прабачце, болей не паўторыцца.

— Ты што, мастак? — нечакана пытае вайсковец.

— Мастак. Але зараз не працую. Зараз мастакі не трэба.

— Мяне можаш намаляваць?

Вось чаго ён хоча!

— Магу.

— Ну, глядзі, заўтра я змянюся, прыйду, намалюеш. Зразумеў?

— Зразумеў.

Перапісвае з дакументаў мой адрас.

— Ну, усё. Валі да свайго брата.

— Дзякуй вам.

— Заўтра аддзякуеш. Ідзі хутчэй, пакуль я не перадумаў.

Іду хутка, наколькі гэта магчыма на асфальце, які пакрыўся лёдам. Адначасова стараюся не грукатаць абцасамі. Не атрымліваецца. Нервуюся. Калі нарвуся на яшчэ адзін патруль, наўрад ці ўсё добра скончыцца. Праўда, ужо амаль што прыйшоў. Нечакана паслізнуўся на лёдзе, губляю раўнавагу і падаю...

* * *

Зноў гэтыя вар'яцкія сны! Кожную ноч адно і тое ж. Засынаю і апынаюся ў вар'яцкім горадзе. У час вайны ці чагосьці накшталт яе. Ужо тыдзень працягваецца гэтае трызненне. Яшчэ ноч — і пайду да псіхіятра. Бо інакш можна звар'яцець. Калі яшчэ не звар'яцеў. Прачынаюся — і гадзіну калоцяцца рукі. Прыязджаю на працу — і нічога не магу рабіць. Дома не магу ні чытаць, ні нават тэлевізар глядзець — увесь час думаю пра гэтыя сны. Роўна аб адзінаццатай гадзіне вечара я засынаю. Дзе б ні знаходзіўся. Сон навальваецца імгненна. Свядомасць адключаецца, і я адразу апынаюся ў тым горадзе...

* * *

Вельмі баліць калена. Нічога, хутка пройдзе. Вецер працінае наскрозь. Зімовага адзення ў мяне няма. Яно цяпер вельмі дорага каштуе. Так што, наўрад ці знайду...

Уваходжу ў пад'езд. Трэці паверх. Званю тры разы. З таго боку дзвярэй доўга ўглядаюцца ў вочка. Нарэшце бразгае замок.

— Заходзь,— кажа Уладзя.

Заходжу. Здымаю абутак. Ногі змерзлі — я іх амаль не адчуваю. Уладзя ставіць на электраплітку імбрык. У яго заўсёды ёсць гарбата. Заходжу ў пакой. Вялікае акно шчыльна зацягнута чорнай коўдрай. Калі патруль бачыць пасля надыходу цемры святло ў акне, у гэтае вакно могуць стрэліць. Гарбата закіпела. Уладзя разлівае яе па кубках.

З вуліцы даносіцца звон пабітага шкла і некалькі стрэлаў.

— Зноў нешта патрулю не спадабалася,— змрочна кажа Уладзя.— Зноў страляніна.

— Мяне сёння спынiў вартавы,— кажу я.— Ледзь адкруціўся. Сказаў, што намалюю партрэт. Ён перапісаў мой стары адрас з дакументаў. Ты ж ведаеш, я там даўно не жыву. Я нічога яму не сказаў. Сам разумееш, калі высветліцца, што ў дакументах запісаны не той адрас...

— А хто цяпер на тым адрасе жыве? — пытаецца Уладзя.— Яны не скажуць пра тваё новае жыллё?

— Я нядаўна да іх заходзіў. Суседка кажа, што днямі ўсю сям'ю арыштавалі.

— Дык ты глядзі, не шоргайся цяпер пасля камендацкай гадзіны. Можаш зноў на таго вартавога наскочыць.

— Пастараюся,— адказваю я Уладзю.

— Сёння заставайся ў мяне, ісці зараз няма куды.

Уладзя дастае раскладанку, коўдру.

— Кладзіся, я яшчэ пачытаю.

— Дабранач.

* * *

Болей трываць немагчыма. Не жыццё, а суцэльнае пекла! Сёння ж пасля працы пайду да лекара. Хай робяць са мной усё, што хочуць, толькі б зніклі гэтыя сны. Гэта проста невыносна!

* * *

Надвор'е нейкае хваравітае. Неба — у цяжкіх аблоках. На асфальце, на зямлі — налёт бруднага снегу. Іду дамоў. На вуліцах гараць вогнішчы. Ля іх грэюцца вайскоўцы і бяздомныя. Тыя валацугі, якіх яшчэ не арыштавалі і не накіравалі ў працоўныя лагеры. Але вайскоўцы, якія патрулююць гэты раён, ведаюць усіх тутэйшых валацугаў у твар і стараюцца іх не чапаць. Усё, праўда, можа здарыцца, але ў пад'ездах зараз вельмі халодна, і бадзягі ўдзень выходзяць да вогнішчаў. Дастаюць з кішэняў ежу, жуюць.

— Гэй ты, стой! — чую з боку вогнішча.

Раблю выгляд, што не пачуў, іду далей.

— Стой, табе кажуць! — ляскат затвора.

Спыняюся. Падыходзіць вайсковец.

— Куды ідзеш? — у вайскоўца чырвоны абветраны твар, папаленыя агнём вейкі. Крывая ўсмешка на твары.

— Дадому іду. Наведваў хворага брата.

— Чаму не працуеш?

— Я мастак. Для мяне зараз няма працы.

— Ну, ты даеш! — смяецца жаўнер.— Праца ёсць для ўсіх. Ты мастак? Сцены, значыцца, можаш фарбаваць, платы, га? — бачна, ён задаволены сваім жартам.

— Я хадзіў у размеркавальны цэнтр, пытаўся. Сказалі, што я пакуль не патрэбны. Есць папера,— я лезу ва ўнутраную кішэню.

— Пакінь яе сабе,— пагардліва вымаўляе вайсковец.— Каб заўтра я цябе ўбачыў пастрыжанага, а то занадта валасаты. Усё зразумеў?

— Усё.

— А цяпер ідзі адсюль да халеры. Ты мне даўно ўжо вочы намазоліў, патлаты.

Заходжу ў свой пад'езд, падымаюся на пяты паверх, адчыняю дзверы. У кватэры халодна. Ацяпленне адключана. Стаўлю на плітку імбрык — хоць гарачага папіць. Плітка не грэецца. Значыцца, зноў адключылі электрычнасць.

* * *

Палата. У палаце нас некалькі. Мы час ад часу размаўляем. Мне значна лягчэй. Прынамсі не трэба хадзіць на працу, выслухоўваць скаргі начальства — я за апошні тыдзень амаль нічога не рабіў. Цяпер я ўвесь час сярод людзей. Буйнапашкоджаных у нашай палаце няма, жывём ціха і спакойна. Толькі сны не даюць па-ранейшаму спакою, але, кажуць, лекары тут кваліфікаваныя, так што спадзяюся на лепшае.

* * *

Іду па цэнтры горада. Лепей было ціха сядзець у кватэры, але я не магу. Праваруч — абгарэлы шкілет грузавой машыны. Унаначы зноў нешта здарылася. Праходжу побач. Людзей на вуліцы вельмі мала. Яшчэ гадзіна дня, а прадукты пачынаюць выдаваць толькі з чатырох. Ды і тады кожны бярэ ў сваім раёне. Таму што а шостай гадзіне ўжо цёмна. І калі вялікая чарга, можна да камендацкай гадзіны не паспець дахаты.

Даходжу да старой барыкады — металёвае смецце, мяхі з пяском. Паварочваю, каб ісці назад, і раптам заўважаю ля барыкады бліскучы чорны пісталет. Ляжыць сабе на заледзянелым асфальце. Азіраюся. Быццам нікога няма...

Вось я і дома. На стале — новы чорны пісталет. У абойме — пяць патронаў.

* * *

Здаецца, гэта ніколі не скончыцца. Удзень мяне часам літаральна калоціць. Я пакутліва чакаю ночы. Каб зноў апынуцца ў гэтым жахлівым горадзе... Не ведаю, што будзе далей. Мне здаецца, лекары проста не разумеюць, што са мной адбываецца...

* * *

Сёння па нашай вуліцы ўвесь дзень ездзілі вайсковыя машыны. Я глядзеў у акно на бясконцыя шэрагі машын няпэўнага колеру. Глядзеў, пакуль не стаміліся вочы. Вырашыў прайсціся па вуліцы, можа, зайсці да Уладзі. Апрануўся. Выйшаў на двор. Валацугі цягнуць да вогнішча свежыя ўлёткі цэлымі абярэмкамі...

— Гэй, мастак!

Няўжо гэта ён? Азіраюся — ён! Той вартавы, якому я абяцаў намаляваць партрэт.

— Хадзі сюды, мастачок! Ты што, мастачок, дакументы сам сабе намаляваў, га?

Уцякаць! Калі ён мяне здасць, даведаюцца, што ў дакументах несапраўдны адрас. Тады — усё. Ці лагер, ці... Лепей не думаць. Бегчы! Да пад'езда недалёка. Не паспее страляць...

— Стой, сволач! — пабег следам за мной.

Забягаю ў пад'езд, залятаю на свой паверх. Хутчэй! Ключы... Дрыжаць рукі. Усё! Я ў кватэры. Прыслухоўваюся да таго, што робіцца на лесвіцы.

Нехта размаўляе з суседзямі. Стук у дзверы. Вось і ўсё! Знайшлі. Адчыняю дзверы на гаўбец. Дарма. Ля дома — жаўнеры. Іх шмат. Стоп! Пісталет на стале. Пяць патронаў!

Чую, як пачынаюць ламаць дзверы. Ламайце! Падыходжу да дзвярэй. Чатыры стрэлы ў дзверы. Прабітае дрэва. Крыкі.

Ля скроні — гарачы ствол.

* * *

— Доктар, ён памёр уначы.

— Я чуў. Сваякоў у яго няма?

— Няма.

— Гэта добра. Трэба паведаміць у арганізацыю, дзе ён працаваў, здаецца, аўтобусны парк?

— Ён быў мастаком-афарміцелем.

— Хто ж мог падумаць, што гэта настолькі сур'ёзна...

Малады лекар выйшаў з кабінета галоўнага ўрача і накіраваўся ў трупярню. Але, узгадаўшы нешта, вярнуўся.

— Прабачце, доктар, я зусім забыўся. У яго ложку знайшлі пісталет.

— Што?!

— Пісталет. Праўда, без патронаў.

— Не вярзіце лухту, малады чалавек! — галоўны ўрач раззлаваўся.— Я нічога не хачу чуць ні пра якія пісталеты! І без гэтага нам хапае. Можаце ісці!

Малады лекар выйшаў з кабінета, прайшоў праз доўгі калідор і выйшаў на шпітальны двор. Ля сцяны стаялі бачкі для смецця. Лекар дастаў з кішэні бліскучы чорны пісталет і кінуў у адзін з бачкоў.





Фота Ігара САЎЧАНКІ

**Нядаўняе мінулае пакінула нам безліч самых пякучых праблем ва ўсіх сферах народнага жыцця і ў тым ліку — у галіне мастацтва і літаратуры. Адной з такіх балючых праблем з'яўляецца лёс так званай эміграцкай літаратуры і яе творцаў, сярод якіх, можа, найпершае месца займае Аляксандр Салжаніцын.**

**Яшчэ зусім нядаўна на гэтага выдатнага рускага пісьменніка, нашага сучасніка, было навешана мноства самых пачварных абвінавачанняў, распаўсюджана шмат самых неверагодных чутак, якія рабілі з яго наваяўленага «ворага народа» і прывялі ўрэшце да высылкі з радзімы. Галоўным момантам абвінавачвання А. Салжаніцына быў «антысаветызм», выражаны ў ягонай бескампраміснасці да сталінскага мінулага краіны. Але было б дзіўна чакаць апалагетыкі таго мінулага ад чалавека, над якім столькі гадоў гэтае мінулае вяршыла беззаконне, які шэраг найлепшых маладых гадоў бязвінна пакутаваў у сталінскім ГУЛАГу і сумленна і таленавіта засведчыў гэты свой шлях у выдатных творах літаратуры. Як пісаў нядаўна адзін публіцыст, «Аляксандр Салжаніцын быў ці не адзіны аўтар, які ў свой час уратаваў гонар рускай літаратуры, ягонае з'яўленне было як цуд» (А. Якабсон). І гэта праўда. Уражанне цуду некалі суправаджала з'яўленне ў друку амаль кожнага твора А. Салжаніцына з таго нешматлікага, што было надрукавана ў нас у шасцідзесятыя гады; у эміграцыі ж ім напісана куды больш. Савецкі чытач, па сутнасці, не знаёмы з галоўнымі творамі А. Салжаніцына, якімі захапляецца свет, і трэба спадзявацца, што для нашай краіны час А. Салжаніцына яшчэ прыйдзе. Таксама, як і яго вяртанне на радзіму, якой ён застаецца верны на працягу ўсяго жыцця.**

**Ніжэй змяшчаюцца некаторыя дакументы і невялікія нататкі былой жонкі А. Салжаніцына — Наталлі Рашатоўскай, якія выяўляюць новыя рысы біяграфіі гэтага выдатнага пісьменніка сучаснасці, нобелеўскага лаўрэата. Напісанае ў іх прасякнута павагай да яго, пісьменніка і чалавека,— павагай, якой ён не меў у сваёй краіне і якую заслужыў сваёй апантанай творчасцю перад усёй сусветнай культурай.**

**Васіль БЫКАЎ**

**Наталля**
**РАШАТОЎСКАЯ**

# да гісторыі двух дакументаў





З Салжаніцыным я пазнаёмілася, калі вучылася на першым курсе Растоўскага універсітэта, у 1936 годзе. Ад яго школьных сяброў, з якімі вучылася на хімічным факультэце, я шмат чула пра Саню Салжаніцына, ведала, што ў школе ён быў выдатным вучнем, з рознабаковымі інтарэсамі, асабліва захапляўся матэматыкай, літаратурай і тэатрам. У Растоўскім універсітэце ў той час не было гуманітарных факультэтаў, і Салжаніцын паступіў на фізіка-матэматычны факультэт. Паступаючы ва універсітэт, ён адначасова трымаў экзамены ў студыю Завадскага (у тыя гады тэатр імя Массавета знаходзіўся ў Растове). Ён не паступіў туды толькі таму, што ў яго былі слабыя галасавыя звязкі. Але заняткаў у адной навучальнай установе яму было мала, і ён сумяшчае вучобу ва універсітэце з курсамі па вывучэнні англійскай мовы.

Ва універсітэце ён таксама становіцца выдатным студэнтам. Ён не толькі цудоўна вучыцца, але вядзе камсамольскую работу, рэдагуе насценную газету, пастаянна удзельнічае ў вечарах мастацкай самадзейнасці, ставіць п'есы і чытае свае вершы. 4-ты і 5-ты курсы Растоўскага універсітэта Салжаніцын сумяшчаў з завочным навучаннем у Маскоўскім інстытуце філасофіі, літаратуры і мастацтва (МІФЛМ), каб папоўніць сваю гуманітарную адукацыю. Растоўская кінахроніка нават зрабіла пра Салжаніцына невялікі фільм. Гледачы бачылі перад сабою на экране Салжаніцына, які то праводзіў доследы ў фізічнай лабараторыі, то выконваў хатнія заданні для МІФЛМ. Калі ў 40-м годзе ўпершыню былі ўведзеныя ў вышэйшых навучальных установах Сталінскія стыпендыі, то ў Растоўскім універсітэце з'явіліся сем такіх стыпендыятаў. Салжаніцын быў сярод іх.

Заканчэнне універсітэта супала ў нас з пачаткам вайны. У той час мы былі ўжо жанатыя. За час вайны муж напісаў мне 248 лістоў (усе яны былі пранумараваныя). Лісты пераважна былі вялікія, змястоўныя, заўсёды — патрыятычныя. Праз усе лісты скразным матывам праходзіць нязменная, непахісная вера ў нашую перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне. Гэтая вера не пакідала яго нават у цяжкае лета 42-га года. У адзін з лістоў ён уклаў свой верш «Каўказу», які заканчваўся радкамі:

**Будет под Берлином**
**Горевать Тевтон,**
**Что по нашим спинам**
**Наплясался он.**

Але сам Салжаніцын ішоў са сваім 2-м Беларускім фронтам не на Берлін, іх накірунак быў на Усходнюю Прусію. Па дзіўным супадзенні ён праходзіў па тых мясцінах, дзе ў першую сусветную вайну ваяваў яго бацька, які пайшоў добраахвотнікам на фронт, а таксама па тых мясцінах, якія збіраўся апісваць у сваім будучым гістарычным рамане — мясцінах Самсонаўскай катастрофы. 21 студзеня 1944 года муж пісаў мне: «Шалёная думка 1938-га года — пабываць у Найдэнбурзе — сёння, праз 7 гадоў, здзейснілася — я быў у ім. Стаяў сярод горада ў пажары і, як мастак, **з натуры** запісваў свае ўражанні ў блакнот. Самае цікавае тое, што, калі Самсонаў ваяваў у Найдэнбурзе ў 1914 г.,— **ён таксама гарэў** — і так павінна быць у адпаведным раздзеле ЛЮРа». («ЛЮР» — так скарочана Салжаніцын называў свой будучы гістарычны раман, які павінен быў называцца «Любі рэвалюцыю!»).

Але ў гэты час над галавою ў Салжаніцына навіслі хмары, пра якія ён не падазраваў. Франтавая дзейнасць Салжаніцына была бездакорная. Калі камандаванню стала вядома, што органы СМЕРШ збіраюцца арыштаваць яго, яны спрабавалі гэтаму процістаяць. Гэта былі: падпалкоўнік Пшэчанка, камандзір дывізіёна, палкоўнік Траўкін, камандзір брыгады, і камандуючы арміі Гусеў. І толькі калі распараджэнне аб арышце прыйшло з Масквы, палкоўнік Траўкін вымушаны быў дазволіць арыштаваць Салжаніцына, не пабаяўшыся пацісnуць яму, ужо арыштаванаму, з сарванымі пагонамі і ордэнамі, руку і... пажадаць яму шчасця.

Салжаніцын быў арыштаваны 9 лютага 1945 года, роўна за 3 месяцы да заканчэння вайны. Дзень Перамогі застаў яго ў камеры на Лубянцы. А ў ліпені Салжаніцын даведаўся аб сваім прысудзе, рашэнні асобай нарады: 8 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў. У гэты час ён знаходзіўся ўжо у Бутырскай турме, дзе і атрымаў ад мяне першую перадачу.

Мне арышт мужа ўяўляўся нейкім страшным непаразуменнем. Я збіралася дамагацца яго вызвалення. Але дзеля гэтага трэба было жыць у сталіцы. Збег розных спрыяльных абставін дапамог мне перавесціся ў аспірантуру Маскоўскага універсітэта.

Нашае першае спатканне адбылося тою ж восенню, калі Салжаніцын знаходзіўся ў сваім першым лагеры — у Маскве, на Вялікай Калужскай вуліцы. З размовы з ім я зразумела, што справа яго зусім не такая простая, як мне ўяўлялася. Абмеркаванне ў лістах да сябра думкі, ці з'яўляецца Сталін годным прадаўжальнікам справы Леніна, было ў той час сапраўдным крыміналам. Думалася, што мае намаганні нічога не дадуць. Спачатку арышт быў успрыняты Салжаніцыным як поўны крах усяго ягонага жыцця, у якім ён хацеў так шмат зрабіць. У адзін момант усе планы былі разбураны. Першыя гады свайго зняволення, асабліва першыя месяцы, ён быў надзвычай засмучаны сваім лёсам. Нейкі час ён спадзяваўся на амністыю ў сувязі з атрыманай Перамогаю. Амністыя сапраўды была дадзена, але яна не датычылася 58-га артыкула, г. зн. палітычных зняволеных. Аляксандр Ісаевіч вырашыў сам дамагацца змены ў сваім лёсе — прасіць замены тэрміну ў выпраўленча-працоўных лагерах высылкаю ў аддаленыя мясціны краіны, каб там пачаць якое-небудзь новае жыццё. Я звязваюся з адвакатам Дабравольскім, наладжваю таксама ягонае спатканне з мужам у лагеры. Дабравольскі раіць мне пастарацца атрымаць як мага больш водгукаў пра Салжаніцына ад тых людзей, якія ведалі яго, а самае галоўнае — атрымаць на яго Баявую характарыстыку з яго ранейшай воінскай часці.

Салжаніцын піша некалькі лістоў у сваю былую часць. На шчасце, у мяне не была перапынена сувязь з некаторымі яго аднапалчанамі (вясною 44-га года я пабывала ў мужа). Усе лісты я накіроўвала на імя сяржанта Саломіна, з якім у мяне не перапынялася перапіска. Водгук прасіла даць ужо дэмабілізаванага капітана Мельнікава, які жыў у Казані і адрас якога мне таксама быў вядомы. Праз нейкі час прыйшоў водгук ад Мельнікава, а Ілья Саломін напісаў мне, што «ўдалося выслаць Саню «пуцёўку ў жыццё».

Баявую характарыстыку Салжаніцыну напісаў Віктар Аўсянікаў, які змяніў яго як камандзіра батарэі гукавой разведкі, сумесна з камандзірам дывізіёна падпалкоўнікам Пшэ-

чанкам. Узгоднена яна была з Траўкіным, які быў ужо ў той час генерал-маёрам.

### БАЯВАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

**На былога камандзіра 2 гукабатарэі**
**капітана САЛЖАНІЦЫНА Аляксандра Ісаевіча**

**У маёй часці капітан САЛЖАНІЦЫН А. І. служыў са студзеня 1942 г. па люты 1945 г.**

**У 1942 г., атрымаўшы папаўненне з прызыўнікоў, ён пачаў узмоцнена яго рыхтаваць, і ў лютым 1943 г. ён з гэтым падраздзяленнем ужо дзейнічаў на Паўночна-Заходнім фронце. У маі 1943 г. часць была на Арлоўскім напрамку, дзе пачынаецца яго сапраўдная баявая работа.**

**За час службы ў маёй часці САЛЖАНІЦЫН быў асабіста дысцыплінаваны, патрабавальны да сябе і падначаленых, яго падраздзяленне па баявой рабоце і дысцыпліне лічылася лепшым падраздзяленнем часці.**

**Выконваючы баявыя заданні, ён шматразова выяўляў асабісты гераізм, ведучы за сабою асабісты састаў, і заўсёды са смяротных небяспек выходзіў пераможцам.**

**Так, у ноч з 26 на 27 студзеня 1945 г. ва Ўсходняй Прусіі пры контратацы немцаў яго батарэя трапіла ў акружэнне. Гібель каштоўнай, сакрэтнай тэхнікі і асабістага саставу здавалася непазбежнаю. САЛЖАНІЦЫН жа, дзейнічаючы ў выключна цяжкіх умовах, асабісты састаў з акружэння вывеў і тэхніку ўратаваў.**

**За час баявой работы на фронце яго падраздзяленне выявіла 1200 (тысячу дзвесце) батарэй і асобных гармат праціўніка, з якіх 180 было падаўлена і 65 знішчана агнём нашай артылерыі з яго асабістым удзелам.**

**Да баявой тэхнікі, да аўтамашын, да зброі САЛЖАНІЦЫН ставіўся беражліва і заўсёды ўтрымліваў у баявой гатоўнасці.**

**За выдатныя дзеянні на фронце барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі САЛЖАНІЦЫН быў узнагароджаны ордэнамі: Айчыннай вайны 2 ст. і Чырвонай Зоркі.**

**КАМАНДЗІР РАЗВЕДДЫВІЗІЁНА ПАДПАЛКОЎНІК**
**(ПШЭЧАНКА)**
**З характарыстыкаю згодны**
**КАМАНДЗІР В/Ч 07900**
**ГЕНЕРАЛ-МАЁР артылерыі**
**(ТРАЎКІН)**

28/4 1946 г.

Калі прыйшла «пуцёўка ў жыццё» Салжаніцыну, якую я атрымала на адной з маскоўскіх кватэр (здаецца, у радні Аўсянікава), з моманту арышту Салжаніцына прайшло больш як год. Заява была ўжо Салжаніцыным напісана. Але Дабравольскі яшчэ год адцягваў адпраўленне гэтай заявы, чакаючы, як ён растлумачыў мне, зручнага моманту. Яна была паслана Дабравольскім у чэрвені 47-га года. Заява была накіравана ў Генеральную пракуратуру на імя пракурора, які наглядаў за справамі Асобага Аддзела. Асноўны ўпор у гэтай заяве быў зроблены на франтавыя заслугі Салжаніцына. Салжаніцын звярнуўся з просьбаю аб пераглядзе яго справы. Бліскучая баявая характарыстыка падтрымлівала ў нас з мужам надзею на добры вынік. Аднак 5 кастрычніка Салжаніцыну, які ў той час знаходзіўся ўжо у «Марфінскай шарашцы», было ўручана паведамленне Галоўнай ваеннай пракуратуры Узроеных Сіл, ад самога ваеннага пракурора войск МУС. Салжаніцыну паведамлялася, што яго справа праверана і падставы для перагляду не знойдзена. Датавана паведамленне было 25-м жніўня 1947 года.

Паведамляючы мне пра гэтую сумную падзею, муж пісаў: «Нельга ж у жыцці разлічваць на цуды. Што добра, дык гэта тое, што нарэшце наступіў усёй гэтай гісторыі канец. Усё ясна — сяджу і буду сядзець».

І ўсё-такі ў ягоных лістах часам прарываліся горкія ноткі з прычыны няўдачы ў пераглядзе справы.

«Дарэмна я непакоіў генерал-маёра з-за баявой характарыстыкі. Нават яна не змагла дапамагчы справе. Усё-такі цяжка было ўявіць, што яна не будзе мець ніякае вагі».

Тады — не мела вагі. Затое потым яна набудзе вагу і дапаможа поўнай рэабілітацыі Салжаніцына ў сувязі з ягоным арыштам 9 лютага 1945 года. Рэабілітаваны ён будзе Ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР у лютым 1957 года. Рэабілітацыйнае вызначэнне ў значнай частцы сваёй грунтуецца на баявой характарыстыцы Салжаніцына.

*ВЯРХОЎНЫ СУД САЮЗА ССР*

### ВЫЗНАЧЭННЕ № 4н-083/57

**ВАЕННАЯ КАЛЕГІЯ ВЯРХОЎНАГА СУДА СССР**

**У складзе: старшыні — палкоўніка юстыцыі Барысаглебскага і членаў: палкоўнікаў юстыцыі Долатцава і Конава**
**разгледзела ў пасяджэнні ад 6 лютага 1957 года**

**ПРАТЭСТ ГАЛОЎНАГА ВАЕННАГА ПРАКУРОРА**
**на пастанову асобай нарады пры НКУС СССР**
**ад 7 ліпеня 1945 года,**
**на падставе якой па арт. 58—10 ч. 2 і 58—11 КК РСФСР быў накіраваны ў ВПЛ на 8 гадоў**
**САЛЖАНІЦЫН Аляксандр Ісаевіч, нараджэння 1918 года, ураджэнец гор. Кіславодска, з вышэйшай адукацыяй, да арышту з'яўляўся камандзірам батарэі, удзельнічаў у баях супраць нямецка-фашысцкіх войск і быў узнагароджаны ордэнамі: Айчыннай вайны II ступені і Чырвонай Зоркі.**
**Заслухаўшы даклад тав. Конава і Заключэнне Нам. Галоўнага Ваеннага пракурора — палкоўніка юстыцыі Цераxава, які меўся пратэст задаволіць,**

**у с т а н а в і л а:**

**САЛЖАНІЦЫНУ ставілася ў віну тое, што ён з 1940 года і да дня арышту сярод сваіх знаёмых праводзіў антысавецкую агітацыю і прымаў меры да стварэння антысавецкай арганізацыі.**

**У пратэсце Галоўны Ваенны пракурор ставіць пытанне аб адмене ў дачыненні да САЛЖАНІЦЫНА ўказанай пастановы асобай нарады і спыненні справы аб ім з-за адсутнасці складу злачынства з наступных прычын.**

**З матэрыялаў справы відаць, што САЛЖАНІЦЫН у сваім дзённіку і ў лістах да свайго таварыша Віткевіча М. Д., гаворачы аб правільнасці марксізму-ленінізму, аб прагрэсіўнасці сацыялістычнай рэвалюцыі ў нашай краіне і непазбежнай яе перамозе ва ўсім свеце, выказаўся супраць культу асобы СТАЛІНА, пісаў пра мастацкую і ідэйную слабасць літаратурных твораў савецкіх аўтараў, пра нерэалістычнасць многіх з іх, а таксама пра тое, што ў нашых мастацкіх творах не тлумачыцца аб'ёмна і шматбакова чытачу буржуазнага свету гістарычная непазбежнасць перамог савецкага народа і арміі і што нашы творы мастацкай літаратуры не могуць процістаяць спрытна згатаваным буржуазным літаратурным паклёпніцтвам на нашую краіну.**

**Гэтыя выказванні САЛЖАНІЦЫНА не маюць складу злачынства.**

**У працэсе праверкі скаргаў САЛЖАНІЦЫНА былі апытаныя Рашатоўская, Сіманян і Сіманьянц, якім САЛЖАНІЦЫН нібыта выказваў антысавецкія думкі. Указаныя асобы ахарактарызавалі САЛЖАНІЦЫНА як савецкага патрыёта і адмаўлялі, што ён вёў антысавецкія размовы.**

**З баявой характарыстыкі на САЛЖАНІЦЫНА і водгуку капітана Мельнікава, які служыў разам з ім, відаць, што САЛЖАНІЦЫН з 1942 года да дня арышту, г. зн. да лютага 1945 года, адважна змагаўся за Радзіму, не раз выяўляў асабісты гераізм і вёў за сабою асабісты састаў падраздзялення, якім камандаваў. Падраздзяленне САЛЖАНІЦЫНА было лепшым у часці па дысцыпліне і баявых дзеяннях.**

**Зыходзячы з вышэй выкладзенага, Галоўны Ваенны пракурор лічыць, што асуджэнне САЛЖАНІЦЫНА з'яўляецца няправільным, і ў сувязі з гэтым ставіць пытанне аб спыненні справы аб ім на падставе арт. 4 п. 5 КПК РСФСР.**

**Разгледзеўшы матэрыялы справы і дадатковай праверкі, згаджаючыся з довадамі, выкладзенымі ў пратэсце, і прымаючы пад увагу, што ў дзеяннях САЛЖАНІЦЫНА няма складу злачынства і справа аб ім падлягае спыненню з-за адсутнасці складу злачынства, Ваенная Калегія Вярхоўнага Суда СССР**

**в ы з н а ч ы л а:**

**Пастанову асобай нарады пры НКУС СССР ад 7 ліпеня 1945 года ў дачыненні САЛЖАНІЦЫНА Аляксандра Ісаевіча адмяніць і справу аб ім з-за адсутнасці складу злачынства на падставе арт. 4 п. 5 КПК РСФСР спыніць.**

**Сапраўднае за адпаведнымі подпісамі.**
**Арыгіналу адпавядае:**
**Ст. афіцэр Ваеннай Калегіі**
**маёр адмслужбы (САВЯНКОЎ)**

Сама рэабілітацыя не ўнесла ніякіх прынцыповых змен у жыццё Салжаніцына, якое ён пачаў весці пасля прыбыцця з лагера ў Кок-Церацкую ссылку. Для ўсіх ён быў толькі настаўнік. Але настаўніцтва зусім не было ягонай галоўнай справаю. Асноўнай справаю было пісьменніцтва, якое ён утойваў ад усіх. Так было ў ссылцы, так было ў Матроніным двары, калі ён вярнуўся з Азіі ў Расію. Так было і ў Разані, дзе мы зноў жылі з ім разам.

Толькі прамова Твардоўскага на XXII з'ездзе партыі, у якой ён сказаў пра тое, што нашы пісьменнікі не выкарысталі тых магчымасцей, якія адкрыў перад імі XX з'езд партыі, падштурхнула Салжаніцына да рашаючага кроку — паказаць Твардоўскаму сваю аповесць, якая называлася тады яшчэ «Щ-854 (Адзін дзень аднаго зэка)».

Праз год, 18 лістапада 1962 года, паступіў у продаж 11-ты нумар часопіса «Новый мир» з аповесцю Аляксандра Салжаніцына, якая цяпер атрымала назву «Адзін дзень Івана Дзянісавіча».

Ужо назаўтра, у панядзелак, 19 лістапада, сярод мноства званкоў у рэдакцыю «Нового мира» быў званок з Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР. Спачатку спыталіся, якія ў Салжаніцына імя і імя па бацьку. А хвілін праз дзесяць пачуўся радасны голас: «Ура! Ён праходзіў па нашай картатэцы! Ён — наш хроснік, мы яго рэабілітавалі!»

У канцы лістапада Аляксандр Ісаевіч жыве ў сталіцы, у гатэлі «Масква». І тут яму часта звоняць. У тым ліку і з Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда з настойлівай просьбаю выступіць у іх. «Цяпер — не, хіба што ў студзені»,— адказаў Салжаніцын.

6 лютага 1963 года у нас дома, у Разані,— два самавітыя чалавекі: палкоўнік Кудраўцаў і прафесар, доктар юрыдычных навук Архоўскі. Яны прыехалі ў Разань па нейкай справе, заадно вырашылі зайсці да Салжаніцына. «У нас паўтара месяца вісела аб'ява аб сустрэчы з вамі»,— з папрокам кажа мужу палкоўнік Кудраўцаў. Ваенная калегія Вярхоўнага Суда хоча нарэшце бачыць яго, прапануе ўдзельнічаць у абмеркаванні розных заканадаўчых пытанняў. Аляксандр Ісаевіч абяцае быць у іх у час бліжэйшай сваёй паездкі ў Маскву.

14 лютага адбылася абяцаная сустрэча. Па Аляксандра Ісаевіча ў гатэль заехаў палкоўнік Кузняцоў, сакратар партарганізацыі і начальнік аддзела кадраў. Назад адвёз маёр Дзмітрый Паўлавіч Церахаў, які быў у свой час, паводле мужавых слоў, ягоным галоўным рэабілітатарам.

Выступаючы ў іх, Салжаніцын пажартаваў, што ўпершыню ў жыцці знаходзіцца ў будынку суда, хаця і быў асуджаны.

Гэтая сустрэча дазволіла Салжаніцыну ў будучым не адзін раз звярнуцца ў Вярхоўны Суд па розных пытаннях. Напрыклад, калі даведаўся з ліста аднаго лагерніка, што іх нампаліт канфіскаваў з лагернай бібліятэкі 11-ты нумар «Нового мира» з аповесцю «Адзін дзень Івана Дзянісавіча».

Між тым, гэтая самая аповесць рэдакцыяй часопіса «Новый мир» і Цэнтральным дзяржаўным архівам літаратуры і мастацтва вылучаецца на Ленінскую прэмію.

28 снежня 1963 года газета «Известия» друкуе спіс кандыдатаў на Ленінскую прэмію. У галіне літаратуры вылучана 19 кандыдатаў.

20 лютага 1964 года ў «Литературной газете» Камітэт па Ленінскіх прэміях публікуе адабраныя для далейшага абмеркавання кандыдатуры. Іх усяго 7 з 19. Гэта — Ганчар, Гранін, Ісаеў, Первамайскі, Серабракова, Салжаніцын, Чакоўскі.

У газетах адна за адной з'яўляюцца артыкулы, якія даюць супярэчлівыя ацэнкі «Івану Дзянісавічу».

Па Усесаюзным радыё ніякіх перадач, прысвечаных аповесці, не было.

А на экранах тэлевізараў 31 сакавіка гледачы ўбачылі члена рэдакцыі «Нового мира» У. Лакшына з тоўстым партфелем, напоўненым лістамі чытачоў у «Новый мир», прысвечанымі «Аднаму дню Івана Дзянісавіча». Ён расказаў кароткую прадгісторыю апублікавання «Аднаго дня...» Як два гады назад у рэдакцыі чыталі рукапіс невядомага аўтара. Хваляваліся не толькі з-за незвычайнасці тэмы, але і з-за адоранасці аўтара. Маршак сказаў пра яго «З боскай ласкі», Чукоўскі назваў сваю рэцэнзію «Літаратурны цуд». Лакшын паведаміў, што тыраж «Івана Дзянісавіча» дасягнуў ужо мільёна, калі ўлічыць, што аповесць перакладзена на многія мовы.

10 красавіка адбылося чарговае пасяджэнне Камітэта па Ленінскіх прэміях. На гэтым пасяджэнні першы сакратар ВЛКСМ Паўлаў упэўнена заявіў, што Салжаніцын пацярпеў зусім не з-за культу асобы Сталіна, што ён проста крымінальнік: хіба гэта не відаць з яго п'есы «Алень і шалашоўка», дый з мовы, якою напісаны «Адзін дзень Івана Дзянісавіча»? Адкуль нам вядома, нарэшце, што ён рэабілітаваны?..

Калі Паўлаў прамовіў слова «крымінальнік», Твардоўскі кінуў з месца рэпліку: «Няпраўда!» Але як даказаць?..

Назаўтра ж Твардоўскі звярнуўся ў Ваенную калегію Вярхоўнага Суда СССР і атрымаў копію рэабілітацыйнага вызначэння.

На пасяджэнні Камітэта па Ленінскіх прэміях старшынёю зачытваўся гэты дакумент. Паўлаў вымушаны прасіць прабачэння. Аднак гэта ўжо не мае ніякага значэння, бо пытанне з прэміяй вырашана. Таго самага дня, 11 красавіка, у газеце «Правда» друкуецца рэдакцыйны артыкул пад назваю «Высокая патрабавальнасць», які мусіў сцішыць усе спрэчкі і страсці. Гэты артыкул зусім не быў падобны на артыкул С. Маршака «Праўдзівая аповесць», які быў надрукаваны ў той самай «Правде» трохі раней. У артыкуле «Высокая патрабавальнасць» змяшчаўся агляд лістоў чытачоў, прысвечаных «Аднаму дню Івана Дзянісавіча». У заключэнне было сказана: «Аб'ектыўную чытацкую думку пра аповесць А. Салжаніцына несумненна выяўляе трэцяя, найвялікшая група лістоў — усе яны прыходзяць да аднае высновы: аповесць А. Салжаніцына заслугоўвае станоўчай ацэнкі, але яе нельга аднесці да такіх выдатных твораў, якія з'яўляюцца вартымі Ленінскай прэміі».

У Камітэце па Ленінскіх прэміях ідзе галасаванне і перагаласаванне. Секцыя кіно і тэатра прагаласавала аднагалосна за прысуджэнне прэміі Салжаніцыну, у секцыі літаратуры погляды раздзяліліся. Пры агульным галасаванні большасць — за. Вырашана перагаласаваць. Большасць — супраць. Сумятня...

14 красавіка — тайнае галасаванне, але Салжаніцына ў спісах ужо няма. Вынік парадаксальны — прэмію не прысуджаць з пісьменнікаў нікому.

З ЦК прыязджае сакратар па ідэалогіі Ільічоў. Новае галасаванне — і першая прэмія прысуджаецца Алесю Гачару за «Тронку».

Праз некалькі дзён да нас дамоў прыйдзе ліст:

«Адзін дзень...», якім зачытваюцца мільёны людзей, выяўляецца, не адпавядае лаўрэацкім патрабаванням, а вось «Тронка», пра якую шмат гавораць (і толькі ў апошнія дні) і якую мала чытаюць, выяўляецца,— эталон. І смех, і грэх!»

З Ленінграда пішуць аўтару «Аднаго дня...»:

«Вам просяць перадаць, што без прэміі Вы нам яшчэ даражэйшы».

Так што атрымаць Ленінскую прэмію за аповесць «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» рэабілітацыйнае вызначэнне Салжаніцыну не дапамагло, спазнілася.

З тае пары прайшло больш за 24 гады. І вось гэты дакумент зноў усплыў. Пра яго нагадала нам «Книжное обозрение», надрукаваўшы 5 жніўня 1988 года вельмі пераканаўчы артыкул Л. Чукоўскай «Вярнуць Салжаніцыну грамадзянства СССР».

Публікацыя тэксту рэабілітацыйнага вызначэння — будзем спадзявацца — не толькі дапаможа вярнуць Салжаніцыну грамадзянства СССР, але і дасць адпор усім спробам фальсіфікаваць біяграфію Аляксандра Салжаніцына на ягонай Радзіме. Я маю на ўвазе ў першую чаргу кнігу чэшскага журналіста Томаша Ржэзача «Спіраль здрады Салжаніцына» і раздзел з кнігі гісторыка М. М. Якаўлева «ЦРУ супраць СССР».

# ту бі, ор нот ту бі...

**Ірына ХАЛІП,**

**Яўген КОКТЫШ** (фота)

**АПТЫМІСТЫЧНЫ ФОТАРЭПАРТАЖ З БДТМІ**





Парыпяць пёры, прастукаюць пячаткі, недзе ў казённых паперах усплыве фанабэрыстая лічба — акцёрская армія рэспублікі павялічылася яшчэ на трынаццаць душ...

О, магія лічбаў! Машына інерцыі «пракруціла» чарговы выпуск — і таленавітыя хлопцы і дзяўчаты, пакуты і надзеі педагогаў, зніклі ў безаблічных правінцыйных калектывах. Вечная і банальная тэатральная гісторыя...

Ці напаткае той самы лёс і гэты выпуск? Не зусім, скажам упэўнена, звычайны. Не толькі таму, што саракавы. Гэтыя трынаццаць — не проста выпуск. Гэта ўжо тэатр. Са сваім рэпертуарам. Са сваёй — пакуль нядоўгай — творчай гісторыяй. І нават перамогамі. Прымалі ўдзел у першым Усесаюзным фестывалі дыпломных спектакляў вучэбных тэатраў Масквы, Мінска, Яраслаўля, Смаленска «Авансцэна-88». Паказалі тры спектаклі: «Дзве стралы» паводле п'есы А. Валодзіна, «Дом вокнамі ў поле» і «Дваццаць хвілін з анёлам» А. Вампілава. І заваявалі там першае месца, падзяліўшы яго са школай-студыяй Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра.

Цяпер усе творчыя клопаты, трывогі ўсё роўна як адсунуліся, саступілі месца клопатам іншым і больш прыземленым. Курс-лаўрэат працуе яшчэ над двума дыпломнымі спектаклямі — «Вішнёвым садам» А. Чэхава і «Тутэйшыя» Янкі Купалы. Ці шмат прафесійных тэатраў у рэспубліцы пахваляцца сёння такім рэпертуарам! Варта пабываць на рэпетыцыях, каб убачыць і ўпэўніцца: гэта не шкаляры, не проста курс. Гэта — калектыў. Тэатр.

Але тэатр з інстытута выходзіць не ўпершыню. Так было ўжо неаднойчы. І з мінулым выпускам здарылася тая ж гісторыя. Было захапленне. Апладысменты. Гарачыя прамовы: талент, надзея, тэатр! А ў канцылярыі суха рыпелі пёры і стукалі пячаткі. Некага паспеў прытуліць Барыс Луцэнка, нехта знайшоў прытулак у Маладзёжным тэатры. А іншыя...

Дык што ж будзе з цяперашнім, саракавым!



З адной афіцыйнай справаздачы ў другую вандруе трафарэтнае наракание: як шмат было тэатраў у рэспубліцы да вайны і як мала іх сёння. Дык, можа, час перастаць жангліраваць гэтым фактам і проста знайсці новаму тэатру, які ўжо існуе, пляцоўку! Магчыма! Вядома!

І знайшлі, і прапанавалі: едзьце ў Гродна і там стварайце тэатр. Маладзёжны. Цудоўная ідэя!

Але не будзе такога тэатра. А будуць, хутчэй за ўсё, звычайныя, добра знаёмыя словы, што, маўляў, спалохаліся цяжкасцей, захацелі застацца ў сталіцы, а правінцыі таксама патрэбна мастацтва. Многія ж проста не змогуць паехаць: у некага муж працуе ў Мінску, у некага — жонка. Паспрабуй паехаць!

Дык, можа, прасцей адрачыся ад абрыдлае казённае гаварыльні! І калі нельга стварыць новы тэатр у Гродне, чаму не захаваць яго ў Мінску! Беларуская сталіца тэатрамі трагічна бедная!

Апошнім часам надзея ўсё ж узнікла. Пісьменнік Іван Чыгрынаў, старшыня Беларускага фонду культуры, на праглядзе спектакля «Дзве стралы» сказаў, што «будзе ставіць пытанне» аб стварэнні на аснове выпускнога курса новага тэатра пры Беларускім фондзе культуры. Вядома, ідэя гэтая яшчэ павінна прабіцца скрозь густую сетку афіцыйнага клопату аб маладых талентах, сплеценую з даўно знаёмых слоў: «Вядома, пастараемся, прыкладзём усе намаганні, будзем займацца пытаннем, не пакінем маладых, калі што ад нас залежыць — мы заўсёды калі ласка...»

Але не ўпусціць бы час. Пёры ж будуць парыпваць, а пячаткі пастукваць!

Калі добра ўдумацца, ідэя Івана Чыгрынава — выдатнае выйсце не толькі для трынаццаці маладых акцёраў, якім так хочацца працаваць разам, але і для рэспублікі, якой так не хапае тэатра з беларускім рэпертуарам, тэатра сапраўды нацыянальнага.

А пакуль — у цяперашніх дыпломнікаў творчыя пакуты і сумненні перамешваюцца празаічным — быць альбо не быць! Вось у чым пытанне...









Марцін ВОЛЬСКІ

# людзі-рыбы

АПАВЯДАННЕ

Тапеліцу звалі досыць празаічна — Сузі Уотарс. Ад парцье акіянарыума ў Маямі, дзе Сузі Уотарс працавала дзесяць гадоў назад, Мэф даведаўся, што яна павінна знаходзіцца разам з групаю Людзей-Рыб на адной з пакінутых фермаў пры дарозе на Эвэрглэйдс. У маямскім акіянарыуме міс Уотарс удзельнічала ў эфектных атракцыёнах з дэльфінамі. Пасля яе захапіў тады яшчэ папулярны рух неахіпі, што сягаў, як сцвяржалі яго прарокі, да каранёў хрысціянства, а пасля вырывання яго з каранямі, яшчэ глыбей.

Секта Людзей-Рыб абвяшчала непазбежнасць вяртання ў акіян. Штогод групы маладых людзей збіраліся ў розных зацішных мясцінах, аддаючыся медытацыям, адпраўляючы чорныя набажэнствы, упадаючы ў містычныя трансы, і ўсё гэта дзеля таго, каб дасягнуць у рэшце рэшт звышчалавечае здольнасці жыць пад вадою. Адзін з вернікаў, сведчанні якога неўзабаве апынуліся ў Федэральным Бюро Следстваў, сцвярджаў, што пасля таго, як чалавек дасягаў духовае дасканаласці, пагарды да марнага і нікчэмнага,— маёмасць была з большага перапісана на рахунак суполкі (а ім, у сваю чаргу, распараджалася святарыня),— прыходзіў нарэшце дзень Вялікага Хросту. Уся суполка са спевамі і танцамі накіроўвалася да ўзбярэжжа і арганізавана давала нырца.

Большасць нырцавала самахоць, але некаторым трэба было дапамагаць, асабліва ж упартым прывязвалі да ног цяжары. Сведкаў цырымоніі ніколі не было. Часам толькі нягоднік-акіян выкідваў на маляўнічыя берагі Фларыды альбо Мексіканскай затокі пару набрынялых целаў, пазнаць якія было немагчыма. Сем'і, як і раней, атрымлівалі ад вернікаў поўныя захаплення лісты і не здагадваліся, вядома, як праходзіў усеагульны Хрост. У гэтых лістах, прадыктаваных Сузі сваім аднаверцам, гаворка ішла пра далёкае падарожжа, у чым легкаверныя амерыканцы не бачылі нічога падазронага. Дарэчы, міс Уотарс і сапраўды не затрымлівалася на адным месцы. Звычайна яшчэ ў той самы дзень яна мяняла месца працы і прозвішча і зноў пачынала завабліваць ахвотнікаў вярнуцца ў глыбіні праакіяна. Гіпнатычныя здольнасці гарантавалі ёй доўгі і шчаслівы занятак гэтым рамяством. Разрэкламаваны ёю дэвіз «Жыццё выйшла з мора і ў моры знойдзе паратунак» не выклікаў падазрэння, а супольнае жыццё групы маладых людзей, якія прапагандавалі ўдасканаленне цела і душы, не мела пярэчання ў дэмакратычным грамадстве.

Рыфам, з якім сутыкнулася наша русалка, ды хіба рыфам — рыфікам, быў Джын Хантар. Малады газетчык,— спартыўны рэпарцёр адной невялікай пенсільванскай газеты, адвентыст,— ён з усёй адказнасцю ставіўся да сваіх абавязкаў, адным з якіх было апекаванне сястрою Рэкуэл. Іх бацькоў ужо даўно не было на свеце. Пакуль Рэкуэл была малая — слухалася цёткі ды дзялілася з братам сваімі сакрэтамі,— клопату было небагата. Аднак пазней, калі рэдакцыя пачала пасылаць Хантара на панамерыканскія спаборніцтвы, на чэмпіянаты свету і алімпіяды, паступленне Рэкуэл у элітарны каледж здалося найпрасцейшым вырашэннем усіх праблем. Джын не звярнуў увагі на тое, што, пачынаючы з другога года навучання, лісты пачалі прыходзіць не з універсітэта, а з каліфарнійскіх пляжаў. У іх часта гучаў матыў вады, рыб, фігуравалі знакі Вадаліва ды ўсё такое. Хантар занепакоіўся толькі тады, як лісты перасталі прыходзіць увогуле. У каледжы яму паведамілі, што міс Хантар не паказвалася з лістапада, а аднакурсніцы маглі дадаць толькі тое, што летась Рэкуэл багата часу прысвячала плаванню. Прыкрае ўражанне пакідаў той факт, што дзяўчына забрала ўсе грошы з асабістага рахунку, а пад

час кароткага наведвання роднага дома апаражніла куфэрак з сямейнымі каштоўнасцямі.

Склератычная, паўпаралізаваная цётка расказала наступнае. Рэкуэл з'явілася нечакана травеньскім днём, пасля абеду, пару гадзін пакруцілася ў доме, перадала прывітанне Джыну ды знікла. Яна зблажэла, пабляднела, стала нейкаю чужою. На пытанне пра поспехі ў навуцы яна адказала «усё як мае быць», а ў прыбіральні выдрапала знак рыбы. Ясная рэч, яна была ўжо паўналетняю дзяўчынай і мела права рабіць што хоча, але пасля таго, як мінула яшчэ паўгода, а Рэкуэл усё не азывалася, Хантар не вытрываў. Ён адшукаў яе лісты. Два апошнія былі з Сан-Рафаэля, прыморскага мястэчка на поўнач ад Сан-Францыска. У адным быў нават здымак. Рэкуэл усміхалася на фоне рэкламы піва. Яна была ў камбінезоне з серабрыстай тканіны, якая нагадвала рыбіну луску. За яе спіною можна было разгледзець нейкія будыніны.

Наступнага дня брат прыехаў у «Фрыско»*. Ён змарнаваў цэлы тыдзень, пакуль знайшоў на ўзбярэжжы Сан-Рафаэля месца, дзе быў зроблены здымак. Будыніны, што былі на здымку, аказаліся разбураным пансіянатам непадалёк ад мора. Абдрапаны шчыт памендамляў, што сядзіба прадаецца, але чалавек з бензакалонкі сцвярджаў, што яшчэ ніхто афіцыйна не цікавіўся наймам, дарэчы, пэўны час тут туліліся групы моладзі — пост-хіпі, прыхільнікі вызвалення індзейцаў ды нейкія нудысты ці вегетарыянцы — хто іх разбярэ...

Джын паказаў запраўшчыку фота Рэкуэл. Першы момант той не адмовіўся зірнуць на здымак, але тут жа страціў ахвоту размаўляць, з яго нічога немагчыма было выціснуць: ён спасылаўся на кепскую памяць, а таксама на мноства бачаных твараў. Вядома, ён ілгаў. Калі Рэкуэл знаходзілася ў пакінутым пансіянаце працяглы час, ён мусіў яе бачыць не раз.

Джын ўламіўся ў дом. «Уламіўся» ў нашым выпадку ў пераносным значэнні, ён проста ўвайшоў — дзверы былі адчыненыя. Відаць, сезон ужо скончыўся, бо ніводзін няпрошаны кватарант не туліўся ў вялізным двухпавярховіку, занядбаным і брудным. Хантар знайшоў у ім сляды бытавання размаітых жыхароў: бляшанкі з-пад піва і кока-колы, асмалкі марыхуаны, флаконы з-пад лекаў, газеты. Усе, аднак, досыць свежыя. У некаторых мясцінах гэтага закінутага дома Джын убачыў сляды свежай тынкоўкі. Хто, скажыце, мог тынкаваць чужую развалюху? Пад тынкоўкаю не было нічога цікавага. Тое, што напэўна было намалявана там раней, было здзёрта да цэглы. Толькі на гарышчы, у цёмным кутку, на адной з бэлек газетчык заўважыў знак рыбы.

Недалёка ад пансіяната было яшчэ колькі сядзібаў. Але іх жыхары не вызначаліся шматслоўнасцю. Праўда, адна бабулька пасля доўгіх дапытванняў прыгадала групу маладых людзей, якія жылі ў пансіянаце і займаліся рознымі гідкасцямі. Якімі менавіта, старая не сказала. Праўда, гэтыя хлопцы і дзяўчаты былі чыстыя, не кралі, надта любілі бегаць і купацца гальцом. Потым яны з'ехалі. Ужо паўгода, як з'ехалі.

Хантар пайшоў на пляж. Звычайны дзікі бераг, страшэнна засмечаны, брудны. Надпіс на шчыце засцерагаў ад купання. Зрэшты, і пара была непрыемная: дзьмуў сібер.

Дапамог Джыну былы аднакурснік, ён працаваў цяпер у адной з мясцовых газет, у аддзеле сенсацый. Калі яны разам высветлілі, што апошняя вестка ад Рэкуэл прыпадала на канец траўня, Лео дастаў уласную картатэку здарэнняў.

— Цікавая рэч,— бурчэў ён,— з другой паловы чэрвеня менавіта ў гэтай частцы затокі былі вылаўлены трупы больш як дзесятка юнакоў і дзяўчат, усе яны былі голыя. Чатырох ледзьве апазналі. Гэта былі пераважна дзеці з добрых сем'яў, што пакінулі бацькоў і бадзяліся па краіне ў пошуках прыгод.

— А астатнія?

* Сан-Францыска.

— У гэтых мясцінах штодня гіне без весткі па некалькі чалавек. Трупы былі ў стане моцнага разлажэння, іх не ўдалося ідэнтыфікаваць.

Назаўтра ў паліцэйскім архіве Хантару паказалі жменьку прадметаў, знойдзеных у тапельцаў. Залаты ланцужок са знакам Вадалія. Колца. Гадзіннік. Пярсцёнак... Гэты пярсцёнак ён пазнаў адразу! Сам купляў яго на шаснаццацігоддзе сястры.

Лео меркаваў, што ўначы купка моладзі, ужыўшы наркотыкі, падалася да мора купацца (вынік нам ужо вядомы), і не быў схільны бачыць у гэтым нейкія таямнічыя абставіны. У той жа дзень яны адшукалі ананімную магілу Рэкуэл. У паліцыі паказалі жудасны фатаздымак цела пасля двухтыднёвага знаходжання ў вадзе. Толькі прыгожыя рыжыя валасы засталіся тыя самыя...

Мінуў год. Хантар прыехаў у Сан-Антоніо назіраць за тэнісным турнірам і тут, выпадкова прачытаўшы рэпартаж пра рэлігійныя суполкі штата Тэхас, натрапіў на інфармацыю аб секце Людзей-Рыб. Распытаўшы аб падрабязнасцях у рэдакцыі газеты, ён даведаўся, што гаворка ідзе пра вельмі нешматлікую групу моладзі, якая дасканаліцца фізічна і псіхічна праз сталы кантакт з вадою.

— Гэта значна лепш за колішніх хіпі. Кіруе імі цудоўная святарыня міс Крафт. Здаецца, яна была чэмпіёнкай Луізіяны ў вольным стылі ў годзе пяцьдзесят восьмым,— інфармаваў Хантара калега са штотыднёвіка.

Усё было б добра, каб не спецыфічны спосаб малявання рыбкі на фірменным знаку. Дакладна такі, як у прыбіральні Рэкуэл, такі ж самы, што і ў пакінутым пансіянаце на беразе затокі Святога Францыска.

Недалёка ад мясціны з набожнай назваю Корпус Крысці *, побач з лагунаю (тысячы такіх аздабляюць гэтую частку Мексіканскае затокі) знаходзілася вялізная пакінутая ферма. Быў надвячорак, калі малады чалавек у абшарпаных джынсах ступіў на сцежку, упрыгожаную каляровымі ліхтарамі. Яго суправаджалі дзве дзяўчыны. На тэрасе, апусціўшы галаву ў поўную вады балею, стаяла на каленях голая жанчына, з якою час абышоўся нечувана лагодна, пакінуўшы ёй цела дзевятнаццацігадовае дзяўчыны. Побач некалькі маладых людзей, чыстых, пастрыжаных, таксама голых, гойдаліся ў адзіным рытме. З дынаміка плыў шум прыбою і ціхі шэпт ці то малітвы, ці то песні без мелодыі аб жыцці ў праакіяне, у вадзе, у бясконцасці, у вадзе, шчасці, вадзе...

Апрача ахоўніц, узброеных аўтаматамі, ніхто не звярнуў увагі на незнаёмца. Святарыня доўга, мо чвэрць гадзіны, не вымала галавы з вады. Нарэшце яна паднялася. У адрозненне ад маладога цела яе ўзрост можна было вызначыць па ненатуральна белых морхлых шчоках і дробных маршчаках вакол зяленых, як у змяі, вачэй.

— Хто ты? — спыталася яна.

— Я блукаю ў пошуках сэнсу.

— Хто цябе прыслаў?

— Лёс, нястомны гулец нашымі касцьмі.

— Ты любіш ваду?

— Вада — гэта пачатак і канец.

— Бач, ты знаёмы з маёй кнігай,— заўважыла міс Крафт.

— Я нашу яе з сабою.

Вернікі абудзіліся. Крыху ачмурэлыя, крыху сонныя. Пяшчотна абняўшыся, яны парамі ўваходзілі ў дом.

— Хочаш піць з маёй крыніцы? — запытала святарыня.

— Прагну акунуцца ў тваю крыніцу!

Ноч яны правялі разам. Джын ніколі не меў такой цудоўнай партнёркі; яна была ўвасабленнем шаленства — зверам, выпушчаным на волю. І ўсё ж ён ні на секунду не забыўся, што міс Крафт (або, як мы ўжо ведаем,— Сузі Уотарс) вінаватая ў смерці Рэкуэл.

Джын застаўся на ферме. Уцягнуўся ў рытм трэніровак, медытацый і забаў. Жыццё ішло лёгка, нібы адно вялікае свята. Здаровае, натуральнае харчаванне — суполка мела карову і трох коз,— простыя гульні і пачуццё бес-

* Цела Хрыстова (лацін.).

клапотнасці запаўнялі цёплыя сонечныя дні. Джын паддаўся гэтаму закалыхванню, праўда, не страціў пільнасці, але кожны дзень даводзіў, што ягоныя засцярогі беспадстаўныя.

Трэба сказаць, святарыня патрабавала слухмянасці. Яна забараняла пакідаць ферму паасобку, мела сваю ахову і, відаць, сваіх віжоў-даносчыкаў, але ў астатнім яна была таксама спагадлівая і сардэчная... Хантар ледзь не пакахаў яе. Ён таксама не пакідаў фермы, аднак меў партатыўную радыястанцыю; з яе дапамогаю Джын звязваўся са сваім сябрам Фрэнкам, калегам з аддзела водных відаў спорту, які пасяліўся непадалёк. Гэтую радыястанцыю Джын хаваў за домам, у струхлелым пні, і звычайна дабіраўся да яе пасля прыцемкаў.

Спачатку цяжка было трактаваць філасофію Людзей-Рыб сур'ёзна — Джын разумеў гэта як алегорыю. Але чым далей працягваўся дзіўны курс, тым усё больш адназначны станавіўся сэнс словаў.

— Праз ачышчэнне цела мы дасягнем дасканаласці,— казала святарыня,— а дасканаласць ляжыць на адлегласці выцягнутай рукі,— і яна дэманстравала. Магчыма, гэта былі толькі трукі, але яна сапраўды магла прабыць пад вадою гадзіну (Хантар і не здагадваўся, што трапіў да рускі), лунаць над зямлёю або працінаць цела наскрозь вязальным пруткам. Да таго ж яна любіла дрэвы і змеяў, а больш за ўсё — ваду.

«Калі свет загіне ў атамным пажары, то толькі ў моры мы знойдзем сховішча»,— гучаў яе вялікі дэвіз. Усё больш і больш маладых людзей пачынаюць верыць, што яны дасягнуць падобнай дасканаласці. Яны ахвотна адпісвалі суполцы сваю маёмасць, а з нядоўгіх наведванняў дадому прывозілі каштоўнасці ды грошы. Набліжалася купальская ноч, самая кароткая ноч года. Ноч Хросту, ноч выпрабавання. Хантар ведаў ужо шмат, аднак ён хацеў давесці справу да канца. Здабыць доказы. Аналізы ежы, пробы якой ён перадаваў Фрэнку, паказвалі наяўнасць штораз большых дозаў наркатычных сродкаў, дзеянне іх злучала ў сабе ўзбуджэнне з бязвольнасцю і незвычайную ўражлівасць з інтэлектуальным атупеннем.

Хрост мусіў адбыцца ў ноч на свята Яна (як адвентыст, Джын у святых не верыў, але ў секце Людзей-Рыб ён быў змушаны адмовіцца нават ад святкавання суботы). Раніцою перад Хростам здарылася наступнае. Сузі склікала суполку, імітуючы праз дынамік шум узбуджанага мора.

— Чыё гэта? — пыталася яна, размахваючы перадатчыкам.

Ніхто не азваўся. Прылюдная споведзь таксама не выявіла вінаватага. Джын бласлявіў набытую ў выніку настойлівых трэніровак сілу волі — нават русалка не распазнала ў ім здрадніка. Ён спадзяваўся, што Фрэнк, маючы ў руках столькі доказаў, пачне біць трывогу. Аднак ужо мінула паўдня, а нічога не адбывалася. У часе пасляпаўдзённых медытацый, калі святарыня зноў апусцілася да балеі, а астатнія пападалі ў здранцвенні, Хантар выбраўся з кола і па раней разведанай сцежцы пакінуў ферму. Да палаткі Фрэнка было два кіламетры. Але бегчы так далёка не спатрэбілася. Праз дзвесце метраў Джын натрапіў на голае цела, аблепленае тэхаскімі мурашамі. Фрэнк быў мёртвы ўжо некалькі гадзін. Джын проста страціў галаву. Ён памкнуўся быў уцякаць, але праз імгненне зразумеў, што бяжыць у бок фермы. Ён хацеў быў павярнуцца назад. Ды было позна. Каля яго вырасла Фараг, цыбатая ахоўніца з аўтаматам.

— Дзе ты бадзяешся ў час Вялікага Засяроджання? — буркнула яна, паказаўшы свае прыгожыя, але ад гэтага не менш драпежныя зубкі.

— Я хадзіў па патрэбе,— няўмела зманіў Джын.

Фараг загадала вярнуцца ў кола. Бадай, і яна была нечым выбіта з каляіны. Наколькі Хантар зразумеў, ахоўніцы толькі фармальна належалі да суполкі. Яны не ўдзельнічалі ў засяроджаннях, харчаваліся асобна — разам з Сузі, пазбягаючы такім чынам уздзеяння атупляльных наркотыкаў.

Да паўночы Хантар не мог нават і марыць пра тое, каб пакінуць ферму. Яму ледзь удалося імітаваць ужыванне ежы, якая мусіла ўтрымліваць узмоцненую дозу наркотыкаў. Недзе а дзесятай вечара ўсе паснулі. Усе, апрача Сузі і ахоўніц. Джын рабіў выгляд, што спіць, а сам назіраў з-пад прыкрытых павек, як ахоўніцы паспешліва здымаюць ліхтары, пакуюць увесь свой скарб і асабістыя рэчы вернікаў у аўтамашыну, уважліва абшукваюць дом. Толькі пільная Фараг стаяла нерухома на ганку і назірала за соннымі. Усё гэта нагадвала трызненне хворага.

Сігналам пабудкі быў пошум хваляў і запісаныя на магнітафон крыкі чаек. Усе прахапіліся надта ўзбуджаныя.

— Ужо пара,— гучала малітва.

«Час Вялікага Хросту,
акунемся ў праваду,
няхай нас акружыць крыштальным люстэркам,
вернемся да прыроды,
будзьма ў вадзе,
будзьма вадою».

А потым пачаўся вар'яцкі бег на злом галавы. На бягу ўсе скідалі з сябе астатняе адзенне. Пазней яго збіралі ахоўніцы. Лягчэйшыя за пёрка, бы касманаўты на Месяцы, ляцелі яны, робячы дзіўныя скачкі, да пляжа.

Ужо на беразе Джын упаў на бок і схаваўся ў хмызняку. Пад час гону ён трымаўся ў сярэдзіне натоўпу, і ніводная з ахоўніц не заўважыла яго знікнення.

Тым часам моладзь прыбегла на пляж. У цемры хвалявалася мора. Людзі ў трансе скакалі ў ваду. Воклічы радасці танулі ў шуме прыбою. Раптам на скале паказалася Сузі. Трэба адзначыць, што яна выбрала месца надзвычай прыдатнае для Вялікага Хросту: затока была нябачная як з адкрытага мора, гэтак і з сушы. У руцэ святарыня трымала магутны рэфлектар і скіроўвала яго на людзей унізе.

Некаторыя з вернікаў ужо крыху ацверазелі — яны спрабавалі плысці і клікаць на дапамогу. Двое караскаліся на скалу, але там ужо чакалі ахоўніцы, узброеныя доўгімі жардзінамі. Некалькі плыўцоў лямантавалі ў роспачы, калі ім чаплялі да ног жалезныя цяжары. А потым адбылося штосьці такое, чаго Хантар так і не змог зразумець. Сузі дала нырца. Джын мог бы пакляўся, што цяпер замест ног у яе быў хвост, пакрыты луской. Скачучы з аднаго вала на другі, яна імчалася насуперак хвалям.

Неспадзявана яна павярнулася. Узняла руку і нема закрычала. І тут адбылося нешта неверагоднае. Ахоўніцы пачалі жардзіны, пачалі крычаць ды махаць рукамі. Гэта быў крык страху, роспачы, болю. Крык чалавека, якога ашукалі і які не можа зразумець, чаму. Хантару ўсё гэта здавалася сном. Дзяўчаты-ахоўніцы, бегаючы па пляжы, пачалі курчыцца, іхнія галасы рабіліся ўсё больш віскліва, целы цямнелі. І раптам яны пачалі адрывацца ад пяску. Іхнія рукі пакрыліся пер'ем, целы змізарнелі, а воклічы сталі звычайнымі крыкамі чаек. Яшчэ імгненне — і ўсе яны, уся чарада ўзнялася над хвалямі, што нядаўна паглынулі вернікаў.

Джын уцёк.

У прыдарожным матэлі ён запісаў свае сведчанні на дыктафон і адаслаў стужку ў Федэральнае Бюро Следстваў. Чакаючы трансконтынентальнага аўтобуса, ён пайшоў трохі адпачыць. Яму прапанавалі ўтульны пакой на трэцім паверсе. Джын папрасіў, каб яго пабудзілі а палове на сёмую. У прызначаны час адміністратарка патэлефанавала ў нумар. Ніхто не азваўся. Пакаёўка сказала, што ключ устаўлены ў замок з другога боку. Выламалі дзверы.

Рэдактар Хантар ляжаў адзеты, у чаравіках на дне купальні, поўнай вады. Смерць наступіла ў выніку ўтаплення. Ніякіх слядоў гвалту знойдзена не было. Адно нейкі дзядуля, які жыў у нумары насупраць, сцвярджаў, што недзе каля васемнаццатай гадзіны ён бачыў, як з акна вылецела чарада велізарных чаек.

Пераклаў з польскай Зміцер САЎКА.

# бяздомныя

Святлана БАРТОХАВА

**«Усе шчаслівыя сем'і падобныя адна на адну, кожная нешчаслівая сям'я нешчаслівая па-свойму...»**

Няммогія артыкулы пра сямейнае жыццё абыходзяцца без гэтае цытаты паводле Льва Талстога. Ад частага выкарыстання яна ператварылася ў аксіёму, і нікому не прыходзіла ў галаву сумнявацца ў тым, што класік сапраўды мае рацыю. Я гэтаксама не асмелілася б пасягнуць на ягоны аўтарытэт, калі б само жыццё не ўнесла папраўкі.

Пісьменнік Барыс Васільеў аднойчы сказаў, што мы адзінае грамадства ў свеце, дзе няма сям'і ў яе класічным значэнні. Усеагульная казарменнасць выхавання робіць людзей агрэсіўнымі ўсюды і ва ўсім, пазбаўляе нармальных чалавечых праяўленняў нават у адносінах да самых блізкіх. Сумна? Не, страшна. Агрэсіўнасць нікалі яшчэ не была адметнай рысаю тварэння. Мы развучыліся ствараць, дзесяцігоддзямі набываючы звычкі латання дзірак і замазвання трэшчын, затое ў справах разбурэння — на жаль! — дасягнулі надзвычайнага поспеху, у тым ліку і ў развальванні сямейных асноў...

«...кожная нешчаслівая сям'я нешчаслівая па-свойму». Мабыць, так яно і было ў час Талстога, паверым ягонаму слову. Няшчасці ж сучасных сем'яў часцей за ўсё падобныя. Настолькі падобныя, што іх можна падзяліць на асобныя катэгорыі па тыповасці недабрабыту.

П'яніца-муж, які зносіць з дому апошнюю капейку і не бачыць свету ад бясконцых п'янак... Знаёмая сітуацыя, ці не так? І ці намнога адрозніваюцца паміж сабою гэтыя «ячэйкі грамадства»? Хіба што дробязямі...

А так званыя «няпоўныя сем'і» з ужо хранічнай праблемаю «цяжкіх дзяцей»? Іх, на жаль, не адна-дзве, іх — многія тысячы з вельмі падобнымі бедамі.

Але тэма майго допісу — іншая катэгорыя «падабенства» ў няшчасці: маладыя сем'і, якія не маюць свайго жылля. Падкрэсліваю: менавіта маладыя сем'і, створаныя каханнем і згодаю.

Скажыце, чытач, ці даводзілася Вам калі-небудзь быць бяздомным? Я не маю на ўвазе часовыя цяжкасці ў чужым горадзе, калі няма магчымасці ўладкавацца на начлег у гасцініцу. Ці былі Вы бяздомным, кажучы канцылярскаю моваю, у тым населеным пункце, дзе прапісаны і працуеце? Ці выпадала Вам, напрыклад, бадзяцца пад асветленымі вокнамі шматпавярховых будынкаў і горка зайздросціць сваім суайчыннікам, якія маюць не толькі асабістае акно і стол над галавою, але і крэсла, ложак, ванну? Ці даводзілася марыць, нібыта аб чымсьці надзвычайным, аб простым ключы ад паштовай скрыні — АСАБІСТАЙ ПАШТОВАЙ СКРЫНІ?.. Калі не — лічыце сябе шчаслівым, бо Вы не адчувалі самай найбольшай знявагі.

Пра знявагу гаварылі ўсе, з кім я гутарыла на тэму, якая мяне цікавіла. З чаго б ні пачыналася нашая размова, яна абавязкова закранала і гэта.

Вольга К. разышлася з мужам праз паўтара года сумеснага жыцця. Аднак, слова «сумеснага» сюды не падыходзіць. Традыцыйна мы ўжываем яго, калі гаворка ідзе пра сям'ю, вось і я агаварылася... Сям'я ўтварылася, але сумеснага жыцця не было. Вольга здымала пакойчык разам з сяброўкаю, яе муж Мікалай, студэнт-завочнік, жыў у інтэрнаце. Даведаўшыся аб замужжы кватаранткі, гаспадыня абвясціла: «Ніякіх мужчын у доме!» Намаганні зняць асобны пакой былі марныя — якраз выйшаў закон пра непрацоўныя здабыткі, і маладажонам усюды адмаўлялі, бо браць з іх за кватэру «па таксе» баяліся, а цярпець чужых людзей за сімвалічную плату ніхто, вядома, не хацеў. Так і жылі ў розных канцах горада. У інтэрнат да мужа Вольгу пускалі адпаведна рэжыму. У пазначаны час у дзверы стукалася пільная вахцёрка, патрабавала «ачысціць памяшканне», і ніякія ўгаворы не дапамагалі. Ехаць «дадому» прыходзілася праз увесь горад, часта вярталася апоўначы. Гаспадыня бурчэла і скардзілася на вымушанае бяссонне, пагражала «спыніць гэты непарадак». Часам, прайшоўшы міма вахцёркі на вуліцу, Вольга цераз балкон забіралася назад да мужа — балазе ягоны пакой быў на першым паверсе. Некалькі разоў яе «вылоўлівалі», шумна выганялі з інтэрната. Дагэтуль жыве ў ёй тагачаснае пачуццё зацкаванасці і зняважанасці. Адносіны з Мікалаем сапсаваліся, і нядзіўна: пастаянная нервознасць, няпэўнасць, страх перад усім, узаемныя заслужаныя і незаслужаныя папрокі... У выніку — скасаванне шлюбу. А яны ж кахалі адно аднаго, марылі пра будучыню...

У Таццяны М. падобны лёс. Яна глядзіць на мяне сумнымі, сухімі вачыма («усе слёзы выплакала!»), і ад гэтага позірка мне становіцца ніякавата, нібыта ёсць і мая віна ў тым, што давялося ёй перажыць.

— Мы прывыклі, што бяздомны — гэта не з нашага жыцця. Успомніце фотаздымкі: няшчасныя людзі, якія спяць на паркавых лаўчаках ці каналізацыйных кратах. А побач з фотаздымкамі тэкст, што кляймуе «воўчыя законы загніваючага капіталізму»... Хто з нас бачыў фотаздымкі савецкіх бяздомных у савецкай прэсе? Не тых, што страцілі прытулак у выніку стыхійнага бедства, а каму проста няма дзе жыць? Колькі ні напружваю памяць, не магу ўспомніць такія публікацыі. Можа, яны і былі, але наўрад ці іх суправаджалі надпісы пра тыповасць таго, што адлюстравана.

Таццяна замаўкае, гледзячы кудысьці ўбок. Я не паспешваю яе — вельмі ўжо няпростая ў нас размова.

— Права на жыллё запісана ў савецкай Канстытуцыі,— працягвае мая суразмоўніца.— Разумееце? У кожнага ёсць законнае права мець свой куток. Пытанне: каго вінаваціць у тым, што не ва ўсіх ёсць гэты куток? Мабыць, атрымалася б унушальная лічба, калі падлічыць, колькі бяздомных у адным толькі Мінску...

Таццяна і Максім ажаніліся на пятым курсе, пасля вучобы атрымалі накіраванне на завод. З жыллём на рабоце не дапамаглі — чарга і так бясконцая, перспектывы аніякай. Яны знялі пакойчык за непамерную плату і з абавязкам не заводзіць дзяцей. Спачатку ўсё нібыта ладзілася: абое маладыя, закаханыя адно ў аднаго, непазбежныя матэрыяльныя цяжкасці перажывалі весела, не завастраючы на іх увагі. Быў будан (няхай сабе і не свой!), а ў ім рай — зусім як у прымаўцы... Аднойчы гаспадыня ўбачыла, як Таццяна, збялеўшы, паўшла ў ванную і доўга адтуль не выходзіла. «Ты што, цяжарная?» — запыталася яна тонам, які не абяцаў нічога добрага. Таццяна, перамагаючы слабасць, запэўніла, што напярэдадні атруцілася кансервамі, вось і нудзіць. Прыступы, аднак, паўтараліся — і гаспадыня папрасіла шукаць кватэру, «пакуль справа не зайшла занадта далёка». На двары стаяў снежань... Максім з ног збіўся ў пошуках жылля. Даведаўшыся пра цяжарную жонку, яму ўсюды адмаўлялі. І Таццяна адважылася на аборт, хаця тэрміны былі крытычныя і ўрачы папярэджвалі аб магчымай бясплоднасці. Муж і жонка цяжка перажывалі тое, што адбылося, абое сталі раздражнёныя, падоўгу напружана маўчалі і ўзрываліся з-за ўсялякай дробязі. Мір у будане трэснуў. Частыя сваркі кватарантаў выводзілі з раўнавагі гаспадыню, урэшце яна паказала на дзверы... Яны разводзіліся, поўныя ўзаемнай нянавісці. Максім пайшоў жыць у інтэрнат, а Таццяна знайшла прытулак у сяброўкі...

Ніна Н. таксама выйшла замуж кахаючы. Дзень вяселля быў самым шчаслівым днём у яе жыцці. Свякроў і думаць не хацела аб тым, каб разлучыцца з горача любімым адзіным сынам, і маладыя занялі ў яе трохпакаёвай кватэры самы лепшы, асобны пакой. Нелады пачаліся адразу ж: мужава маці зрабіла Ніне заўвагу з тае нагоды, што нявестка не паставіла на звыклае месца вымытую каструлю. Затым папракнула за дрэнна выкручаную бялізну... І пайшло-паехала. Што б ні зрабіла маладая жонка, за ёю пільна сачыла раўнівае вока свякрухі. Першы выбух адбыўся пасля таго, як Косця пахваліў Ніну за гатаванне, ды яшчэ сказаў, што ніколі ў жыцці не еў нічога смачнейшага. Свякроў разрыдалася: «Ну вядома, маці цябе дрэнна карміла! Я табе жыццё прысвяціла, адна гадавала, без бацькі, а ты!..» Далей — болей: і негаспадарлівая Ніна, і мужа дрэнна даглядае, і яе, маці, не паважае... Ніна баялася ісці дадому пасля работы. Каб адцягнуць час, падоўгу бадзялася па горадзе, а калі адчыняла дзверы кватэры, на яе абрушваліся гнеўныя папрокі: «У цябе што, сям'і няма? Дзе швэндалася?» Косця спрабаваў заступіцца — маці ў слёзы. Аднаго разу Ніна асцярожна дала зразумець мужу, што лепей жыць на кватэры, калі адносіны так абвастрыліся. «Значыць, табе ўжо маці непатрэбная, жонка даражэй за маці?! — крычала свякроў, даведаўшыся аб рашэнні нявесткі.— Выбірай: я ці яна!» Ніна склала свае рэчы ў дарожную сумку і пайшла куды вочы глядзяць. Незнаёмая жанчына ледзь адцягнула яе ад берага Свіслачы... Ноч яна правяла на вакзале, а потым тры месяцы начавала на рабоце, задобрываючы падарункамі прыбіральшчыцу і вахцёраў, каб не выганялі на вуліцу... І яшчэ на адну сям'ю стала меней.

— Ніна, у чым усё-такі, па-вашаму, галоўная прычына разрыву? — пытаюся я.

— У тым, што ў нас не было свайго дома.

— Вы не згодны з прымаўкай «з мілым рай і ў будане»?

— Такі рай не можа працягвацца доўга, калі акрамя будана нічога няма. Калі б у нас з Косцем было асобнае жыллё, усё склалася б па-іншаму. Мы ж кахалі адно аднаго...

Я расказала толькі тры сумныя гісторыі пра каханне, якое не адбылося, і пра разбітыя сем'і. Хто ўпэўнены ў нетыповасці гэтых гісторый, няхай кіне ў мяне камень...

А тым, чыя душа пакуль што не зачарсцвела і здольная суперажываць чужому гору, прапаную: давайце падумаем разам, што можна зрабіць, каб не здаралася з людзьмі такое. Дзе выйсце?



Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА (Магілёў)



праблема росту

# што ў партфелі?

Прайшло амаль паўгода, як у нас у рэспубліцы створаны першы ў краіне саюз фізкультурна-спартыўных кааператываў. Падзея выклікала рэзананс, на які, дальбог, арганізатары не разлічвалі. Але давайце па парадку, з самага пачатку.

— А з чаго ўсё, уласна, пачалося? — спытаўся я ў Леаніда Кучко, рабочага кааператыву.

— З ідэі. Ідэя кааперацыі кааператываў неяк раптам стала лунаць у паветры, і якая канкрэтная разумная галава і з якога пальца высмактала — цяпер і не згадаць. Дый ці такі ўжо важны факт дакладнага аўтарства?

Навошта кожнаму, фігуральна кажучы, вырабляць свой уласны веласіпед, калі я зраблю шыны, ён — колы, яны — раму і сядло. Ці трэба, ці выгадна ўсім «пілавацьַ» жалеза ў сутарэннях для трэнажораў, калі можна наладзіць сучасную тэхналагічную вытворчасць? І ці не час ужо выходзіць з тых самых сутарэнняў, даўшы ўсім жадаючым комплекс аздараўленчых і спартыўных паслуг з адпаведным камфортам і сервісам?

Лозунг «мы — першыя!», асабліва напісаны белай нітрафарбаю на кумачы, безумоўна, вельмі прыгожы. Але калі і фарба і матэрыял — за ўласныя наяўныя, нечакана прыхודзіць жаданне абысціся без лішніх воклічаў. Міжволі пачынаеш задумвацца над больш празаічнымі, а дакладней, практычнымі пытаннямі. Канкрэтна: як ідэю ўвасобіць і матэрыялізаваць? Тут, як няцяжка здагадацца, праблем узнікла тысяча. Таму прыходзілася спачатку дзейнічаць асцярожна, прабірацца ўперад на дыбачках, усё роўна як у цёмным пад'ездзе спускаюцца ўніз па крутой лесвіцы. Цісну ўцяжар адказнасці, магчымай няўдачы — прызнаюся шчыра. А зрэшты, будзь што будзе! Хіба кааператыўны рух не рызыкоўнае пачынанне? Гэтае рытарычна-філасофскае пытанне трохі супакойвала.

«Вы проста аддаяце даніну модзе»,— казалі нам многія. «Мы проста хочам выйсці на якасна новы узровень прапановы фізкультурна-спартыўных паслуг»,— адказвалі мы. І верылі ў свае словы. І сумняваліся. Новая справа!

«Так, новая справа, і справа добрая,— сказалі кіраўнікі Дзяржкамспорту рэспублікі.— Можаце разлічваць на нашу падтрымку». І адразу ж калегія Спорткамітэту БССР некалькі пасяджэнняў прысвяціла факту магчымага стварэння саюза кааператараў (ацаніце прадбачлівасць!).

Колькасць, як вядома, рана ці позна пераходзіць у якасць. Але якую. Самі ў сябе пыталіся, раіліся. Злiццё кааператываў? Не, не тое. Механічная групоўка? Таксама не тое. Дык, можа, аб'яднанне з гарантаванай аўтаноміяй? У адказ — лес рук. «Алe навошта? — чуваць хор абураных, скептыкаў.— Няўжо так як ёсць — дрэнна? Стрыжнявое, па сутнасці, пытанне. Адказваем: хоць бы дзеля таго, каб улічваць попыт на тавары і паслугі, ведаць забяспечанасць базамі, кадрамі, рэсурсамі, умела кіраваць усім гэтым. Кажучы моваю дзелавых людзей — валодаць кан'юнктураю рынку. Ліха гучыць, ці не так? Самі іншы раз бянтэжыліся: «кан'юнктура», «рынак», «попыт»... Аднак не багі гаршкі лепяць, усё адпавядае рэальнасці, на цвёрдым грунце стаім.

А то як атрымлівалася? Кааператывы ўзнялі ветразі, выйшлі з гавані — і поўны наперад, не ведаючы плыняў і ружы вятроў, а бацькі — спорткамітэты — на далёкім беразе. Прычым, у камандах маглі апынуцца людзі з розным «багажом» за спінаю — прайдзісветы і прылiпалы не дадалі б нам славы і гонару. Мы думалі і пра гэта...

Згадваю, як высылалі запрашэнні кааператывам, такі ветлівы і дыпламатычны заклік, словы, якія адначасна абяцалі і многае, і нічога: маўляў, прыязджайце, разбярэцеся на месцы. Сабраліся на два дні, далей ад афіцыйных кабінетаў — у алімпійскім спарткомплексе «Стайкі». Неверагодна, але адгукнуліся кожныя дзевяць з тых дзесяці, каму паслалі лісты. Ці значыла гэта, што нас зразумелі ўсе, зацікавіліся? Кааператары — народ цёрты, яны хацелі самі ўсё памацаць, паглядзець, прыкінуць. Ехалі на «разведку» — пагаварыць, абмеркаваць свае праблемы, знайсці дзелавых партнёраў. Але ў выніку на такой пазіцыі засталася меншасць. Большасць, сказаўшы «А», сказала і «Б».

Два дні ішлі бурныя дэбаты вакол прапанаванага статута. Бліскучыя гучалі маналогі, з'едлівыя рэплікі з месцаў, а ўжо жэстам і мімiцы маглі пазайздросціць акцёры драмтэатра. Кааператывы паступова раздзяліліся на «багатых» і «бедных». Хоць дзяленне гэтае досыць умоўнае. Шчыра кажучы, аргкамітэту прыйшлося лавіраваць сярод розных пунктаў погляду, як у фіёрдзе са шматлікімі водмелямі. «А ці не возьмуць нас у свае рукі вытворчыя кааператывы? А ці не будзе саюз проста выкачваць з нас грошы на ўтрыманне бюракратычнага апарату?» «А як будзе існаваць праўленне, яго рабочы орган?» «А ці зможа аб'яднанне абараніць нас пры канфліктах?»

Пытанні білі ў кропку, ім не было канца. Канчатковы варыянт статута абмяркоўваўся некалькі гадзін і ў выніку быў абнародаваны... шэптам. Не вытрымалі галасавыя звязкі. Які ж ён, чыставы варыянт?

Па-першае, ідэя саюза. Коратка яна фармулюецца так. Кааператывам патрэбна прававая абарона, юрыдычная кампетэнтнасць, поўная інфармаванасць і ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Усё гэта забяспечвае «цэнтр». Па-другое, ствараецца кааператыўны банк. Ён будзе крэдытаваць кандыдатаў на дапамогу не па меры паступленняў «зверху», а па меры патрэбы «знізу» — здаецца, тут нічога тлумачыць не трэба. Па-трэцяе, стратэгія: саюз заклапочаны не аднадзённымі выгадамі («Мы не шаш-лыч-ні-кі!» — самы папулярны вокліч з месца), а арганізацыя, якая будзе развіваць кааперацыю з размахам, сур'ёзна і надоўга. Па-чацвёртае, па-пятае, па-шостае... Трэба ведаць нарматыўна-прававыя дакументы, фінансавыя інструкцыі, інфармацыйныя, рэкламныя, кансультацыйныя, пасрэдніцкія паслугі — зноў клопат «цэнтра». Хутчэй могуць вырашацца многія пытанні знешнеэканамічнай дзейнасці (такія намеры — ура! — ужо ёсць), развіцця сацыяльнай сферы, напрыклад, будаўніцтва свайго санаторыя. Вялікае значэнне мае і адзіная палітыка цэн. І многае, многае іншае... Аргументаў «за» у 25 разоў больш, чым аргументаў «супраць» — кааператары людзі дакладныя, падлічылі і гэта.

Адно з галоўных «за» — атрыманне дзяржаўнага заказу на паслугі, тавары, будаўніцтва — з адпаведным матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем. І з гарантаванымі рынкамі збыту. Інакш кажучы, кааператары атрымліваюць: «партфель заказаў» з ідэямі, лімітамі і фондамі. Фантастыка? Не, рэальная кааперацыя! Гэта зразумелі прадстаўнікі адразу 30 кааператываў, якія стварылі саюз.

Што зроблена за гэты невялікі час? Старшынёю праўлення выбраны В. Гетманец. Назначаны выканаўчы дырэктар, прыняты на працу некалькі спецыялістаў. Пасля доўгай бюракратычнай валтузні (вядома, не з боку кааператываў) адкрыты разліковы рахунак. Унесены першыя ўступныя ўзносы ў суме 300 рублёў. Вось-вось з'явіцца свая пячатка. Дзяржкамспорт БССР выдаў спецыяльны загад аб стварэнні саюза, дзе дэкларуецца прыярытэтная дапамога з боку спорткамітэтаў менавіта яго членам. Дарэчы, усе яны будуць карыстацца аднолькавымі правамі без агаворак і выключэнняў. У канцэпцыі — назавём гэта так — развіцця сферы платных паслуг Дзяржкамспортам рэспублікі кааператывы — члены саюза — маюць сваё дакладнае месца. Нарэшце, паміж Дзяржкамспортам і саюзам заключана пагадненне аб супрацоўніцтве на бліжэйшыя два гады. Яно — узаемавыгаднае. І шматварыянтнае, а таму зручнае. Хоць бы тым, што ў кожным канкрэтным выпадку афармляецца мікрапагадненне, якое дзейнічае самастойна. Пры ўсім гэтым, падкрэсліваю яшчэ раз, любы член саюза захоўвае сваю эканамічную свабоду, аўтаномію і юрыдычную незалежнасць.

Цяпер ідзе актыўнае фарміраванне «партфеля заказаў», у прыватнасці, на правядзенне рамонтна-будаўнічых і мантажных работ фізкультурна-аздараўленчых комплексаў з металічных і драўляных клееных канструкцый тыпу «Кіславодск» і «Канск». Іх абсталяванне, будучая эксплуатацыя модуляў. Саюзу выдадзены заказ на выраб іншых дэфіцытных тавараў, прычым самага рознага прызначэння. Напрыклад, дзіцячых ванначак са шклапластыку. Не здзіўляйцеся...

**Аляксандр БАРЫСЕВІЧ**
**уласны карэспандэнт «Советского спорта» (спецыяльна для «Крыніцы»)**

Мал. Сяргея СТЭЛЬМАШОНКА



# і няма іншых вінаватых...

**Наша мэта: стварыць лепшы ў свеце тэатр для дзяцей і юнацтва.**

**Уяўляю, чытач, тваю саркастычную ўсмешку. Што ж, ты маеш на яе права. Але такое ж права на сваю мару маем і мы. «Ох ужо гэтыя мне летуценнікі! Колькі гадоў — а ўсё адно і тое ж...» — зноў усміхнешся ты. І, напэўна, зноў будзеш мець рацыю. А калі захочаш, ці, як кажуць у народзе, калі наступіць табе на мазоль, дык пацвердзіш сваё саркастычнае назвер'е такімі фактамі, якія будуць далёка не на нашу карысць. І толькі ў выключным выпадку (возьмем апошнія гадоў пятнаццаць), з павагай — як пра сапраўднае мастацтва, будзеш гаварыць пра некалькі нашых спектакляў: два ці тры, не болей...**

**Так, на жаль, арыгіналамі мы не аказаліся. На жаль, мы, як усе, дружна маршыравалі... рапартавалі... рабілі справаздачы... А калі часам і пыталіся: «Чаму! Навошта! Для каго!» — дык гэта толькі часам, ды і то вельмі ціха. Між іншым, як усе!**

**І вось сёння рабіць справаздачу нам ужо няма каму. Доўгія гады практыкі «ўра!», «няхай жыве...», «будоўляў веку» прывялі да таго, што галоўную справаздачу, якую мы павінны трымаць перад нашымі гледачамі, гледачамі юнымі, чые душы падобны да першага белага снегу (даруйце за банальнае параўнанне), мы забрудзілі, не без дапамогі нашых, кажучы па-руску, «идейных отцов», слядамі хлусні, ханжаства, несправядлівасці. Яны, гэтыя гледачы, у нашай справаздачы патрэбы ўжо не маюць. Храм-тэатр яны замянілі храмам-вуліцай... храмам-падваротняй... храмам-сутарэннем... (І хай даруюць мне тыя, хто ўсё-ткі яшчэ верыць!..) Сёння «колькі башляеш!» гучыць замест «добры дзень»; на пытанне «што такое годнасць!» — здзіўленае паціскванне плячыма, словы лаянкі — звычайная з'ява паміж хлопцамі і дзяўчынкамі...**

**Колькі разоў даводзілася чуць:«А, не хочацца думаць...» Не хочацца думаць?! Гэта ж усё адно, што не дыхаць. Але калі не дыхаць, а жыць, значыць, для гэтага трэба зрабіцца нейкім... нават не ведаю кім. Мутантам.**

**Усё гэта я б вызначыў, як душэўны СНІД, калі ў людзях траціцца імунітэт да подласці, хлусні, баязлівасці, здрады... І гэты СНІД прышчапляўся дзесяцігоддзямі. На жаль, далёка не лепшы ўдзел у гэтым прымалі і мы — тэатр...**

**Ледзь нарадзіўшыся, чалавек пачынае пазнаваць свет: слыхам, зрокам. Пазней — праз слова. І ў гэтым бясконцым пазнанні галоўным звяном з'яўляецца таксама чала-**



век: бацька, маці, шмат іншых людзей. І калі на імгненне ўявіць, што яны, замест таго, каб вучыць дзіця хадзіць на нагах, раптам паставілі яго на рукі ці пакінулі поўзаць на карачках, то, як паказвае практыка (успомніце выпадкі з дзецьмі, якія трапілі ў воўчыя зграі), яны прымуць гэта як належнае, прыстасаваўшыся да такога існавання...

Нешта падобнае рабілі і робім і мы з нашым гледачом...

І, вядома, як пратэст гэтаму гучыць пытанне: але чаму! Чаму! Чаму!! Няўжо мы самі сабе ворагі! Ці, можа, усё гэта адбывалася ад нашага глупства! Няўмельства! Ці мы проста бяздарныя лянівыя людзі!!

Не ведаю. Магчыма. Меркаваць іншым. І ўсё ж у абарону нас, у абарону часу, у якім мы працавалі і спадзяваліся... хачу напомніць тыя некалькі назваў нашых спектакляў: «З любімымі не расставайцеся», «Бэмбі».

Каб ісці наперад, не паўтараючы памылак мінулага, трэба азірнуцца назад. Час перамен, які сёння прыйшоў да нас, настойліва таго патрабуе.

Парослае пустазеллем поле можна выправіць за год, пераараўшы яго і кінуўшы ў зямлю зерне пшаніцы, ячменю... І поле зашуміць іх каласамі. Але наўрад ці падобнае можа адбыцца з полем душы чалавечай, на якім пустазелле ўвабралася ў сілу. Дзесяцігоддзі патрэбны, каб зашумелі каласы Веры, Дабра, Міласэрнасці...

Сама назва «тэатр юнага гледача» гаворыць аб тым, што гэта тэатр юных — каму сапраўды павінен належаць увесь свет! — тэатр, у якім яны павінны бачыць разумнага, сумленнага субяседніка, таварыша. І як факт: не бачаць дый, бадай, не хочуць. І, я думаю, тут уступае ў сілу наступная і, пэўна, асноўная на сённяшні дзень заканамернасць: аднойчы схлусіўшы...

Так, мы, акцёры,— таксама людзі. Мы дыхаем паветрам і ямо хлеб, радуемся ў радасці і сумуем у смутку. І на нас, як на ўсіх астатніх, доўгія гады нацягвалі ўтаймавальныя кашулі пакорнасці. І нацягвалі, бадай, больш старанна, чым на іншых. Таму што, памятаеце, «спачатку было слова...» А вось яно, гэтае слова, і ёсць аснова нашай прафесіі. І вось яму, гэтаму слову, як птушцы з падрэзанамі крыламі, не ўзляцець было... І падалі цьмяныя шэрыя словы ў юныя душы. І давалі ў іх гэткія ж цьмяныя шэрыя ўсходы. І вось ужо, стаўшы дарослымі, маладыя людзі здаюць у дом састарэлых сваю нямоглую старэнькую маці, таму што месца многа займае, ды і пах ад яе не вельмі прыемны, раскопваюць магілы, здабываючы з іх сабе на «жыццё», у васемнаццаць гадоў — хранічныя алкаголікі, наркаманы...

І ўсё гэта наш глядач, наш некалі юны...

Ды і мінулагодняга трыццатага кастрычніка, калі я глядзеў у твары маладых людзей у міліцэйскіх шынялях (таксама ўчарашніх нашых гледачоў) ля Маскоўскіх могілак, ды і не толькі глядзеў, а на сабе адчуваў іх дзейства, я яшчэ раз упэўніўся, якімі каласамі ўсё яшчэ шуміць поле нашага быцця...

А час не спыніць! Кожны дзень ён патрабуе новых сіл, новай энергіі, новага розуму...

Але як!.. Дзе!.. Адкуль!..

І хто як можа!.. І хто дзе можа!.. І хто адкуль можа!..

А магчы абавязкова трэба, абавязкова! Бо інакш і падумаць страшна — калі, вядома, думаць рэальна, а не трызніць і далей,— што можа стацца...

Калі парушаецца ў жывым арганізме хаця б адзін біялагічны працэс, то адбываецца яго паступовы (калі своечасова не спыніць) распад.

Тое ж і з духоўным пачаткам...

Вось і яшчэ адна функцыя тэатра: лячыць — сэрцы, душы!

Лячыце, гавораць сёння, лячыце і не мяліце языком дарэмна. Рабіце ўсё, што лічыце правільным і патрэбным. Ну, што ж вы!!

А і сапраўды, ну, што ж мы!! Колькі было — дайце! Колькі было — хочам! Як коні, што даўно не былі ў рабоце, грызлі цуглі запораў, білі капытамі...

І вось, нарэшце,— бярыце! Стварайце! Лячыце!

Не ўмеем. Развучыліся. Самі хворыя...

Паспрабуйце скакаць з перабітымі нагамі.

Я ўзіраюся ў твары сваіх сяброў. Я хачу зразумець... і перш за ўсё сябе самога. І гэткую ж пакуту бачу ў іх вачах... А там паміраюць:

Гамлет... Хлестакоў... Дон-Кіхот...

Папялушка... Афелія... Ганна Карэніна...

А час не спыніць!

І нельга заплюшчыць вочы, прыкінуцца, што ўсё добра (калі, вядома, зноў жа не трызніць!), ці, як семкамі, пляваццa словамі — гучнымі, патрыятычнымі, вось ужо многія гады запар на хаду перабудоўваючыся: змяняючы то фрэнч з накладнымі кішэнямі на каракулевую шапку, то каракулевую шапку на пыжыкавую... І нельга сядзець склаўшы рукі, з усмешкай ідыёта назіраючы за ўсім збоку... І ўвесь час толькі вініць кагосьці ў чымсьці — дарэмная трата часу...

Азіраючыся назад, яшчэ раз хачу асэнсаваць мінулае. Бо менавіта ў мінулым — аснова будучыні. Якое зерне ў раллю кінута — такая рунь і ўзыдзе. І няма іншых вінаватых, апроч саміх сейбітаў...

Што ж застаецца!!.

Ну вядома ж — адзінае, і ва ўсе вякі вечнае: верыць. Верыць, як той манах, што кожны дзень паліваў сухое дрэва...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Наша мэта: стварыць лепшы ў свеце тэатр для дзяцей і юнацтва.

**Анатоль ЖУК**

Фота Ігара САЎЧАНКІ



**Валерый ЯРМОЛЕНКА**



# ракавая перспектыва



Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ

Ціхі вечар над возерам. Нібыта дождж — па паверхні вады разыходзяцца кругі — рыба гуляе — і раптам... чорны бок сома-гіганта вывернуўся з вады, парушыўшы цішыню.

**Так было раней...**

Калі забруджванне прыроды будзе працягвацца такімі ж самымі тэмпамі, то да 2020 года чалавецтва знішчыць сябе экалагічнай катастрофаю.

**Так будзе, калі...**

Каго з нас не апаноўвала грыбная ліхаманка, калі, ідучы па лесе, раптам выходзіш на паляну, скрозь утыканую капялюшыкамі сапраўдных грыбных каралёў? Здаецца, ну што можа знішчыць такія прасторы? Але вось праходзіце вы летам па беразе ціхага чыстага ляснога ручайка, удалечыні ад гарадоў і вёсак, і раптам бачыце ў траве на беразе ра́ка — памірае нябога. Праходзіце далей — яшчэ адзін і яшчэ... Што за трагедыя ў дзікіх мясцінах, дзе няма ўгнаенняў і іншых ядавітых рэчываў? Разгадка простая — і да Беларусі ўжо дабіраюцца звычайныя кіслотныя дажджы, і ракі, насельнікі чыстай прыроды,— першыя ахвяры чалавечай беспрынцыпнасці. А як вы ставіцеся да ўжо амаль што звычных трагедый: рака Заходняя Дзвіна, што ніжэй Наваполацкага гіганта, на дзесяткі кіламетраў робіцца атручаная, а рыба, якой удаецца выжыць пасля гэтага, аб'яўляецца неядомай...

Так, цяпер ужо практычна няма такіх мясцін, куды б не ступала нага чалавека. Вось ідзяце вы па лесе — і раптам перад вамі адкрываецца паляна, прыгожы зялёны паплавец, дзе так прыемна пасядзець, перадыхнуць. Але, агледзеўшыся, можна прыкмеціць, што паляна закідана абрыўкамі газет, рванымі поліэтыленавымі пакетамі, кансервавымі бляшанкамі і іншымі рэчамі, відавочна не ляснога паходжання. Вядома, тут спыняўся аўтобус з ягаднікамі ці грыбнікамі, і яны ўжо «адпачылі». Вам, канечне, такая паляна здасца адразу дрэннай, і прыйдзецца шукаць іншую, яшчэ не абжытую. А пасля вас і тая, неабжытая паляна, стане абжытай, і такі працэс ідзе бесперапынна, гадамі...

Але вось вы забраліся ў вельмі дзікія мясціны, на рэчку з чыстай вадою. Надзеўшы маску і трубку, ныраеце. Здавалася б, рыба тут павінна быць зусім непалоханая, вялікая. Але, выяўляецца, сярод цудоўных водарасцей, белых гарлачыкаў і лілей чамусьці не відаць рыбы. Прычым не толькі вялікай — малькоў няма, гурты якіх у іншых мясцінах сустракаюцца амаль што ўсюды. У рэдкага тутэйшага чалавека пытаецеся, чаму ў рацэ няма рыбы? «Ды,— кажа,— увесну праплылі на лодцы нейкія з электравудою, узялі кілаграмаў

дзвесце, пэўна, мала засталося».

У наш век электронікі і аўтамататэхнікі кожны другі браканьер мае электравуду і можа хутка дабрацца да любога, самага дзікага кутка Беларусі. Даведка: злоўлены просты браканьер падвяргаецца штрафу ў памеры 10 рублёў, а асоба, што займае якую-небудзь пасаду,— у памеры 50 рублёў. Рэчка ж становіцца на некалькі гадоў бязрыбная. Для параўнання: да адзінаццаці гадоў турмовага зняволення і да выплаты штрафу ў памеры 350 тысяч долараў прысудзіў суд акругі Мантгомеры (ЗША) прэзідэнта кампаніі гумаватэхнічных вырабаў Ісаака Фогеля за тое, што ён высек некалькі дзесяткаў дрэў на ўласным участку, парушыўшы закон аб забароне высякаць дрэвы, якія ўмацоўваюць берагі ракі.

Дарэчы, а ці чулі вы, каб у нас некага пакаралі за высечаныя на беразе ракі дрэвы? А за высечаныя гаі?

Вядома, барацьба ў нас вядзецца, але толькі для справаздачы: летась пакарана столькі чалавек, сёлета — на 2 працэнты болей...

Якое ж выйсце з дадзенай сітуацыі, што можа ўратаваць нашую прыроду? Як паказвае вопыт, выйсце адно — строгая дысцыпліна ва ўсім. А з'яўленне яе залежыць толькі ад нас усіх. На кожнага грыбніка не набярэшся ляснікоў, каб прымушаць яго закопваць у лесе сваё смецце; калі кожны рыбак абзавядзецца электравудою, што цяпер зрабіць няцяжка,— усіх не пераловіш. Значыцца, трэба ўсім засвоіць, што да 2020 года чалавецтва само сябе знішчыць, калі не пераадолее сваю сквапнасць і беспрынцыпнасць. Памятаць трэба, што калі я сам сябе не буду кантраляваць, і суседа таксама, то да 2020 года...

З чаго ж пачынаецца дысцыпліна? З дакладнасці наяўных законаў. Прававая рэформа ў нас наперадзе, а прыродаахоўнае заканадаўства будзе перапрацоўвацца, напэўна, у апошнюю чаргу, але нам з вамі трэба ўжо зараз удакладніць многія няпэўнасці. Вось, напрыклад, простае пытанне: дзе можна палатку паставіць, а дзе нельга? Цяпер вам на гэтае пытанне ніхто не адкажа, бо забараняць пачалі ўжо ўсе, хто мае права і хто не. Раней забараняць меў права толькі Вярхоўны Савет БССР: месца аб'яўлялася заказнікам (напрыклад, заказнік «Блакітныя азёры» Мядзельскага раёна). А цяпер забарону можа накласці любы сельскі Савет і вас могуць аштрафаваць з-за вашай непісьменнасці. Відаць, палажэнню Канстытуцыі СССР аб тым, што зямля належыць усяму народу, у нас не надаюць ніякага практычнага значэння. Ці вось падводнае паляванне — гэта спорт ці браканьерства? Нехта лічыць, што спорт, прычым спорт людзей загартаваных і мужных. Але часцей той, хто кіруе, не займаецца спортам і не паважае падводнае паляванне. Таму яно нібыта не забароненае, але не ўздумайце плаваць з падводнай стрэльбаю. Вас адразу ж запішуць у браканьеры. Вы спытаецеся: а як даведацца, дзе можна, а дзе нельга плаваць з падводнай стрэльбаю? Адкажу: практычна ніяк. Сказваюцца ўсялякія магчымыя і немагчымыя забароны. Хоць і ёсць такая арганізацыя — Белрыбвод, якая нібыта павінна ў сваім штогоднім загадзе на забарону рыбнай лоўлі называць мясціны, дзе забаронена падводнае паляванне, але кіраўнікі яе лічаць, што не павінна. А хто можа прымусіць іх рабіць дадатковую работу? Ніхто. Так і застаецца пытанне адкрытае. Увогуле, з дакладнасцю забаронных законаў у нас яшчэ далёка не ўсё ў парадку.

Вядома, цяпер вельмі многія турысты паводзяць сябе на прыродзе акуратна, закапваюць смецце, абкладваюць камянямі вогнішчы, ладзяць найпрацейшыя прыбіральні і смеццевыя яміны, не забываюцца выраўніваць за сабою выкапаныя вакол палатак «траншэі», уступаюць у барацьбу з узброенымі браканьерамі. А астатнія? Пакуль яшчэ высякаюць зялёныя, жывыя дрэўцы, пакідаюць за сабою сляды «стаянкі палеаліту» і робяць усё, каб да 2020 года ад прыроды нічога не засталося. І ад нас таксама.



Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА






**Прэса паведаміла пра міжнародны рух «Next Stop — Soviet», у рамках якога восенню гэтага года ў СССР рэалізуюцца такія праекты, як культурны цягнік «Капенгаген — Навасібірск», акцыя «Чарнобыль — Барсэбек», рок-канцэрт на Чырвонай плошчы, армада караблёў на Волзе і інш. Шэраг сумесных са скандынавамі праграм рэалізуецца і ў нашай рэспубліцы. Адна з найбуйнейшых — «Тэатральны караван» — Капенгаген — Варшава — Мінск — Рудзенск — Масква, у якім прымуць удзел больш за 10 замежных тэатральных і цыркавых груп і вялікая колькасць беларускіх калектываў.**



**Адна з беларускіх праграм — «Фотапраект» — рэалізуецца на працягу года ў Маскве, Капенгагене і Мінску. Мы змяшчаем частку здымкаў удзельніка «Фотапраекта» Алега Дыбава. Месца здымкі — Капенгаген, час — 5—10 красавіка.**






